# ЗМЕСТ

# ПАРУШЭННІ СВАБОДЫ ВЫКАЗВАННЯ МЕРКАВАННЯ Ў БЕЛАРУСІ Ў 2011 г. (агляд)

Вызначальны ўплыў на развіццё сітуацыі са СМІ ў Беларусі ў 2011 г. зрабіў палітычны і эканамічны крызіс у краіне пасля прэзідэнцкіх выбараў 19 снежня 2011 г. і наступных рэпрэсій супраць апазіцыі і грамадзянскай супольнасці.

Найбольш сур'ёзнымі парушэннямі правоў незалежных СМІ і журналістаў у 2011 г. былі:

- крымінальны пераслед журналістаў;
- масавыя затрыманні журналістаў у часе акцый пратэсту на працягу ўсяго 2011 г.;
- пазбаўленне «Аўтарадыё» права на вяшчанне і зыскі аб спыненні выпуску газет «Народная воля» і «Наша Ніва»;
- вяртанне ў Беларусь «чорных» спісаў артыстаў, літаратараў, музыкаў;
- абмежаванне свабоды дзейнасці ў інтэрнэце;
- узмацненне эканамічнай дыскрымінацыі незалежных СМІ.

## Крымінальны пераслед журналістаў

Пасля прэзідэнцкіх выбараў 2010 г. супраць сямі журналістаў і сябраў ГА "БАЖ" былі заведзены крымінальныя справы па абвінавачанні іх у арганізацыі масавых беспарадкаў і ўдзеле ў іх, альбо ў арганізацыі дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак. Журналістка «Новой газеты» (Расія) Ірына Халіп, прэс-сакратар экс-кандыдата на прэзідэнта Андрэя Саннікава Аляксандр Атрошчанкаў, рэдактар сайта «Хартыя-97» Наталля Радзіна, а таксама актывісты штабоў кандыдатаў на прэзідэнта публіцыст Аляксандр Фядута, рэдактар газеты «Товарищ» Сяргей Вазняк, сябра Рады ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» Павел Севярынец і сябра ГА "БАЖ" Зміцер Бандарэнка былі змешчаны пад варту.

У красавіку-маі 2011 г. у дачыненні да шасці з іх былі вынесеныя абвінаваўчыя прысуды, прычым у дачыненні да А. Атрошчанкава і З. Бандарэнкі – звязаныя з рэальным пазбаўленнем волі (адпаведна 4 гады калоніі ўзмоцненага рэжыму і 2 гады калоніі агульнага рэжыму).

4 верасня А. Атрошчанкаў быў вызвалены паводле ўказу прэзідэнта аб памілаванні разам з 10-ю іншымі палітзняволенымі, асуджанымі за ўдзел у акцыі пратэсту ў Мінску 19 снежня 2010 г. А. Атрошчанкаў паведаміў, што ў калоніі яму настойліва прапаноўвалі напісаць прашэнне аб памілаванні на імя прэзідэнта, аднак ён адмовіўся. "На акцыі пратэсту 19 снежня я прысутнічаў выключна як журналіст і прэс-сакратар кандыдата на прэзідэнта", — заявіў А. Атрошчанкаў.

Яшчэ адна фігурантка па справе 19 снежня, журналістка Наталля Радзіна ў канцы сакавіка 2011 г. таемна пакінула краіну. 23 жніўня крымінальны пераслед Н. Радзінай па факце здзяйснення масавых беспарадкаў быў спынены, аднак з меркаванняў бяспекі Н. Радзіна ў Беларусь не вярнулася. Рэдакцыя сайта працягвае сваю дзейнасць з-за мяжы. 8 верасня стала вядома пра прадастаўленне Наталлі Радзінай палітычнага прытулку Літоўскай Рэспублікай.

«Традыцыйна» пасля выбараў улады выкарыстоўвалі крымінальны пераслед па абвінавачанні ў паклёпе на прэзідэнта і яго знявазе. Крымінальная справа была заведзеная ў дачыненні да гродзенскага журналіста Андрэя Пачобута за крытычныя матэрыялы, якія ён на працягу 2010 – 2011 гг. публікаваў на старонках польскай Gazety Wyborczej, на сайце «Белорусский партизан» і ў сваім блогу poczobut.livejournal.com. У красавіку А. Пачобута змясцілі пад варту. Справу разглядалі ў закрытым судовым паседжанні.

5 ліпеня суд Ленінскага раёна г. Гродна прызнаў журналіста вінаватым у паклёпе на прэзідэнта і асудзіў на 3 гады пазбаўлення волі з адтэрміноўкай выканання прысуду на 2 гады (у выпадку парушэння заканадаўства А. Пачобут можа быць накіраваны ў калонію). Абвінавачанні ў знявазе прэзідэнта з А. Пачобута былі знятыя. Журналіст быў вызвалены з-пад варты ў зале суда.

У чэрвені стала вядома пра ўзбуджэнне крымінальнай справы паводле арт. 370 Крымінальнага кодэкса («Здзек з дзяржаўных сімвалаў») у дачыненні да блогера Яўгена Ліпковіча. Нагодай для пачатку крымінальнай справы сталі ілюстрацыі, зробленыя з дапамогай фотамантажу, размешчаныя ў блогу Я. Ліпковіча lipkovich.livejournal.com.

## Затрыманні журналістаў у часе акцый пратэсту

На працягу ўсяго 2011 г. супрацоўнікі праваахоўных органаў і сілавых структур паўсюдна затрымлівалі журналістаў у часе выканання імі сваіх прафесійных абавязкаў на масавых акцыях.

Найбольш масавыя затрыманні журналістаў адбываліся ў часе летніх акцый пратэсту, што арганізаваліся праз сацыяльныя сеткі («акцыі маўчання»).

Прадстаўнікі сілавых структур перашкаджалі журналістам выконваць свае абавязкі, затрымлівалі, прыцягвалі да адміністратыўнай адказнасці.

Усяго ў часе «акцый маўчання» было зафіксавана як мінімум 95 (дзевяноста пяць) выпадкаў затрымання журналістаў па ўсёй Беларусі. Затрыманні праводзіліся жорстка, часам са збіццём журналістаў і пашкоджаннем іх прафесійнай тэхнікі. 22 з журналістаў, затрыманых у часе гэтых акцый, прайшлі праз суды, большасць з іх (13 чалавек) былі асуджаныя на адміністратыўны арышт, астатнія атрымалі штрафы. Найбольш жорстка сілавыя структуры дзейнічалі 3 і 6 ліпеня, калі былі затрыманыя адпаведна 20 і 28 журналістаў.

Усяго за 2011 г. ГА «БАЖ» зафіксавала больш за 150 выпадкаў затрымання журналістаў у часе выканання імі прафесійных абавязкаў. Як мінімум 7 з журналістаў падвяргаліся фізічнаму гвалту.

## Пазбаўленне «Аўтарадыё» права на вяшчанне і зыскі Міністэрства інфармацыі аб спыненні выпуску газет «Народная воля» і «Наша Ніва»

10 студзеня 2011 г. Міністэрства інфармацыі пазбавіла FM-радыёстанцыю «Аўтарадыё» права на вяшчанне за распаўсюд інфармацыі, якая ўтрымлівала, па меркаванні міністэрства, «публічныя заклікі да экстрэмісцкай дзейнасці». Заклікамі да

экстрэмісцкай дзейнасці Мініфарм палічыў фразу «лёс краіны вырашаецца не на кухні, а на плошчы», якая прагучала ў рэкламным роліку кандыдата на прэзідэнта Андрэя Саннікава. Спробы ЗАТ «Аўтарадыё» абскардзіць рашэнне міністэрства аказаліся марнымі.

27 красавіка Міністэрства інфармацыі звярнулася ў суд з зыскамі аб закрыцці газет «Народная воля» і «Наша Ніва» (менавіта гэтыя дзве газеты былі паказальна вернутыя ў дзяржаўныя сеткі распаўсюду ў 2008 г. як знак гатовасці афіцыйнага Мінска пайсці насустрач еўрапейскім структурам). Справа выклікала вялікі рэзананс як унутры краіны, так і за мяжой. у выніку 12 і 13 ліпеня Міністэрства інфармацыі зыскі аб спыненні выхаду гэтых выданняў адклікала. Аднак адначасова яно ініцыявала ўзбуджэнне ў дачыненні да рэдакцый «Народнай волі» і «Нашай Нівы» спраў аб адміністратыўных правапарушэннях, і ў канцы ліпеня выданні былі аштрафаваныя на 14 млн. рублёў кожнае (каля 2 тыс. еўра па курсе Нацыянальнага банка) па ч. 3 арт. 22.9 кодэкса аб адміністратыўных правапарушэннях. Гэты артыкул КаАП вызначае адказнасць за паўторнае цягам года атрыманне папярэджання рэдакцыяй СМІ і быў ужыты ўпершыню.

## Вяртанне ў Беларусь «чорных» спісаў артыстаў, літаратараў, музыкаў, выступленні якіх і згадкі пра якіх у дзяржаўных СМІ забароненыя

Яшчэ адным трывожным паказчыкам стану свабоды выказвання меркавання ў краіне стала вяртанне ў Беларусь у 2011 г. спісу «дзеячоў мастацтва і творчых калектываў», якія забаронены для згадвання ў дзяржаўных СМІ і на FM-станцыях. У «чорны спіс» трапілі не толькі беларускія, але і замежныя музыкі, артысты, пісьменнікі, мастакі, сярод якіх групы «ДДТ» і «Pet Shop Boys», пісьменнікі Андрэй Бітаў і Эдуард Успенскі, драматург Том Стопард, акцёры Джуд Лоў і Кевін Спейсі і інш. Адныя з іх выказваліся ў падтрымку палітзняволеных у Беларусі, другія – узялі ўдзел у Глабальнай артыстычнай кампаніі салідарнасці з Беларуссю і г.д. Афіцыйныя асобы існаванне «чорных спісаў» адмаўляюць, аднак серыя забаронаў на выступы ў Беларусі груп і музыкаў, унесеных у гэты спіс («Ляпис Трубецкой», «Нейро Дюбель», «Крамбамбуля», Д. Вайцюшкевіч і інш.) пацвярджае існаванне негалосных забаронаў.

«Чорныя спісы» забароненых музыкаў існавалі ў Беларусі і ў перыяд пасля папярэдніх прэзідэнцкіх выбараў, з 2006 по 2008 г. Зараз гэтыя «спісы» пашырыліся, і падставай для ўключэння ў іх стаў не ўдзел у акцыях апазіцыі, а выказванне свайго меркавання пра працэсы, што адбываюцца ў краіне.

## Абмежаванне свабоды дзейнасці ў Інтэрнэце

Вясной 2011 г. Генеральная пракуратура Беларусі вынесла пастанову аб абмежаванні доступу да папулярных беларускіх інфармацыйных інтэрнэт-рэсурсаў «Хартыя 97» і «Белорусский партизан», спасылаючыся на парушэнне імі закона «Аб масавых мерапрыемствах у рэспубліцы Беларусь». Інтэрнэт-правайдэрам прадпісана закрыць доступ да гэтых сайтаў для дзяржаўных арганізацый, установаў адукацыі і культуры.

Да пачатку 2012 г. у спісы абмежаванага доступу былі ўключаны каля 60 сайтаў. Акрамя порнарэсурсаў і сайтаў тэрарыстычнага альбо экстрэмісцкага характару, у іх

знаходзяцца ўжо названыя сайты charter97.org, belaruspartisan.org, а таксама spring96.org (сайт праваабарончай арганізацыі «Вясна»), prokopovich.net, prokopovi.ch, блог ліпковіча ў «ЖЖ».

У лістападзе 2011 г. Кодэкс аб адміністратыўных правапарушэннях быў дапоўнены артыкулам 22.16. кааП «Парушэнне патрабаванняў па выкарыстанні нацыянальнага сегменту сеткі Інтэрнэт» (уступіў у сілу ў студзені 2012 г.). Артыкул вызначыў адказнасць у выглядзе штрафу для суб’ектаў гаспадарання, якія з парушэннямі заканадаўства аказваюць інтэрнэт-паслугі альбо выкарыстоўваюць інтэрнэт для продажу, выканання работ, аказання паслуг. У тым ліку караюцца незабеспячэнне правайдэрамі абмежавання доступу да «забароненых» сайтаў для дзяржаўных арганізацый, устаноў адукацыі і культуры і невыкананне патрабаванняў заканадаўства аб ідэнтыфікацыі мадэмных прыладаў альбо карыстальнікаў інтэрнэту. Штрафныя санкцыі не распаўсюджваюцца на звычайных карыстальнікаў Байнэту.

У канцы 2011 г. адбылося несанкцыянаванае ўмяшальніцтва ў дзейнасць сайта charter97.org. Невядомыя скралі паролі і пачалі знішчаць матэрыялы, размешчаныя на гэтым сайце, а таксама размясцілі на ім правакацыйны матэрыял, да якога рэдакцыя не мела дачынення. Пасля аднаўлення працы сайта на яго пачалася моцная DDoS-атака. Па словах рэдактара інтэрнэт-рэсурсу Наталлі Радзінай, невядомыя спрабавалі ўзламаць і некалькі іншых сайтаў, а таксама паштовыя скрыні некаторых палітыкаў, журналістаў і грамадскіх дзеячоў. назіральнікі лічаць, што за ўзломамі сайтаў і DDoS-атакамі на іх стаяць беларускія спецслужбы.

## Эканамічная дыскрымінацыя незалежных СМІ

У 2011 г. улады працягвалі палітыку эканамічнай дыскрымінацыі незалежных СМІ, з аднаго боку, і матэрыяльных і адміністратыўных прэферэнцый дзяржаўным СМІ – з другога.

На пазаконкурснай аснове з бюджэту былі выдаткаваныя субсідыі рэдакцыям дзяржаўных СМІ па спісах, якія зацвярджаюцца ўрадам альбо мясцовымі выканаўчымі органамі ўлады, а таксама рэдакцыі газеты «Советская Белоруссия», заснаванай адміністрацыяй Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Усяго ў 2011 г. на падтрымку дзяржаўных СМІ з рэспубліканскага бюджэту было накіравана каля 54 млн. еўра.

У той жа час недзяржаўным СМІ даводзілася аплачваць паперу, друкарскія і інш. паслугі па тарыфах, якія значна перавышаюць аналагічныя для дзяржаўных.

Такім чынам,

- ціск на СМІ і журналістаў у 2011 г. ажыццяўлялася рознымі спосабамі, уключаючы самыя жорсткія (крымінальны пераслед, прымяненне гвалту ў дачыненні да журналістаў, правядзенне вобшукаў, адміністратыўныя арышты, спыненне дзейнасці СМІ);
- гэты ціск рэзка ўзмацніўся ў перыяд грамадска значных падзеяў альбо ў сувязі з пагаршэннем агульнай сітуацыі ў краіне;

улады рабілі спробы абмежаваць свабоду выказвання меркавання ва ўсіх рэгіёнах краіны і сектарах медыйнага поля (спыненне вяшчання радыёстанцыі, ініцыяванне закрыцця друкаваных выданняў, спробы ўзяць пад кантроль і абмежаваць дзейнасць у інтэрнэце, паўсюднае стварэнне перашкодаў прафесійнай дзейнасці журналістаў, складанне «чорных» спісаў забароненых музыкаў, артыстаў, літаратараў і г.д.).

# ЗМЕНЫ Ў ЗАКАНАДАЎСТВЕ

З нарматыўна-прававых актаў, прынятых у 2011 г., найбольшы рэзананс выклікала ўнясенне ў Кодэкс аб адміністратыўных правапарушэннях артыкула 22.16 "Парушэнне патрабаванняў па выкарыстанні нацыянальнага сегмента сеткі Інтэрнэт". Напярэдадні ўступлення закона аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у КаАП у сілу некаторыя каментатары прыраўнялі гэтыя папраўкі да забароны на выкарыстанне Інтэрнэту. Аднак і аналіз саміх зменаў заканадаўства, і практыка яго ўжывання не даюць ніякіх падстаў для падобных высноў.

Увагу грамадскасці выклікала таксама ўнясенне ўвосень 2011 г. зменаў і дапаўненняў у законы "Аб грамадскіх аб'яднаннях", "Аб парадку атрымання і выкарыстання замежнай бязвыплатнай дапамогі", "Аб масавых мерапрыемствах", "Аб органах дзяржаўнай бяспекі", у Крымінальны кодэкс і Кодэкс аб адміністратыўных правапарушэннях. Большасць гэтых зменаў і дапаўненняў не датычацца непасрэдна СМІ, але з улікам беларускай практыкі правапрымянення ўяўляюць пэўную пагрозу і для журналістаў, і для медыяарганізацый у краіне.

**3 студзеня Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь пастановай № 3 зацвердзіў Пагадненне** паміж Міністэрствам сувязі і інфарматызацыі Рэспублікі Беларусь і Міністэрствам камунікацый і тэхналогій Сірыйскай Арабскай Рэспублікі пра супрацоўніцтва ў галіне электрасувязі і інфармацыйна-камунікацыйных тэхналогій.

**10 студзеня Брэсцкі абласны выканаўчы камітэт рашэннем № 15 вызначыў пералік сродкаў масавай інфармацыі для апублікавання паведамленняў** (інфармацыйных паведамленняў). Аналагічныя рашэнні прынялі:

- 28.02.2011 г. Магілёўскі абласны выканаўчы камітэт (рашэнне ад № 4-10)
- 14.05.2011 г. Гомельскі абласны выканаўчы камітэт (рашэнне ад № 551)
- 17.08.2011 г. Гродзенскі абласны выканаўчы камітэт (рашэнне № 578)
- 07.10.2011 г. Мінскі абласны выканаўчы камітэт (рашэнне № 1385)

**28 сакавіка пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь № 384 зацверджаная Нацыянальная праграма паскоранага развіцця паслуг у сферы інфармацыйна-камунікацыйных тэхналогій на 2011-2015 гады.** Праграма прадугледжвае, што для паспяховага развіцця інфармацыйнага грамадства неабходна:

- паскорыць стварэнне інфраструктуры для падавання дзяржаўнымі органамі электронных паслуг з выкарыстаннем сродкаў электроннага лічбавага подпісу,
- развіваць экспартна-арыентаваную галіну паслуг у сферы інфармацыйных тэхналогій,
- пашырыць прадстаўніцтва дзяржавы, бізнесу, грамадскіх арганізацый у глабальнай кампьютарнай сетцы Інтэрнэт,
- прыняць меры па падвышэнні ўзроўню кампьютарнай адукаванасці дзяржаўных службоўцаў і насельніцтва ў цэлым,
- забяспечыць эфектыўнае ўжыванне сучасных магчымасцяў інфармацыйна-камунікацыйных тэхналогій пры рашэнні задач у сферы занятасці насельніцтва,
- удасканальваць сістэму ўзаемадзеяння дзяржавы і бізнесу ў сферы

інфарматызацыі.

**17 траўня выдадзены ўказ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь № 192 "Аб падтрымцы асобных сродкаў масавай інфармацыі і некаторых арганізацый"** (30.09.2011 г. у яго былі ўнесеныя змены ўказам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь №439).

У адпаведнасці з указам у яго канчатковай рэдакцыі вызначаныя кірункі выкарыстання субсідый, якія выдаткоўваюцца рэдакцыям дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі.

З рэспубліканскага бюджэту аказваецца падтрымка:

- рэдакцыям на аплату выдаткаў па падачы і эфірнай трансляцыі тэлепраграм,
- рэдакцыі газеты "Советская Белоруссия" ў выглядзе субсідый на пакрыццё выдаткаў на вытворчасць, выпуск і распаўсюд газет "The Minsk times", "Голас Радзімы" і часопіса "Беларусь. Belarus",
- Беларускаму тэлеграфнаму агенцтву (БелТА) на аплату выдаткаў па зборы, падрыхтоўцы і распаўсюдзе афіцыйнай інфармацыі, а таксама выдаткаў, звязаных з забеспячэннем функцыянавання афіцыйнага Інтэрнэт-партала Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, суправаджэннем афіцыйнага інтэрнэт-сайта Рэспублікі Беларусь "Belarus.by", выданнем і распаўсюдам бюлетэня "Інфармацыйны бюлетэнь Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь" і часопіса "Беларуская думка";
- дзяржаўным юрыдычным асобам, якія ажыццяўляюць выдавецкую дзейнасць, у выглядзе субсідый, выдаткаваных на ўмовах удзелу ў фінансаванні (суфінансаванні), на падрыхтоўку і выпуск выданняў, якія выпускаюцца ў выкананне дзяржаўных праграм.

З мясцовага бюджэту можа аказвацца падтрымка рэдакцыям:

- на аплату выдаткаў па падачы і эфірнай трансляцыі тэле- і радыёпраграм, а пры аказанні паслугі праваднога вяшчання - на аплату выдаткаў па эксплуатацыі тэхнічных сродкаў сувязі для забеспячэння тэле- і радыёвяшчання ў адпаведнасці з пералікамі тэлевізійных і радыёвяшчальных сродкаў масавай інфармацыі, рэдакцыям якіх аказваецца падтрымка, якія зацвярджаюцца адпаведнымі мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі;
- на правядзенне бягучага рамонту капітальных пабудоў (будынкаў і збудаванняў) і ізаляваных памяшканняў, якія знаходзяцца ў іх уласнасці, гаспадарчым вядзенні, аператыўным кіраванні ці ў часавым карыстанні.

**18 ліпеня прынятыя Закон "Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб"**. Закон уступіў у сілу праз шэсць месяцаў пасля яго афіцыйнага апублікавання (21.07.2011 г.), г. зн. з 22.01.2012 г., і з моманту яго ўступлення раней дзеючы Закон "Аб зваротах грамадзян" страціў сілу.

Ужо зыходзячы з назвы новага Закона - "Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб" - бачна, што Законам больш дэталёва рэгулююцца правы і абавязкі ў сферы падачы і разгляду зваротаў не толькі грамадзян, але і юрыдычных асоб. Ёсць і іншыя змены.

Так, калі раней зварот мог быць выкладзены ў вуснай ці пісьмовай форме, то паводле новага Закона замацаваная і электронная форма падання звароту.

Законам дапоўнена значэнне тэрміна "пісьмовы зварот". Калі раней гэта быў

зварот грамадзяніна (грамадзян) у дзяржаўны орган, іншую арганізацыю выкладзены ў пісьмовай форме, то зараз да зваротаў аднесеныя і заўвагі і (ці) прапановы, занесеныя ў кнігу заўваг і прапаноў.

У новым Законе пашыраныя правы заяўнікаў. Замацаванае права заяўнікаў падаваць дадатковыя дакументы і (ці) звесткі альбо звяртацца з просьбай пра іх выпатрабаванне ў выпадку, калі выпатрабаванне такіх дакументаў і (ці) звестак не закранае правы, свабоды і (ці) законныя інтарэсы іншых асоб і ў іх не ўтрымліваюцца звесткі, якія складаюць дзяржаўныя сакрэты, камерцыйную і (ці) іншую ахоўваемую законам таямніцу.

Што да патрабаванняў да зваротаў, то ў артыкуле 12 Закона асобна прапісаныя патрабаванні, датычныя да зваротаў юрыдычных асоб, а таксама вызначаецца, што тэкст звароту павінен паддавацца чытанню. Рукапісныя звароты мусяць быць напісаныя выразным, разборлівым почыркам. Не дапускаецца выкарыстанне ў зваротах нецэнзурных альбо абразлівых слоў ці выразаў.

Законам упершыню прапісанае права службовай асобы пакінуць без разгляду па існасці вусны зварот заяўніка. Магчыма гэта ў выпадку калі:

- не прад'яўленыя дакументы, якія пацвярджаюць асобу заяўнікаў, іх прадстаўнікоў, а таксама дакументы, што пацвярджаюць паўнамоцтвы прадстаўнікоў заяўнікаў;
- звароты ўтрымліваюць пытанні, рашэнне якіх не адносіцца да кампетэнцыі арганізацыі, у якой праводзіцца асабісты прыём;
- заяўніку падчас асабістага прыёму ўжо быў дадзены вычарпальны адказ на пытанні, якія яго цікавяць, альбо перапіска з гэтым заяўнікам па такіх пытаннях была спыненая;
- заяўнік падчас асабістага прыёму дапускае ўжыванне нецэнзурных альбо абразлівых слоў ці выразаў.

Тэрміны разгляду зваротаў у адпаведнасці з новым Законам не змяніліся. Пісьмовыя звароты мусяць быць разгледжаныя не пазней за пятнаццаць дзён, а звароты, якія патрабуюць дадатковага вывучэння і праверкі, - не пазней за адзін месяц, калі іншы тэрмін не вызначаны заканадаўчымі актамі.

Пісьмовыя адказы на пісьмовыя звароты мусяць быць абгрунтаванымі і матываванымі, утрымліваць дакладныя фармулёўкі, якія аспрэчваюць ці пацвярджаюць довады заяўнікаў.

Пісьмовыя адказы на скаргі павінны ўтрымліваць аналіз і адзнаку ў дачыненні дзеянняў (бяздзеянняў) арганізацый, індывідуальных прадпрымальнікаў і іх працаўнікоў, інфармацыю пра прынятыя меры ў выпадку прызнання скаргаў абгрунтаванымі.

Больш дэталёва ў Законе прапісаны і парадак абскарджання адказаў на звароты. Так, у артыкуле 20 указана, што адказ на зварот ці рашэнне пра пакіданне звароту без разгляду па існасці могуць быць абскарджаныя ў вышэйшую арганізацыю. Пры гэтым інфармацыя пра назву, месца знаходжання і рэжым працы вышэйшай арганізацыі размяшчаецца ў агульнадаступных месцах. Вышэйшая арганізацыя, у выпадку наяўнасці падставаў для станоўчага рашэння выкладзеных у звароце пытанняў, мае права самастойна разгледзець зварот па існасці, альбо выдаць абавязковае для выканання прадпісанне адпаведнай арганізацыі, пра што паведамляе заяўніку.

Асобным артыкулам заканадаўцам рэгулюецца парадак разгляду электронных зваротаў. У цэлым, парадак разгляду электронных зваротаў ажыццяўляецца па

правілах, вызначаных для разгляду пісьмовых зваротаў. Патрабаванні да афармлення электронных зваротаў заяўнікаў прад'яўляюцца такія ж, як і да афармлення пісьмовых зваротаў грамадзян і юрыдычных асоб, за выключэннем асабістага подпісу і подпісу кіраўніка (упаўнаважанай асобы) адпаведна. Электронны зварот мусіць утрымліваць адрас электроннай пошты заяўніка.

Адказы на электронныя звароты накіроўваюцца на адрас электроннай пошты заяўнікаў. Пісьмовы адказ даецца ў выпадках, калі заяўнік просіць пра гэта, у звароце адсутнічае адрас электроннай пошты, а таксама калі рашэнне пра накіраванне пісьмовага адказу прынятае кіраўніком дзяржаўнага органа ці іншай дзяржаўнай арганізацыі ці асобы, упаўнаважанай ім падпісваць у вызначаным парадку адказы на звароты.

**15 жніўня падпісаная Дамова паміж Урадам Рэспублікі Беларусь і Урадам Дзяржавы Катар пра супрацоўніцтва ў галіне сродкаў масавай інфармацыі.**

**8 лістапада ўнесеныя змены ў законы "Аб грамадскіх аб'яднаннях", "Аб палітычных партыях", "Аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь", а таксама ў Крымінальны, Крымінальна-працэсуальны, Выбарчы кодэксы і Кодэкс аб адміністратыўных правапарушэннях.**

*Сярод зменаў закона "Аб масавых мерапрыемствах ў Рэспубліцы Беларусь", варта адзначыць наступныя:*

1) Да пікетавання прыраўноўваецца сумесная масавая прысутнасць грамадзян у загадзя вызначаным месцы (у тым ліку пад адкрытым небам) у вызначаны час для здзяйснення вызначанай дзеі (гэтым тэрмінам ахопліваецца як дзеянне, так і бяздзейнасць), арганізаванае, у тым ліку праз Інтэрнэт, для публічнага выказвання сваіх грамадска-палітычных інтарэсаў ці пратэсту. Такім чынам, норма закона вызначыла адказнасць нават за бяздзейнасць.

2) Забараняецца да атрымання дазволу на правядзенне масавага мерапрыемства, распаўсюджваць інфармацыю пра дату, месца і час яго правядзення не толькі ў СМІ, але і праз сетку Інтэрнэт. Такі дазвол можа быць выдадзены дзяржаўным органам толькі за пяць дзён да даты мерапрыемства.

3) Пашыраныя паўнамоцтвы супрацоўнікаў органаў унутраных спраў, якія атрымалі права агароджваць тэрыторыі месцаў правядзення масавых мерапрыемстваў, рабіць фотаздымкі, аўдыё- і відэазапіс удзельнікаў масавых мерапрыемстваў, ажыццяўляць прапускны рэжым, праводзіць асабісты дагляд грамадзян і рэчаў, што знаходзяцца пры іх, а ў выпадку адмовы грамадзяніна ад дагляду - не дапускаць грамадзян да месца правядзення масавага мерапрыемства. Пералічаныя абмежаванні распаўсюджваюцца і на журналістаў.

*У новай рэдакцыі Закона "Аб грамадскіх аб'яднаннях"* забараняецца дзейнасць грамадскіх аб'яднанняў, саюзаў, накіраваная на садзейнічанне падаванню замежнымі дзяржавамі грамадзянам Рэспублікі Беларусь ільгот і пераваг у сувязі з палітычнымі, рэлігійнымі поглядамі ці нацыянальнай прыналежнасцю ў парушэнне заканадаўства.

*Крымінальны кодэкс* цяпер прадугледжвае адказнасць за выдачу замежнай дзяржаве, замежнай арганізацыі ці іх прадстаўніку дзяржаўных сакрэтаў Рэспублікі Беларусь, а роўна звестак, якія складаюць дзяржаўныя сакрэты іншых дзяржаў, перададзеных Рэспубліцы Беларусь у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь, а таксама за шпіянаж, альбо агентурную дзейнасць, альбо пераход на бок ворага падчас вайны ці ўзброенага канфлікту, **або іншае аказанне дапамогі замежнай дзяржаве, замежнай арганізацыі ці іх прадстаўніку ў правядзенні дзейнасці ва ўрон нацыянальнай бяспекі** Рэспублікі Беларусь, наўмысна здзейсненыя

грамадзянінам Рэспублікі Беларусь (здрада дзяржаве).

Таксама цяпер з'яўляецца злачынствам наладжванне грамадзянінам Рэспублікі Беларусь супрацоўніцтва на канфідэнцыйнай аснове са спецыяльнай службай, органам бяспекі ці выведвальным органам замежнай дзяржавы пры адсутнасці прыкмет здрады дзяржаве.

Да злачынстваў аднесеныя атрыманне, а роўна захоўванне, перасоўванне замежнай бязвыплатнай дапамогі для ажыццяўлення экстрэмісцкай дзейнасці **ці іншых дзеянняў, забароненых заканадаўствам Рэспублікі Беларусь**, альбо фінансавання палітычных партый, саюзаў (асацыяцый) палітычных партый, падрыхтоўкі ці правядзення выбараў, рэферэндумаў, адклікання дэпутата, чальца Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, арганізацыі ці правядзення сходаў, мітынгаў, вулічных шэсцяў, дэманстрацый, пікетавання, страйкаў, **вырабу ці распаўсюду агітацыйных матэрыялаў**, правядзення семінараў ці іншых форм палітычнай і агітацыйна-масавай працы сярод насельніцтва, здзейсненыя на працягу года пасля накладання адміністратыўнага спагнання за такія ж парушэнні.

Акрамя таго, у крымінальным парадку цяпер караюцца **публічныя заклікі** да арганізацыі ці правядзення сходу, мітынгу, вулічнага шэсця, дэманстрацыі ці пікетавання з парушэннем вызначанага парадку іх арганізацыі ці правядзення, альбо ўцягванне асоб ва ўдзел у такіх масавых мерапрыемствах шляхам гвалту, пагрозы ўжывання гвалту, падману ці выплаты ўзнагароды, альбо іншая арганізацыя ці правядзенне такіх масавых мерапрыемстваў, калі іх правядзенне пацягнула за сабой гібель людзей па неасцярожнасці, прычыненне цяжкага цялеснага пашкоджання адной ці некалькі асобам ці прычыненне ўрону ў памеры, які ў пяцьсот і больш разоў перавышае памер базавай велічыні, вызначаны на дзень здзяйснення злачынства.

*Кодэкс Рэспублікі Беларусь аб адміністратыўных правапарушэннях* цяпер прадугледжвае адказнасць за атрыманне, а роўна захоўванне, перасоўванне замежнай бязвыплатнай дапамогі для ажыццяўлення экстрэмісцкай дзейнасці ці іншых дзеянняў, забароненых заканадаўствам, арганізацыі ці правядзенні сходаў, мітынгаў, вулічных шэсцяў, дэманстрацый, пікетавання, страйкаў, вырабу ці распаўсюду агітацыйных матэрыялаў, правядзення семінараў ці іншых форм палітычнай і агітацыйна-масавай працы сярод насельніцтва, калі ў гэтых дзеяннях няма складу злачынства.

Акрамя таго, на сёння парушэннем вызначанага парадку правядзення сходу, мітынгу, вулічнага шэсця, дэманстрацыі, пікетавання таксама прызнаюцца публічныя заклікі да арганізацыі ці правядзення сходу, мітынгу, вулічнага шэсця, дэманстрацыі, пікетавання з парушэннем вызначанага парадку іх арганізацыі ці правядзення.

*Змены, унесеныя ў Закон "Аб органах дзяржаўнай бяспекі"*, пашырылі паўнамоцтвы супрацоўнікаў органаў КДБ ва ўжыванні фізічнай сілы, спецыяльных сродкаў, зброі, баявой і спецыяльнай тэхнікі. У цэлым аб'ём паўнамоцтваў супрацоўнікаў КДБ адпавядае правам супрацоўнікаў міліцыі, якія замацаваныя ў законе "Аб органах ўнутраных спраў".

Сапраўдную, а не дэклараваную, мэту ўнясення змен паказвае новая рэдакцыя артыкула 19 закона, якая вызначае права супрацоўнікаў органаў дзяржбяспекі на прафесійную рызыку. Калі раней прафесійная рызыка, якая вызваляе ад адказнасці за прычыненне шкоды, лічылася абгрунтаванай у выпадку, калі законная мэта не магла быць дасягнутая без яе прымянення (і калі той, хто дапусціў прафесійную рызыку, прыняў усе магчымыя меры для прадухілення шкоды), то сёння тэрмін "законная мэта" заменены на "пастаўленая мэта", што карэнным чынам змяняе змест гэтага паняцця, паколькі падставай для вызвалення супрацоўнікаў органаў дзяржаўнай бяспекі за шкоду, прычыненую іх дзейнасцю, называецца не закон, а загад.

**22 лістапада Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь зацвердзіў пастановай № 1571 Дамову паміж Урадам Рэспублікі Беларусь і Урадам Дзяржавы Катар** пра супрацоўніцтва ў галіне сродкаў масавай інфармацыі.

**25 лістапада прыняты Закон "Аб унясенні дапаўненняў у Кодэкс Рэспублікі Беларусь аб адміністратыўных правапарушэннях і Працэсуальна-выканаўчы кодэкс Рэспублікі Беларусь аб адміністратыўных правапарушэннях". Дадзеныя змены заключаюцца ў дапаўненні Кодэкса Рэспублікі Беларусь аб адміністратыўных правапарушэннях артыкулам 22.16 "Парушэнне патрабаванняў па выкарыстанні нацыянальнага сегмента сеткі Інтэрнэт"**, які прадугледжвае адказнасць за ажыццяўленне дзейнасці па рэалізацыі тавараў, выкананні прац, аказанні паслуг на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь з выкарыстаннем інфармацыйных сетак, сістэм і рэсурсаў, якія маюць падключэнне да сеткі Інтэрнэт, не размешчаных на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь і (ці) не зарэгістраваных у вызначаным парадку.

Таксама гэтым артыкулам прадугледжаная адказнасць за парушэнне патрабаванняў заканадаўчых актаў па ажыццяўленні ідэнтыфікацыі абаненцкіх прылад пры аказанні інтэрнэт-паслуг і (ці) карыстальнікаў інтэрнэт-паслуг у пунктах калектыўнага карыстання інтэрнэт-паслугамі, уліку і захоўвання звестак пра абаненцкія прылады, персанальныя дадзеныя карыстальнікаў інтэрнэт-паслуг, а таксама звестак пра аказаныя інтэрнэт-паслугі.

Акрамя таго, карацца будзе парушэнне патрабаванняў заканадаўства па абмежаванні доступу карыстальнікаў інтэрнэт-паслуг да інфармацыі, забароненай да распаўсюду ў адпаведнасці з заканадаўчымі актамі.

Разглядаць справы пра адміністратыўныя правапарушэнні па гэтым артыкуле будуць органы ўнутраных спраў, органы Камітэта дзяржаўнага кантролю, падатковыя органы, органы дзяржаўнай бяспекі.

Ніякіх новых абмежаванняў арт. 22.16 КаАП не ўносіць, а толькі вызначае штрафы за парушэнні, якія былі абвешчаныя такімі ўказам № 60. Прычым памер штрафаў параўнальна невялікі (максімум 30 базавых велічынь, у той час, як, напрыклад, п. 3. арт. 22.9. КаАП "Парушэнне заканадаўства аб сродках масавай інфармацыі", накладае на рэдакцыю СМІ штраф ад ста да пяцісот базавых велічынь).

Адказнасць па новым артыкуле ўскладаецца на суб'ектаў гаспадарання, якія альбо з'яўляюцца пастаўшчыкамі інтэрнэт-паслуг, альбо выкарыстоўваюць інтэрнэт для продажу, выканання прац, аказання паслуг.

Звычайных карыстальнікаў Байнэту, уключаючы журналістаў і блогераў, арт. 22.16 КаАП "Парушэнне патрабаванняў па выкарыстанні нацыянальнага сегмента сеткі Інтэрнэт" не датычыцца.

**30 снежня прыняты Закон Рэспублікі Беларусь № 331-З "Аб рэспубліканскім бюджэце на 2012 год"**. На фінансаванне дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі і тых, што падтрымліваюцца дзяржавай, ў 2012 г. у рэспубліканскім бюджэце прадугледжана 491 678 422 тыс. рублёў (каля 49 млн. еўра). Большая частка сродкаў - 366 270 390 тыс. рублёў (каля 36 млн. еўра) - накіроўваецца на фінансаванне тэлебачання і радыёвяшчання. На перыядычны друк і выдавецтвы вылучана 52 895 489 тыс. рублёў (больш за 5 млн. еўра), на іншыя пытанні ў галіне сродкаў масавай інфармацыі - 72 512 543 тыс. рублёў (больш за 7 млн. еўра).

# ПАРУШЭННІ ПРАВОЎ СМІ І ЖУРНАЛІСТАЎ, КАНФЛІКТЫ Ў СФЕРЫ СМІ

## Спыненне дзейнасці СМІ, папярэджанні пракуратуры і Міністэрства інфармацыі на адрас рэдакцый СМІ

**11 студзеня** суд Лунінецкага раёна аштрафаваў на 20 базавых велічынь рэдакцыю недзяржаўнай рэгіянальнай газеты «Информ-прогулка», прызнаўшы яе вінаватай у парушэнні закона «Аб рэкламе». Выданне распаўсюджвала рэкламу тэлеканала «Белсат-TV» без указання найменя ўлікавага нумару плацельшчыка замежнага рэкламадаўца.

Папярэджанне рэдакцыі аб недапушчальнасці размяшчэння (распаўсюду) неналежнай рэкламы (яна друкавалася ў некалькіх майскіх нумарах газеты) вынесла 18.11.2010 г. Міністэрства гандлю. У хуткім часе быў складзены пратакол і накіраваны для разгляду ў суд Лунінецкага раёна.

**10 студзеня** Міністэрства інфармацыі вынесла папярэджанне недзяржаўнай радыёстанцыі «Аўтарадыё». Згодна афіцыйнай фармулёўцы, нагодай санкцыі стаў распаўсюд у эфіры радыёстанцыі інфармацыі, “якая ўтрымлівае публічныя заклікі да экстрэмісцкай дзейнасці”. Экстрэмізм чыноўнікі Мініфарма ўгледзелі ў перадвыбарнай агітацыі апазіцыйных кандыдатаў на прэзідэнта — у прыватнасці, у словах Андрэя Саннікава, што «лёс краіны вырашаецца не на кухні, а на плошчы». (Рэдакцыя атрымала гэты дакумент ужо пасля таго, як 12 студзеня была вымушана спыніць працу ў эфіры.)

**12 студзеня** ў 12.40 спыніла працу ў эфіры незалежная FM-радыёстанцыя «Аўтарадыё». У гэты дзень рэдакцыя атрымала прадпісанне РУП «БелГІЭ» Міністэрства сувязі аб спыненні дзеяння дазволу на права выкарыстання радыёчастотнага спектру і забарону на эксплуатацыю радыёэлектронных сродкаў. Загад вынесены на падставе рашэння Рэспубліканскай камісіі па тэлебачанні і радыёвяшчанні 188/11 ад **11 студзеня** 2011 г. за подпісам старшыні камісіі А. Праляскоўскага.

Рашэнне камісіі анулюе права ЗАТ “Аўтарадыё” на наземнае эфірнае радыёвяшчанне ў сувязі з невыкананнем “Аўтарадыё” творчай канцэпцыі і распаўсюджваннем у эфіры інфармацыі, якая змяшчае публічныя заклікі да экстрэмісцкай дзейнасці. Канкрэтнай інфармацыі пра тое, у чым выяўляецца невыкананне канцэпцыі або як былі выяўленыя заклікі, у рашэнні няма. Рэдакцыя «Аўтарадыё» мяркуе, што закрыццё звязана з трансляцыяй у перыяд агітацыйнай кампаніі па выбарах прэзідэнта матэрыялаў кандыдатаў на прэзідэнта А. Саннікава і У. Някляева.

**17 студзеня** недзяржаўная газета «Народная воля» атрымала папярэджанне ад Міністэрства інфармацыі. Міністр Алег Праляскоўскі ўгледзеў парушэнне заканадаўства ў вераснёўскай нататцы «Хто пачуе лозунг «Сыходзь?!» - пра тое, што арганізацыя «Малады фронт» пачынае аднайменную акцыю («распаўсюд інфармацыі ад імя арганізацыі»). У публікацыі, між тым, было ўказана, што «МФ» у Беларусі не зарэгістраваны. Цягам 12-ці месяцаў гэта трэцяе папярэджанне рэдакцыі «Народнай волі».

Паводле арт. 51 п. 2.2. закона «Аб СМІ», вынясенне рэдакцыі альбо заснавальніку СМІ на працягу года двух і больш папярэджанняў можа пацягнуць за сабой прыпыненне выпуску гэтага СМІ.

**24 студзеня** Міністэрства інфармацыі вынесла папярэджанне заснавальніку рэгіянальнай газеты «Планета М» — ТАА «Выдавецкі дом “Інтэкс-прэс”».Прэтэнзіі палягаюць у тым, што заснавальнік газеты не паведаміў пра змяненне спецыялізацыі газеты з «масава-палітычнай і для вольнага часу» на «літаратурна-мастацкую», а таксама пра змену мовы газеты — з «рускай і беларускай» на «беларускую». Нумар, які прыцягнуў увагу міністэрства, выйшаў у свет 10 снежня 2010 г. У ім былі надрукаваныя вершы галоўнага рэдактара газет «Ганцавіцкі час» і «Нясвіжскі час» Аляксея Белага.

**9 сакавіка** Вышэйшы гаспадарчы суд (суддзя Валерый Шобік) прызнаў несапраўдным папярэджанне Міністэрства інфармацыі, вынесенае ЗАТ «Аўтарадыё», і незаконным рашэнне Рэспубліканскай камісіі па радыёвяшчанні аб спыненні вяшчання радыё. Нагадаем, папярэджанне было зроблена **10 студзеня**, што стала адной з падставаў для спынення вяшчання радыёстанцыі **12 студзеня** паводле рашэння Рэспубліканскай камісіі па тэлебачанні і радыёвяшчанні (ад 11 студзеня).

Суддзя Валерый Шобік абавязаў Міністэрства інфармацыі выплаціць ЗАТ «Аўтарадыё» 700 тысяч рублёў судовых выдаткаў.

**10 сакавіка** міністр інфармацыі Беларусі Алег Праляскоўскі заявіў, што міністэрства будзе абскарджваць рашэнне Вышэйшага гаспадарчага суда па зысках ЗАТ «Аўтарадыё» да Мініфармацыі. Чыноўнік падкрэсліў, што «міністэрства зробіць усё магчымае, каб аднавіць справядлівасць».

**16 сакавіка** Белтэлерадыёкампанія накіравала ў Вышэйшы гаспадарчы суд зыск да недзяржаўнай газеты “Народная воля” з нагоды публікацыі «Говорит и показывает “Геббельс-ТВ”» (“НВ” №1-2 ад 11.01.2011 г.). У гэтым артыкуле Святланы Калінкінай гаворка ішла пра прапагандысцкі фільм аб Плошчы-2010 «Плошча. Жалезам па шкле», паказаным у эфіры дзяржаўнага тэлебачання ўвечары 9 студзеня.

Зыск у суд падпісаў асабіста старшыня НДТРК Генадзь Давыдзька. «Апублікаваныя ў артыкуле звесткі носяць заганны характар, многія тэрміны і выразы (звесткі) з’яўляюцца яўна зневажальнымі як у дачыненні да дзяржавы, у якой жыве аўтар, так і да дзяржаўных органаў, у тым ліку зыскоўца», — скардзіўся Г. Давыдзька. Акрамя самой назвы артыкулу, прэтэнзіі зыскоўца выклікалі наступныя вытрымкі з публікацыі: 1) «У фільме “Плошча. Железом по стеклу” мы ўбачылі шчырае прызнанне ў тым, што Беларусь — краіна дэманстратыўнага беззаконня», 2) «Але БТ не пасаромелася паказаць, што Канстытуцыя ў нашай краіне не абавязковая да выканання», 3) «Але “прапагандысцкія шэдэўры” ад “Гебельс-ТВ” — гэта адзінае, што засталося ў арсенале чалавека, які да 19 снежня быў абсалютна перакананы, што любімы ўсёй краінай».

**13 красавіка** суддзя ВГС Віктар Курыла задаволіў зыск Белтэлерадыёкампаніі да “Народнай волі” і абавязаў выданне апублікаваць абвяржэнне. **5 ліпеня** касацыйная калегія Вышэйшага гаспадарчага суда адхіліла скаргу рэдакцыі газеты “Народная воля” і пакінула ў сіле рашэнне па гэтай справе.

**17 сакавіка** Касацыйная калегія Вышэйшага гаспадарчага суда (суддзі: Тацяна Праташчык, Алена Каравай і Наталля Сарнацкая) разглядзела скаргі Міністэрства інфармацыі і пастанавіла накіраваць дзве справы аб закрыцці FM-радыёстанцыі «Аўтарадыё» на новы разгляд. То бок, абодва судовыя рашэнні ад 9 сакавіка — аб прызнанні несапраўдным папярэджання, вынесенага Мініфармацыі гэтай

радыёстанцыі, і аб прызнанні незаконным рашэння Рэспубліканскай камісіі па радыёвяшчанні аб спыненні вяшчання радыё — былі скасаваныя.

**23 сакавіка** стала вядома, што “Аўтарадыё” адправіла журналістаў у адпачынак за свой кошт. З былога калектыву на радыё засталіся толькі галоўны рэдактар Юрый Базан і праграмны дырэктар Ірына Львова, якія займаюцца новым «накірункам» працы радыё — падрыхтоўкай да чарговых судовых працэсаў.

**21 сакавіка** рэгіянальныя газеты «Копейка» і «Интекс-пресс плюс» атрымалі папярэджанні Міністэрства інфармацыі пра недапушчальнасць парушэння п. 3 арт. 14 закона «Аб СМІ». Прэтэнзіі да іх выклікала тое, што заснавальнікі не паведамілі пра змену моваў газеты з рускай і беларускай на рускую, а таксама пра змену кантактнага тэлефона. Дакумент падпісаны першай намесніцай міністра Ліліяй Ананіч.

**28 сакавіка** Вышэйшы гаспадарчы суд адхіліў зыск рэдакцыі газеты «Народная воля» да Міністэрства інфармацыі аб адмене папярэджання газеце ад 14 студзеня 2011 г. Суддзя Кацярына Караткевіч пакінула санкцыю супраць выдання ў сіле. Нагадаем, падставай для папярэджання стаў артыкул у вераснёвым нумары «Хто пачуе лозунг „Сыходзь!“?», у якім, на думку чыноўнікаў, была распаўсюджаная інфармацыя ад імя незарэгістраванай арганізацыі (арт. 38 закона «Аб СМІ»). Мінінфармацыі ўгледзела парушэнне ў інтэрв’ю з лідэрам моладзевай арганізацыі «Малады фронт» Дзмітрыем Дашкевічам.

У ходзе судовага разбіральніцтва прадстаўнікі “НВ” перадалі суду шэраг нумароў дзяржаўных СМІ (у тым ліку ўрадавых газет «Советская Белоруссия» і «Рэспубліка»), у публікацыях якіх цытаваліся выказванні лідэраў розных незарэгістраваных аб’яднанняў, але гэтыя СМІ не атрымалі папярэджанняў. «Правілы дарожнага руху таксама парушаюць тысячы, а да адказнасці прыцягваюцца адзінкі», — патлумачыла ў адказ начальніца прававога ўпраўлення Мінінфармацыі Вікторыя Мялешка.

Цягам 12-і месяцаў гэта 3-е папярэджанне рэдакцыі «Народнай волі». Між тым, паводле арт. 51 п. 2.2. закона «Аб СМІ», вынясенне рэдакцыі альбо заснавальніку СМІ на працягу года двух і больш папярэджанняў можа пацягнуць за сабой прыпыненне выпуску гэтага СМІ.

**28 сакавіка** Вышэйшы гаспадарчы суд не задаволіў зыск ЗАТ "Аўтарадыё" да Міністэрства інфармацыі з патрабаваннем адмяніць вынесенае FM-радыёстанцыі папярэджанне.

**29 сакавіка** Вышэйшы гаспадарчы суд пакінуў у сіле рашэнне Рэспубліканскай камісіі па тэлебачанні і радыёвяшчанні аб спыненні вяшчання "Аўтарадыё". Такім чынам, суддзя Зміцер Аляксандраў не задаволіў зыск радыёстанцыі да камісіі і адмяніў ранейшае рашэнне ВГС ад **9 сакавіка**.

Нагадаем, **17 сакавіка** касацыйная калегія Вышэйшага гаспадарчага суда адмяніла рашэнне ВГС па зысках "Аўтарадыё" да Міністэрства інфармацыі і Рэспубліканскай камісіі па тэлебачанні і радыёвяшчанні аб спыненні вяшчання радыёстанцыі і накіравала справу на паўторны разгляд іншым суддзёй. Раней, **9 сакавіка**, ВГС прызнаў несапраўднымі папярэджанне Мінінфармацыі, вынесенае ЗАТ "Аўтарадыё", а таксама рашэнне Рэспубліканскай камісіі па тэлебачанні і радыёвяшчанні аб спыненне вяшчання радыёстанцыі.

Папярэджанне было вынесенае Мінінфармам **10 студзеня** і стала адной з падстаў для спынення вяшчання радыёстанцыі **12 студзеня** па рашэнні камісіі. Паводле афіцыйнай фармулёўкі, нагодай папярэджання і спыненні вяшчання "Аўтарадыё" стаў распаўсюд у эфіры радыёстанцыі інфармацыі, "якая ўтрымлівае публічныя заклікі да экстрэмісцкай дзейнасці". Экстрэмізм чыноўнікі Мінінфарма

ўгледзелі ў передвыбарнай агітацыі апазіцыйных кандыдатаў на прэзідэнта — у прыватнасці, у словах Андрэя Саннікава, што «лёс краіны вырашаецца не на кухні, а на плошчы».

**12 красавіка** Генеральная пракуратура вынесла папярэджанне галоўнаму рэдактару інтэрнэт-газеты «Салідарнасць» Аляксандру Старыкевічу за «распаўсюджванне неабгрунтаванай інфармацыі пра трагічныя падзеі ў Мінскім метрапалітэне».

Аляксандр Старыкевіч быў першым з беларускіх журналістаў, хто па гарачых слядах выклаў усе верагодныя версіі тэракту. Аднак пракуратура палічыла ягоныя развагі «неабгрунтаванымі звесткамі і дадумкамі, накіраванымі на дыскрэдытацыю беларускага грамадства і дзяржавы». Папярэджанне тычылася яго публікацыі «Кому это выгодно?» на сайце «Салідарнасці» ад 11 красавіка.

**11 красавіка** Міністэрства інфармацыі вынесла папярэджанне заснавальніку і рэдакцыі недзяржаўнай рэгіянальнай газеты «УзГорак» (г. Горкі Магілёўскай вобласці). Прадстаўнікам выдання ставіцца ў віну парушэнне адразу двух артыкулаў закона «Аб СМІ»: у выходных звестках шэрагу нумароў не ўказаны штрыхавы ідэнтыфікацыйны код, а таксама яны не паведамілі пра змену галоўнага рэдактара газеты (былы рэдактар выдання Эдуард Брокараў памёр ад цяжкай хваробы напрыканцы 2010 г.).

**13 красавіка** Вышэйшы гаспадарчы суд разгледзеў і задаволіў зыск Белтэлерадыёкампаніі да рэдакцыі газеты "Народная воля" з нагоды публікацыі «Говорит и показывает "Геббельс-ТВ"», у якой гаворка ішла пра прапагандысцкі фільм аб Плошчы-2010 «Плошча. Жалезам па шкле». У зыскавай заяве, якую **16 сакавіка** падпісаў старшыня Белтэлерадыёкампаніі Генадзь Давыдзька, даводзілася, што «апублікаваныя ў артыкуле звесткі носяць заганны характар, многія тэрміны і выразы (звесткі) з'яўляюцца яўна зневажальнымі як у дачыненні да дзяржавы, у якой жыве аўтар, так і да дзяржаўных органаў, у тым ліку зыскоўца». Ён патрабаваў, каб суд абавязаў выданне апублікаваць абвяржэнне, а таксама спагнаў з адказчыкаў дзяржпошліну.

**14 красавіка** Бабруйская раённая пракуратура вынесла папярэджанне рэдактару недзяржаўнай мясцовай газеты «Бабруйский курьер» Анатолю Санаценку. Падставай стала публікацыя А.Санаценкі ў блогу на сайце «Беларускі партызан», якая тычылася тэракту ў мінскім метро. У гэты ж дзень журналіста спрабавалі запрасіць па тэлефоне на размову ў раённую пракуратуру, але ён адмовіўся ісці без позвы. Тады замест абяцанай позвы яму прывезлі пісьмовае папярэджанне.

**14 красавіка** Міністэрства інфармацыі накіравала на адрас рэдакцыі «Нашай Нівы» папярэджанне пра недапушчальнасць парушэння норм закона «Аб СМІ», палічыўшы непраўдзівай апублікаваную ў газеце інфармацыю пра тое, што адна з ахвяраў тэракту ў мінскім метро 11 красавіка знаходзілася на станцыі да позняга вечара. Гэта, на думку Мініфармацыі, наносіць шкоду грамадскім інтарэсам, дыскрэдытуе органы дзяржаўнай улады, выратавальныя і медыцынскія службы, што бралі ўдзел у аказанні дапамогі пацярпелым у выніку тэракту.

Пры гэтым журналісты выдання пісалі пра падзеі са словаў сведкі, указалі яго імя і прозвішча, як і імя гераіні матэрыялу. Было змешчана і яе фота.

**15 красавіка** Міністэрства інфармацыі вынесла папярэджанне рэдакцыі недзяржаўнай газеты «Народная воля» — «у сувязі з распаўсюдам выданнем звестак, не адпаведных рэчаіснасці і зневажальных для дзелавой рэпутацыі Белтэлерадыёкампаніі». Факт распаўсюду такіх звестак нібыта быў устаноўлены **13 красавіка** рашэннем Вышэйшага гаспадарчага суда, які разглядаў зыск Белтэлерадыёкампаніі да «Народнай Волі». Нагадаем, БТ пакрыўдзілася на артыкул

намесніцы рэдактара газеты Святланы Калінкінай «Говорит и показывает "Геббельс-ТВ"», у якім гаворка ішла пра прапагандысцкі фільм аб Плошчы-2010 «Плошча. Жалезам па шкле». Зыскавую заяву ў суд **16 сакавіка** падпісаў старшыня Белтэлерадыёкампаніі Генадзь Давыдзька.

**15 красавіка** Міністэрства інфармацыі зрабіла афіцыйнае папярэджанне рэдакцыі часопіса «Arche. Пачатак». Санкцыя прыменена за тое, што «ў выходных звестках нумара 1–2 часопіса "Arche. Пачатак" за 28.02.2011 г. адсутнічае імя па бацьку галоўнага рэдактара выдання, няправільна паведамлена пра нумар пасведчання аб яго дзяржаўнай рэгістрацыі, а таксама не ўказаны рэспубліканскі орган дзяржаўнага кіравання ў сферы масавай інфармацыі, які зарэгістраваў гэты часопіс». Гэта кваліфікавана як парушэнне арт. 22 Закона «Аб сродках масавай інфармацыі». Папярэджанне падпісана міністрам інфармацыі Алегам Праляскоўскім.

**19 красавіка** Генеральная пракуратура вынесла пісьмовае папярэджанне газеце "Наша Ніва". Падставай для санкцыі стала публікацыя (№ 14 "НН") артыкула «Палкоўнік Барадач: выбухоўку падклалі супрацоўнікі адной са спецслужб», паведамляецца ў дакуменце за подпісам намесніка генпракурора Мікалая Кукліса.

У матэрыяле былы палкоўнік вайсковага спецназу выказваў сваё меркаванне, што за тэрактам у мінскім метро мог стаяць хтосьці ва ўладзе, зацікаўлены ў дэстабілізацыі становішча ў краіне. Напярэдадні, 18 красавіка, галоўнага рэдактара «Нашай Нівы» Андрэя Скурко выклікалі ў КДБ на допыт.

**19 красавіка** рэдактар крычаўскай недзяржаўнай газеты «Вольны горад» Сяргей Няроўны атрымаў афіцыйнае папярэджанне ад Крычаўскай раённай пракуратуры — за свой артыкул «Чорныя дні». Незадаволенасць пракуратуры выклікала тое, што ў артыкуле «ўтрымліваецца крытыка дзеянняў вышэйшых службовых асобаў дзяржавы, а таксама службовых асобаў праваахоўных органаў і ходзе расследавання па крымінальнай справе па факце здзяйснення тэрарыстычнага акта на станцыі метро "Кастрычніцкая" 11 красавіка».

**25 красавіка** Міністэрства інфармацыі накіравала ў Вышэйшы гаспадарчы суд зыскавыя заявы аб спыненні выпуску недзяржаўных агульнанацыянальных газет «Наша Ніва» і «Народная воля». Мініфарм спаслаўся на падпункт 2.2. пункта 2 арт. 51 закона "Аб СМІ" – «у сувязі з вынясеннем рэдакцыям згаданых выданняў на працягу года двух і больш пісьмовых папярэджанняў».

**10 траўня** касацыйная калегія Вышэйшага гаспадарчага суда адхіліла скаргу ЗАТ "Аўтарадыё" аб прызнанні несапраўдным судовага рашэння ад 29 сакавіка. Тады ВГС пакінуў у сіле рашэнне створанай Міністэрствам інфармацыі Рэспубліканскай камісій па тэлебачанні і радыёвяшчанні аб спыненні вяшчання радыёстанцыі.

Нагадаем, 9 сакавіка суд прызнаў папярэджанне, вынесенае Мінінфармам «Аўтарадыё», несапраўдным, а рашэнне Рэспубліканскай камісіі па тэлебачанні і радыёвяшчанні адключыць перадатчык — незаконным. Але праз тыдзень, 17 сакавіка, касацыйная калегія Вышэйшага гаспадарчага суда адмяніла тое рашэнне, і справа была перададзеная на новы разгляд у іншым складзе суда.

**11 траўня** ў Вышэйшым гаспадарчым судзе Беларусі адбылося папярэдняе слуханне па зыску Міністэрства інфармацыі аб закрыцці газеты «Наша Ніва». Нагодай для закрыцця выдання сталі вынесеныя цягам года тры папярэджанні ад міністэрства, адно з якіх было падпісана 14 красавіка і яшчэ не прайшло законную працэдуру абскарджання.

На гэтай падставе рэдакцыя газеты хадайнічала перад судом пра прыпыненне справы аб закрыцці «Нашай Нівы». Суд (суддзя Віктар Курыла) прыняў рашэнне

на карысць газеты. Афіцыйны разгляд зыску аб закрыцці «Нашай Нівы» прыпынены да вынікаў разгляду скаргі газеты на папярэджанне Мініфарма ад **14 красавіка**.

На той дзень «Наша Ніва» мела тры папярэджанні: першае яна атрымала 22 ліпеня 2010 г. за артыкул «Хросны бацька сканфіскаваў»; другое — 26 ліпеня, за публікацыю «БРСМ рэкламуе фільм “Хросны бацька”». І трэцяе — 14 красавіка 2011 г., за «публікацыю на старонках газеты непраўдзівай інфармацыі пра тое, што адна з ахвяраў тэракту 11 красавіка знаходзілася на станцыі да позняга вечара».

**17 траўня** ў Вышэйшым гаспадарчым судзе адбылося слуханне па зыску Міністэрства інфармацыі аб ліквідацыі дзейнасці газеты «Народная воля». Мінінфарм у сваім патрабаванні спаслаўся на арт. 51 закона “Аб СМІ” (“у сувязі з вынясеннем рэдакцыі выдання на працягу года двух і больш пісьмовых папярэджанняў”). Суддзя Алена Маёрава прыпыніла вытворчасць па зыску на тэрмін, пакуль рэдакцыя «Народнай волі» не абскардзіць ў вызначаны заканадаўствам тэрмін вынесенае рэдакцыі **15 красавіка** папярэджання Мінінфармацыі за артыкул «Говорит и показывает “Геббельс-ТВ”».

Акрамя таго “Народная воля” накіравала касацыйную скаргу на рашэнне самога ВГС ад **13 красавіка** па зыску Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі аб абароне дзелавой рэпутацыі з нагоды гэтага ж артыкулу.

**30 траўня** Вышэйшы гаспадарчы суд (суддзя Алена Маёрава), разгледзеўшы скаргу рэдакцыі газеты «Нашай Нівы» на папярэджанне Міністэрства інфармацыі ад 14 красавіка, пакінуў папярэджанне ў сіле. На рашэнне суддзі ніяк не паўплывала прызнанне газетай дапушчанай памылкі, і той факт, што ўжо на наступны дзень пасля публікацыі спрэчнай інфармацыі выданне апублікавала на сваім сайце ўдакладненне.

Прадстаўнікі “НН” выказалі намер абскардзіць гэтае рашэнне ў касацыйнай калегіі Вышэйшага гаспадарчага суда.

Нагадаем, што падставай для папярэджання, адмены якога дамагалася «Наша Ніва», стала публікацыя «Дзяўчына знаходзілася пад заваламі, калі Лукашэнка ўскладаў кветкі» на тэму тэракту ў мінскім метро 11 красавіка. Мінінфарм папярэдзіў рэдакцыю за распаўсюд недакладнай інфармацыі, што наносіць шкоду грамадскім інтарэсам, дыскрэдытуе органы дзяржаўнай улады, выратавальныя і медыцынскія службы, якія аказвалі дапамогу пацярпелым.

Папярэдняе пасяджэнне ў ВГС адбылося 18 траўня. Суддзя Алена Маёрава адхіліла хадайніцтва “НН” пра выклік у суд спецыяліста-мовазнаўца, палічыўшы гэта залішнім. Між тым, папярэджанне стала падставай для пачатку судовага працэсу аб ліквідацыі дзейнасці газеты «Наша Ніва». Справу аб ліквідацыі **11 траўня** прыпынілі, пакуль рэдакцыя абскарджвае папярэджанне.

**2 чэрвеня** недзяржаўная газета «Народная воля» абскарджвала «вызначэнне» Вышэйшага гаспадарчага суда (ВГС) ад 27 красавіка — аб прыняцці да разгляду зыску Мінінфармацыі наконт закрыцця выдання. У выніку суд прыбраў некаторыя тэндэнцыйныя фармулёўкі, але ўсё роўна будзе разглядаць зыск супраць выдання.

**5 ліпеня** касацыйная калегія Вышэйшага гаспадарчага суда адхіліла скаргу рэдакцыі газеты “Народная воля” і пакінула ў сіле рашэнне па зыску Белтэлерадыёкампаніі да недзяржаўнага выдання. «Народная воля» абскарджвала рашэнне, вынесенае **13 красавіка** суддзём ВГС Віктарам Курыла па зыску да рэдакцыі з боку дзяржаўнага СМІ.

Нагодай судовага разбіральніцтва стала публікацыя «Говорит и показывает “Геббельс-ТВ”» (“НВ” №1-2 ад 11.01.2011 г.). У гэтым матэрыяле Святланы Калінкінай

гаворка ішла пра прапагандысцкі фільм аб Плошчы-2010 «Плошча. Жалезам па шкле», паказаным у эфіры дзяржаўнага тэлебачання ўвечары 9 студзеня.

Зыск у суд **16 сакавіка** падпісаў асабіста старшыня БНДТРК Генадзь Давыдзька. «Апублікаваныя ў артыкуле звесткі носяць заганны характар, многія тэрміны і выразы (звесткі) з'яўляюцца яўна зневажальнымі як у дачыненні да дзяржавы, у якой жыве аўтар, так і да дзяржаўных органаў, у тым ліку зыскоўца», — скардзіўся Г. Давыдзька.

**6 ліпеня** рэдакцыя газеты «Наша Ніва» атрымала чарговае папярэджанне ад Міністэрства інфармацыі. (Дакумент даставілі ў рэдакцыю 8 ліпеня кур'ерам.) Падставай для санкцыі стала адсутнасць падпіснога індэксу ў нумары «Нашай нівы» ад 1 чэрвеня. Мінінфарм угледзеў у гэтым парушэнне арт. 22 "Закона аб СМІ".

**6 ліпеня** папярэджанне ад Міністэрства інфармацыі за неналежнае афармленне выходных дадзеных (арт. 22 "Закона аб СМІ") атрымала рэдакцыя газеты «Народная воля». Чыноўнікі Мініфармацыі палічылі, што выданне парушае заканадаўства, пазначаючы падвоеную дату выхаду нумару.

**11 ліпеня** рэдакцыя «Нашай Нівы» даведалася, што Міністэрства інфармацыі ініцыявала пачатак адміністратыўнай справы ў дачыненні да выдаўца газеты па арт. 22.9 ч. 3 КаАП («Парушэнне сродкам масавай інфармацыі заканадаўства аб сродках масавай інфармацыі паўторна на працягу аднаго года пасля вынясення ў дачыненні яго пісьмовага папярэджання»). Адпаведную паперу прынеслі ў рэдакцыю прадстаўнікі ГУУС Мінгарвыканкама. Штрафныя санкцыі, прадугледжаныя згаданым артыкулам КаАП — ад 100 да 500 базавых велічынь (гэта значыць, ад 3 500 000 да 17 500 000 рублёў). Напярэдадні, **6 ліпеня**, газета атрымала чарговае папярэджанне Мініфармацыі за тое, што ў выходных дадзеных газеты не быў пазначаны падпісны індэкс.

**12 ліпеня** чацвёра супрацоўнікаў ГУУС Мінгарвыканкама таксама наведаліся ў рэдакцыю газеты "Народная воля" і паведамілі, што Мініфармацыі ініцыявала працэс аб адміністратыўнай адказнасці "НВ" за парушэнне арт. 22.9 ч. 3 КаАП («Парушэнне сродкам масавай інфармацыі заканадаўства аб сродках масавай інфармацыі паўторна на працягу аднаго года пасля вынясення ў дачыненні яго пісьмовага папярэджання»). Цяпер справу накіруюць у суд, які мае вызначыць памер штрафных санкцый (ад 100 да 500 базавых велічынь).

Напярэдадні гэтак жа, як і "Нашай Ніве", рэдакцыі "Народнай волі" вынеслі папярэджанне за неналежнае афармленне выходных дадзеных.

**12 ліпеня** ў Вышэйшым гаспадарчым судзе слухалася справа аб ліквідацыі рэдакцыі газеты "Наша Ніва". Начальніца прававога ўпраўлення Міністэрства інфармацыі Вікторыя Мялешка заявіла хадайніцтва аб вяртанні зыску, і суддзя Віктар Курыла задаволіў просьбу.

Нагадаем, працэс закрыцця выдання быў ініцыяваны Мініфармацыі пасля таго, як **14 красавіка** «НН» атрымала трэцяе цягам года папярэджанне. Падставай для яго стала публікацыя інфармацыі пра тое, што адна з ахвяраў тэракту 11 красавіка ў мінскім метро нібыта знаходзілася на станцыі да позняга вечара.

**13 ліпеня** ў Вышэйшым Гаспадарчым судзе адбыліся слуханні па зыску Міністэрства інфармацыі аб спыненні выпуску газеты «Народная воля». Працэс прайшоў па той жа схеме, што і па «Нашай Ніве»: прадстаўніцы Мініфарма адразу ж заявілі хадайніцтва аб вяртанні зыску, і суддзя Алена Маёрава яго задаволіла. Працэс закрыцця выдання быў ініцыяваны Міністэрствам інфармацыі пасля таго, як «НВ» **15 красавіка** атрымала чацвёртае цягам года папярэджанне — за публікацыю Святланы Калінкінай «Говорит и показывает "Геббельс-ТВ"».

**29 ліпеня** суддзя Гаспадарчага суда г. Мінска Аляксандр Карамышаў аштрафаваў недзяржаўную газету "Наша Ніва" на 400 базавых велічынь (14 мільёнаў рублёў). Рашэнне было прынятае па адміністратыўнай справе, распачатай ГУУС Мінгарвыканкама па ініцыятыве Міністэрства інфармацыі (ч. 3 арт. 22.9 КаАП - парушэнне сродкам масавай інфармацыі заканадаўства аб СМІ паўторна цягам аднаго года пасля вынясення пісьмовага папярэджання).

У ходзе слуханняў прадстаўнікі "Нашай Нівы" прасілі суддзю прыпыніць разгляд справы, пакуль рэдакцыя не абскардзіла апошняе папярэджанне Мінінфарма, якое і стала фармальнай нагодай для яе адкрыцця. Але суддзя Карамышаў гэтае хадайніцтва адхіліў. Нагадаем, **6 ліпеня** рэдакцыя "НН" атрымала папярэджанне Мінінфарма за тое, што ў адным з чэрвеньскіх нумароў не быў надрукаваны падпісны індэкс выдання.

**8 жніўня** суддзя Гаспадарчага суда г. Мінска Таццяна Кізевіч аштрафавала недзяржаўную газету "Народная воля" на 400 базавых велічынь (14 мільёнаў рублёў). Рашэнне было прынятае па адміністратыўнай справе, распачатай ГУУС Мінгарвыканкама па ініцыятыве Міністэрства інфармацыі (ч. 3 арт. 22.9 КаАП - парушэнне сродкам масавай інфармацыі заканадаўства аб СМІ паўторна цягам аднаго года пасля вынясення пісьмовага папярэджання). Пад парушэннямі маюцца на ўвазе папярэджанні, якія атрымлівала газета цягам года ад Мінінфарма.

Нагадаем, на такую ж суму па тым жа артыкуле 29 ліпеня Гаспадарчы суд Мінска пакараў недзяржаўную газету «Наша Ніва».

**14 верасня** стала вядома, што на запыт ЗАТ "Аўтарадыё" пра вяртанне радыёчастот Міністэрства інфармацыі прапанавала зрабіць заяўку на новыя частоты. З такой прапановай кіраўніцтва радыёстанцыі катэгарычна не згоднае і намеранае вярнуць тыя частоты, якія належалі "Аўтарадыё" да закрыцця.

Па словах дырэктара радыёстанцыі Юрыя Базана, ужо падрыхтаваныя дакументы, якія пацвярджаюць, што гэтыя частоты прапісаныя ў ліцэнзіі Міністэрства сувязі, і што дазвол дзяржінспекцыі электрасувязі на іх быў ад самага пачатку працы радыёстанцыі. "Мы плацім за гэтыя частоты, яны разлічаныя на наш выпраменьвальны цэнтр і перадатчыкі. І з чаго б раптам мы павінны ад іх адмаўляцца? » - зазначае сп. Базан.

**24 кастрычніка** апазіцыйны палітык Віктар Івашкевіч падаў у суд Першамайскага раёна Мінска зыскавую заяву пра паклёп і абарону гонару і годнасці супраць Белтэлерадыёкампаніі. Падставай стала інфармацыя, якая прагучала 9 кастрычніка ў праграме "У цэнтры ўвагі" Першага канала. У сюжэце сцвярджалася, што на падрыхтоўку і правядзенне "Народнага сходу" Івашкевіч прасіў у кіраўніка нямецкага фонду Маршала грант у памеры 340 тысяч долараў. Палітык патрабуе абвергнуць гэтыя звесткі, а таксама кампенсаваць урон, нанесены яго дзелавой рэпутацыі, і маральны ўрон.

**5 лістапада** ў гарадскім пасёлку Бешанковічы (Магілёўская вобласць) міліцыянты затрымалі выдаўца маланакладнай незарэгістраванай газеты «Крывінка» Георгія Станкевіча. Інцыдэнт адбыўся, калі той, развёзшы на ровары газету па паштовых скрынях чытачоў (як гэта робіць звычайна), вяртаўся дахаты. Супрацоўнікі міліцыі заявілі, што на яго паступілі скаргі. Георгія Станкевіча адвезлі ў Бешанковіцкі РАУС, дзе склалі пратакол аб адміністратыўным правапарушэнні за незаконны распаўсюд незарэгістраванага друкаванага выдання.

Нагадаем, гэта ўжо другі выпадак прыцягнення сп. Станкевіча да адказнасці за самвыдавецкую дзейнасць і распаўсюд газеты «Крывінка» - у красавіку 2010 г. ён ужо быў пакараны штрафам.

**10 лістапада** галоўнага рэдактара газеты «Народная воля» Іосіфа Сярэдзіча выклікалі ў Генеральную пракуратуру ва Упраўленне па наглядзе за выкананнем заканадаўства і законнасці прававых актаў. Падставай стала публікацыя ў «Народнай волі» (ад 9 лістапада) артыкула «Народный сход как форма самоорганизации граждан». Але, па словах рэдактара, сустрэча тычылася значна шырэйшага кола тэм. На гутарку з ім прыйшлі адразу тры супрацоўнікі з Упраўлення. На думку пракуратуры, у згаданай публікацыі ёсць разыходжанні з беларускім заканадаўствам. Рэдактару зрабілі заўвагу, каб падобнага не было ў далейшым.

**1 снежня** ў Бешанковіцкім раённым судзе пачаўся разгляд адміністратыўнай справы Георгія Станкевіча - рэдактара і выдаўца самвыдатаўскай маланакладнай газеты "Крывінка". Журналіста судзяць за незаконны распаўсюд незарэгістраванага друкаванага СМІ. Справу ініцыявалі на падставе дзвюх скаргаў: 25-гадовыя чыноўніцы напісалі, што не выпісваюць «Крывінку», але знайшлі яе ў паштовых скрынях. Станкевіч перакананы, што іх нехта папрасіў напісаць такія заявы, бо скаргаў ад чытачоў на яго яшчэ ніколі не было. У ходзе разгляду працяг працэсу быў перанесены на **5 снежня**.

Нагадаем, **5 лістапада** Георгія Станкевіча, калі ён пасля распаўсюду газеты вяртаўся дамоў, затрымалі супрацоўнікі міліцыі. Яны патлумачылі, што на яго «паступіў сігнал». На рэдактара склалі пратакол аб адміністратыўным правапарушэнні.

**5 снежня** ў Бешанковіцкім раённым судзе адбылося другое па ліку судовае пасяджэнне па адміністратыўнай справе рэдактара і выдаўца маланакладнай мясцовай газеты "Крывінка" Георгія Станкевіча. У ходзе слуханняў рэдактар заявіў пра недавер суду і запатрабаваў адводу суддзі Вольгі Белавус. Але старшыня райсуда адвод не прыняў. У ходзе слухання суддзя Белавус заявіла, што міліцэйскі пратакол складзены некарэктна, і накіравала яго на дапрацоўку.

Нагадаем, рэдактара «Крывінкі» затрымалі **5 лістапада**, калі ён, развёзшы на ровары газету па паштовых скрынях чытачоў (як гэта робіць звычайна), вяртаўся дахаты. Супрацоўнікі міліцыі заявілі, што на яго паступілі скаргі. Георгія Станкевіча адвезлі ў Бешанковіцкі РАУС, дзе склалі пратакол аб адміністратыўным правапарушэнні за незаконны распаўсюд незарэгістраванага друкаванага выдання.

Гэта ўжо другі выпадак прыцягнення сп. Станкевіча да адказнасці за самвыдавецкую дзейнасць і распаўсюд газеты «Крывінка» - у красавіку 2010 г. суддзя В. Белавус ужо штрафавала журналіста.

## Крымінальныя справы

**6 студзеня** стала вядома, што пракуратуры Мінскай вобласці падчас дадатковай праверкі не ўдалося дакладна высветліць матывы самагубства журналіста Алега Бябеніна. У распачынанні крымінальнай справы па факце смерці журналіста было адмоўлена паўторна.

**17 студзеня** ў Магілёве супрацоўнікі міліцыі затрымалі журналіста «Бобруйского курьера» 19-гадовага Яўгена Васьковіча. У той жа час па адрасе яго бабруйскай прапіскі быў праведзеныператрус. Васьковіч быў арыштаваны на 10 сутак за хуліганства, нібыта здзейсненае ім 16 лістапада 2011 г. у Бабруйску (напад на будынак КДБ). **27 студзеня** стала вядома, што тэрмін зняволення Я. Васьковічу ў сувязі з гэтай крымінальнай справай працягнулі на два месяцы. Да гэтага бабруйскі журналіст быў затрыманы 19 снежня ў Мінску як удзельнік акцыі пратэсту на плошчы Незалежнасці. Тады ён быў асуджаны на 12 сутак, якія адбыў у ізалятары на вул. Акрэсціна.

**28 студзеня** з СІЗА КДБ пад падпіску аб нявыездзе адпусцілі рэдактарку незалежнага інфармацыйнага сайта «Хартыя-97» Наталлю Радзіну. Да суда яна павінна знаходзіцца па месцы рэгістрацыі - у Кобрыне (дзе пражываюць яе бацькі), а таксама з'яўляцца на допыты, калі следства палічыць гэта патрэбным.

Нагадаем, журналістку затрымалі ў ноч з 19 на 20 снежня - яна адбыла ў няволі 1 месяц і 1 тыдзень. Напрыканцы снежня ёй было прад'яўленае абвінавачанне па крымінальнай справе, распачатай следчым упраўленнем папярэдняга расследавання ГУУС Мінгарвыканкама па частках 1 і 2 арт. 293 Крымінальнага кодэкса (масавыя беспарадкі). Пакаранне паводле артыкула - да 15 гадоў зняволення.

**29 студзеня** журналістам: карэспандэнту "Новой газеты" Ірыне Халіп (жонцы кандыдата на прэзідэнта Андрэя Саннікава) і рэдактару газеты "Товарищ" Сяргею Вазняку (быў даверанай асобай кандыдата на прэзідэнта Уладзіміра Някляева) таксама змянілі меру стрымання.

Ірына Халіп была змешчана пад хатні арышт з утрыманнем пад аховай. Ёй нельга размаўляць па тэлефоне, карыстацца камп'ютарам, нават падыходзіць да вокнаў. У дачыненні да Вазняка дзейнічае падпіска аб нявыездзе і забарона на размовы з прэсай. На той момант яны з'яўляліся абвінавачанымі ў арганізацыі і ўдзеле ў масавых беспарадках у Мінску 19 снежня (арт. 293 КК РБ). Ім пагражала да 15 гадоў пазбаўлення волі.

**2 лютага** з матэрыяламі крымінальнай справы аб масавых беспарадках на плошчы Незалежнасці ў Мінску 19 снежня (арт. 293 КК РБ) азнаёмілі Аляксандра Атрошчанкава - прэс-сакратара экс-кандыдата на прэзідэнта Андрэя Саннікава. Справа перададзеная ў суд. Атрошчанкава абвінавачвалі ў парушэнні ч.2 арт. 293 КК – удзел у масавых беспарадках, што прадугледжвае ад 3 да 8 гадоў пазбаўлення волі.

**15 лютага** КДБ адхіліла хадайніцтва старшыні грамадскага аб'яднання "Беларуская асацыяцыя журналістаў" Жанны Літвіной і намесніка старшыні Андрэя Бастунца аб іх асабістым паручальніцтве за Ірыну Халіп. Ліст падпісаў следчы па асабліва важных справах 1-га аддзела следчага Упраўлення КДБ, маёр юстыцыі А. Самбук. Зварот аб змяненні І. Халіп меры стрымання кіраўніцтва БАЖ накіравала ў следчыя органы 19 студзеня 2011 г.

**17 лютага** стала вядома, што Міністэрства юстыцыі пазбавіла ліцэнзіі былых адвакатаў Ірыны Халіп - Уладзіміра Тоўсціка і Тамару Гараеву.

**1 сакавіка** рэдактарку сайта "Хартыя-97" Наталлю Радзіну, якая знаходзілася пад хатнім арыштам, забралі ў Кобрынскі РАУС для «прафілактычнай гутаркі». Журналістку папярэдзілі, што яна мусіць захоўваць таямніцу следства. Нагодай для гэтага сталі некаторыя выказванні журналісткі ў прэсе - у прыватнасці, яе каментары да заявы палітыка Алеся Міхалевіча пра катаванні ў турме КДБ. Міліцыянты папярэдзілі Наталлю, што яе словы могуць быць трактаваныя як парушэнне ўмоваў яе падпіскі пра неразгалошванне матэрыялаў следства.

Нагадаем, што Наталля Радзіна знаходзілася пад падпіскай аб нявыездзе (з 28 студзеня), і з 30 студзеня ў чаканні суда жыла па месцы рэгістрацыі ў г. Кобрын.

**2 сакавіка** Аляксандра Атрошчанкава, прэс-сакратара экс-кандыдата на прэзідэнты Андрэя Саннікава, суд Фрунзенская раёна Мінска (суддзя Таццяна Чаркас) асудзіў на 4 гады пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Журналіст прызнаны вінаватым ва ўдзеле ў масавых беспарадках (ч. 2 арт. 293 КК РБ) 19 снежня на плошчы Незалежнасці ў Мінску. Аляксандр Атрошчанкаў быў затрыманы раніцай 20 снежня ва ўласнай кватэры. Да суда яго ўтрымлівалі ў СІЗА КДБ.

**4 сакавіка** Паўла Сапелку, адваката сябра БАЖ Паўла Севярынца, выключылі з Мінскай гарадской калегіі адвакатаў.

**18 сакавіка** падчас інтэрв'ю рэдактарам расійскіх СМІ Аляксандр Лукашэнка назваў правакацыяй паводзіны журналісткі «Новой газеты» Ірыны Халіп, якая разам з мужам, экс-кандыдатам на прэзідэнта Андрэем Саннікавым, з'яўляецца абвінавачанай па крымінальнай справе "аб масавых беспарадках" у Мінску 19 снежня 2010 г. Ён заявіў, што ўсе тэлефоны вядомай журналісткі праслухоўваліся.

**18 сакавіка** пракурор Гродзенскай вобласці Віктар Марозаў распачаў крымінальную справу супраць журналіста Андрэя Пачобута. Яго абвінавацілі ў "знявазе прэзідэнта РБ" (ч.1 арт. 368 КК). Паводле пракуратуры, знявагі прэзідэнту Лукашэнку Пачобут наносіў на старонках польскай Gazety Wyborczaj, сайта «Белорусский партизан», і свайго блогу poczobut.livejournal.com на працягу 2010—2011 г.г. Пра тое, што супраць яго распачатая крымінальная справа, А. Пачобуту паведамілі **28 сакавіка** ў абласной пракуратуры.

**29 сакавіка** раніцай у кватэру Андрэя Пачобута прыйшлі супрацоўнікі мясцовага КДБ, якія прад'явілі пастанову следчага па найважнейшых справах пракуратуры Гродзенскай вобласці Арсеня Нікольскага пра арышт часткі каштоўнай маёмасці журналіста. У выніку былі «арыштаваныя» трэнажор, тэлевізар і пральная машына сям'і Пачобута (яны засталіся ў кватэры журналіста), а таксама ноўтбук і DVD-плэер, які супрацоўнікі КДБ забралі з сабой.

**25 сакавіка** раніцай - у Дзень Волі - у Кобрыне дахаты, дзе пражывала пад падпіскай аб нявыездзе рэдактарка сайта charter97.org Наталля Радзіна, прыйшоў участковы міліцыянт. Супрацоўнік міліцыі параіў журналістцы не пакідаць дом, пакольні да яе павінен прыехаць следчы КДБ.

Нагадаем, Наталлю Радзіну абвінавачвалі ў арганізацыі і ўдзеле ў масавых беспарадках (часткі 1 і 2 арт. 293 Крымінальнага кодэкса). Ёй пагражала да 15 гадоў пазбаўлення волі.

**30 сакавіка** журналістам, сябрам ГА "БАЖ" Сяргею Вазняку і Аляксандру Фядуце было прад'яўленае новае абвінавачанне па арт. 342 Крымінальнага кодэкса (арганізацыя і падрыхтоўка дзеянняў, якія груба парушалі грамадскі парадак, альбо актыўны ўдзел у іх). Артыкул прадугледжвае пакаранне ў выглядзе штрафу, альбо арышту на тэрмін да 6 месяцаў, альбо абмежавання волі да 3 гадоў, альбо пазбаўлення волі на той жа тэрмін. Раней іх абвінавачвалі ў арганізацыі і ўдзеле ў масавых беспарадках, што прадугледжвала пакаранне да 15 гадоў пазбаўлення волі.

**31 сакавіка** тэлефон рэдактаркі сайта charter97.org Наталлі Радзінай, якую выклікалі на допыт у КДБ, быў недаступны. Між тым, было вядома, што з Кобрына яна выехала ў Мінск яшчэ **30 сакавіка** вечаровым цягніком.

**1 красавіка** стала вядома, што журналістка Наталля Радзіна знаходзіцца за мяжой. На сайце, дзе яна працуе, з'явілася паведамленне, што Наталля «знаходзіцца па-за дасягальнасцю беларускага КДБ».

Нагадаем, Н. Радзіну затрымалі ў ноч на 20 снежня ў офісе charter97.org і даставілі ў СІЗА КДБ, дзе яна знаходзілася да вечара 28 студзеня. Яна была вызваленая пад падпіску аб нявыездзе, і з 30 студзеня знаходзілася па месцы рэгістрацыі — у г. Кобрын, у бацькоўскім доме. З таго часу ніякіх следчых дзеянняў з яе ўдзелам не вялося. Першапачаткова ёй было прад'яўленае абвінавачанне па крымінальнай справе, распачатай следчым упраўленнем папярэдняга расследавання ГУУС Мінгарвыканкама па частках 1 і 2 арт. 293 КК (масавыя беспарадкі). Чакалася, што **31 сакавіка** ў КДБ ёй могуць выставіць канчатковае абвінавачанне.

**1 красавіка** рэдактара газеты "Товарищ" Сяргея Вазняка выклікалі ў КДБ, дзе пачалі знаёміць з матэрыяламі крымінальнай справы.

**1 красавіка** таксама пачалі знаёміць з матэрыяламі крымінальнай справы і Аляксандра Фядуту, які на той момант утрымліваўся ў следчым ізалятары КДБ.

Іх абвінавачвалі па арт. 342 КК (арганізацыя і падрыхтоўка дзеянняў, якія груба парушалі грамадскі парадак, альбо актыўны ўдзел у іх). Гэтае парушэнне прадугледжвае пакаранне ў выглядзе штрафу, альбо арышту на тэрмін да 6 месяцаў, альбо абмежавання волі да 3 гадоў, альбо пазбаўлення волі на той жа тэрмін. Першапачаткова С. Вазняка і А. Фядуту абвінавачвалі ў арганізацыі і ўдзеле ў масавых беспарадках, што прадугледжвала пакаранне да 15 гадоў пазбаўлення волі.

**4 красавіка** следства перакваліфікавала абвінавачванне супраць сябраў БАЖ: каардынатара «Еўрапейскай Беларусі» Змітра Бандарэнкі, сустаршыні па стварэнні партыі БХД Паўла Севярынца і журналісткі "Новой газеты" Ірыны Халіп (жонкі экс-кандыдата на прэзідэнта А. Саннікава). Іх абвінавацілі ў «арганізацыі і падрыхтоўцы дзеянняў, што груба парушаюць грамадскі парадак» - гэта ч. 1 арт. 342 Крымінальнага кодэкса.

У адрозненне ад арт. 293, які прадугледжвае да 15 гадоў пазбаўлення волі, 342-і артыкул прадугледжвае штраф, арышт на тэрмін да 6-і месяцаў альбо абмежаванне волі на тэрмін да 3 гадоў.

**5 красавіка** журналістку Ірыну Халіп з-пад хатняга арышту вазілі ў КДБ для азнаямлення з крымінальнай справай.

**5 красавіка** Мінскі гарадскі суд, разгледзеўшы касацыйную скаргу, пакінуў без зменаў прысуд журналісту Аляксандру Атрошчанкаву - прэсаваму сакратару экс-кандыдата на прэзідэнта Андрэя Саннікава. **2 сакавіка** суд Фрунзенская раёна Мінска (суддзя Таццяна Чаркас) асудзіў яго на 4 гады пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Журналіст прызнаны вінаватым ва ўдзеле ў масавых беспарадках (ч. 2 арт. 293 КК) 19 снежня на плошчы Незалежнасці ў Мінску. Аляксандр Атрошчанкаў быў затрыманы раніцай 20 снежня ва ўласнай кватэры. Да суда яго ўтрымлівалі ў СІЗА КДБ.

**8 красавіка** следчы па найважнейшых справах Гродзенскай абласной пракуратуры Арсеній Нікольскі, наведаўшы журналіста Андрэя Пачобута ў ізалятары Гродзенскай турмы, прад'явіў яму абвінавачанне па адной крымінальнай справе і паведаміў пра ўзбуджэнне другой. Абвінавачанне выстаўленае па артыкуле «Знявага прэзідэнта РБ» (ч.1 арт. 368 КК), а новая крымінальная справа распачатая за «Паклёп на прэзідэнта РБ» (арт. 367 КК). Дагэтуль Андрэй Пачобут быў толькі падазраваным, і толькі па артыкуле за «знявагу».

Справу за "знявагу" завёў 18 сакавіка 2011 г. пракурор Гродзенскай вобласці Віктар Марозаў. Пракуратура палічыла, што Андрэй Пачобут абражаў кіраўніка дзяржавы на старонках польскай Gazety Wyborczaj, сайта «Белорусский партизан» і свайго блогу poczobut.livejournal.com на працягу 2010—2011 г.г. Крымінальная права за «паклёп» заведзеная **6 красавіка** следчым А. Нікольскім.

**9 красавіка** скончыўся трохдзённы тэрмін, на які першапачаткова быў арыштаваны журналіст Андрэй Пачобут. Як высветлілася, яму працягнулі знаходжанне пад вартай на два месяцы, і перавялі з ізалятара часовага ўтрымання Кастрычніцкага РАУС Гродна ў следчы ізалятар Гродзенскай турмы № 1.

**8 красавіка** адпушчаны пад падпіску аб нявыездзе сябра БАЖ, публіцыст і палітолаг Аляксандр Фядута - адзін з лідэраў кампаніі «Гавары праўду!», даверaная асоба экс-кандыдата на прэзідэнта Уладзіміра Някляева. Нагадаем, А. Фядута быў

затрыманы раніцай 20 снежня і дастаўлены ў СІЗА КДБ. Спачатку ён абвінавачваўся па арт. 293 Крымінальнага кодэкса - у арганізацыі і ўдзеле ў "масавых беспарадках" у Мінску 19 снежня (да 15 гадоў пазбаўлення волі). 30 сакавіка следчае Упраўленне папярэдняга расследавання ГУУС Мінгарвыканкама прад'явіла Фядуце абвінавачанне на падставе арт. 342 КК - арганізацыя і падрыхтоўка дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак, альбо актыўны ўдзел у іх (максімальнае пакаранне — 3 гады пазбаўлення волі).

**19 красавіка** Мінскі гарадскі суд працягнуў меру стрымання пад хатнім арыштам для журналісткі Ірыны Халіп, жонкі экс-кандыдата на прэзідэнта Андрэя Саннікава. Арышт працягнуты да 13 траўня. І. Халіп вінавацілі ў «арганізацыі і падрыхтоўцы дзеянняў, што груба парушаюць грамадскі парадак» - арт. 342 Крымінальнага кодэкса.

**27 красавіка** суд Першамайскага раёна Мінска (суддзя Таццяна Рывінская) асудзіў на 2 гады калоніі агульнага рэжыму сябра БАЖ, грамадскага актывіста, каардынатара кампаніі «Еўрапейская Беларусь» Змітра Бандарэнку. Яго прызналі вінаватым у парушэнні арт. 342 Крымінальнага кодэкса (арганізацыя і падрыхтоўка дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак, альбо актыўны ўдзел у іх).

Нагадаем, Зміцер Бандарэнка, які з'яўляўся даверанай асобай кандыдата на прэзідэнта Андрэя Саннікава, быў арыштаваны ў ноч з 19 на 20 снежня 2010 г. пасля правядзення шматтысячнай мірнай акцыі пратэсту супраць фальсіфікацыі вынікаў прэзідэнцкіх выбараў. Да суда яго трымалі ў турме КДБ. З-за жорсткіх умоваў утрымання ў Бандарэнкі ўзніклі праблемы са здароўем.

**16 траўня** суд Завадского раёна Мінска (суддзя Жанна Брысіна) прыгаварыў карэспандэнтку расійскай "Новой газеты" Ірыну Халіп, жонку экс-кандыдата на прэзідэнта Андрэя Саннікава, да 2 гадоў пазбаўлення волі з адтэрміноўкай выканання пакарання на 2 гады. Ірыне Халіп на працягу 2 гадоў прадпісана не мяняць месца жыхарства, не выязджаць за межы г. Мінска больш чым на 1 месяц, з'яўляцца дахаты не пазней за 22.00.

**16 траўня** журналіста і публіцыста, сустаршыню аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» Паўла Севярынца, кіраўніка штаба экс-кандыдата на прэзідэнта Віталя Рымашэўскага, суддзя Жанна Брысіна пакарала 3 гадамі абмежавання волі з накіраваннем ва ўстанову адкрытага тыпу.

І. Халіп і П. Севярынца асудзілі ў межах справы аб "масавых беспарадках" у Мінску 19 снежня 2010 г. на падставе ч. 1 арт. 342 Крымінальнага кодэкса (арганізацыя і падрыхтоўка дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак, або актыўны ўдзел у іх). Гэты артыкул прадугледжвае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін да 3 гадоў. Першапачаткова яны абвінавачваліся ў арганізацыі масавых беспарадкаў, ім пагражала да 15 гадоў пазбаўлення волі.

**13 траўня** гродзенскаму журналісту Андрэю Пачобуту, карэспандэнту польскай Gazety Wyborczaj, выстаўлена абвінавачанне па двух артыкулах Крымінальнага кодэкса: ч.1 арт. 368 («знявага») і ч.1 арт. 367 (паклёп» у дачыненні да прэзідэнта). Па першым з іх прадугледжана пакаранне да 2 гадоў зняволення, па другім — ад 2 да 4 гадоў.

У следчым ізалятары Гродзенскай турмы №1 матэрыялы следства Андрэю Пачобуту перадаў следчы Арсеній Нікольскі. У аснове крымінальнай справы — публікацыі журналіста на старонках Gazety Wyborczaj, сайта «Белорусский партизан» і яго блогу ў "Жывым Журнале" на працягу 2010—2011 г.г.

**20 траўня** суд Фрунзенскага раённага Мінска (суддзя Жанна Жукоўская) пакараў сябраў БАЖ: публіцыста і палітолага Аляксандра Фядуту і журналіста Сяргея Вазняка 2 гадамі пазбаўлення волі ўмоўна. Ім інкрымінавалі парушэнне ч. 1 арт. 342 Крымінальнага кодэкса (арганізацыя і падрыхтоўка дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак, альбо актыўны ўдзел у іх). На выбарах прэзідэнта 2010 г. яны абодва працавалі ў штабе кандыдата Уладзіміра Някляева.

**20 траўня** Генеральная пракуратура распачала крымінальную справу супраць вядомага беларускага блогера Яўгена Ліпковіча за знявагу дзяржаўнай сімволікі (арт. 370 КК). Падставай для расследавання сталі графічныя малюнкі - зробленыя з выкарыстаннем фотамантажу выявы дзяржаўнага сцяга Рэспублікі Беларусь, якія былі змешчаныя ў інтэрнэт-дзённіку блогера 25 верасня 2010 г. і 5 траўня 2011 г. Справу падпісаў намеснік генпракурора Мікалай Кукліс. Арт. 370 КК прадугледжвае пакаранне - абмежаванне волі да 1 года.

Нагадаем, на мінулым тыдні блог Яўгена Ліпковіча быў унесены ў спіс абмежаванага доступу БелГІЭ (Беларускай дзяржаўнай інспекцыі электрасувязі) і доступ да яго забаронены для дзяржструктур. Падставай для блакавання блога стаў нібыта "распаўсюд інфармацыі дэструктыўнага характару і здзек з дзяржаўнай сімволікі".

**5 ліпеня** Ленінскі раённы суд Гродна (суддзя Віталь Ляцко) асудзіў карэспандэнта польскай Gazety Wyborczej Андрэя Пачобута за "паклёп" на прэзідэнта Лукашэнку. Журналіста прызналі вінаватым у парушэнні ч. 1 арт. 367 Крымінальнага кодэкса і пакаралі 3 гадамі пазбаўлення волі з адтэрміноўкай на 2 гады. А. Пачобута вызвалілі ў зале суда, але пад падпіску аб нявыездзе (з 6 красавіка 2011 г. журналіста ўтрымлівалі ў следчым ізалятары Гродзенскай турмы №1). Андрэй Пачобут не прызнаў сябе вінаватым і заявіў, што намераны абскардзіць вырак.

Суд па крымінальнай справе Пачобута распачаўся **14 чэрвеня** (адбылося 5 пасяджэнняў) і праходзіў у закрытым рэжыме - ні журналістаў, ні прадстаўнікоў грамадскасці ў залу не дапусцілі. Экспертамі, якія аналізавалі «крымінальныя» тэксты А. Пачобута, у судзе выступілі выкладчык-філолаг Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта Аляксей Нікіценка і двое супрацоўнікаў аддзела ідэалогіі Гродзенскага аблвыканкама — Павел Скрабко (загадчык) і Віктар Жалезняковіч (адказны за працу са СМІ).

Нагадаем, **18 сакавіка** крымінальную справу супраць Андрэя Пачобута "за знявагу" прэзідэнта (1 арт. 368 КК) распачаў пракурор Гродзенскай вобласці Віктар Марозаў – па гэтым абвінавачанні суд журналіста апраўдаў. Крымінальная справа за «паклёп» (ч. 1 арт. 367 КК) была заведзеная **6 красавіка** следчым Арцеміем Нікольскім Паводле абвінавачання, на працягу 2010—2011 г.г. Пачобут зневажаў і паклёпнічаў на прэзідэнта Лукашэнку на старонках Gazety Wyborczej, сайта «Белорусский партизан» і свайго блогу poczobut.livejournal.com.

**15 ліпеня** ў следчым Упраўленні ГУУС г. Мінска адбыўся допыт вядомага блогера Яўгена Ліпковіча. У завяршэнні размовы з яго ўзялі падпіску пра неразгалошванне матэрыялаў следства. У міліцыю сп. Ліпковіча ў якасці сведкі па арт. 370 Крымінальнага кодэкса («Знявага дзяржаўных сімвалаў») выклікаў **13 ліпеня** па тэлефоне следчы ўпраўлення Дышчанка.

**29 ліпеня** супрацоўнікі сілавых органаў правяліператрус ў кватэры Яўгена Ліпковіча. Вобшук праходзіў на падставе заведзенай **20 траўня** супраць яго крымінальнай справы па арт. 370 («Знявага дзяржаўных сімвалаў»). У пастанове на ператрус паведамляецца, што ў блогу lipkovich.livejournal.com размешчаныя выявы

дзяржаўнага сцяга Беларусі зняважлівага і блюзнерскага характару. У выніку ператрусу ў блогера забралі камп'ютар.

Раней, **17 траўня** блогер Ліпковіч быў прызнаны вінаватым ва "наўмыснай зняваze гонару і годнасці асобы, выказанай у непрыстойнай форме" (ч.3 арт. 9 КаАП) і аштрафаваў на 15 базавых велічынь (525 тыс. руб.) судом Першамайскага раёна Мінска. Нагодай судовага разбіральніцтва стала скарга чальца Савета Рэспублікі, старшыні праўладнага Саюза пісьменнікаў Беларусі і Савета па маральнасці, генерал-лейтэнанта Мікалая Чаргінца. 19 сакавіка у Севастопальскім парку сталіцы спадар Ліпковіч публічна спаліў дзве кнігі Чаргінца. Апошні палічыў, што такімі дзеяннямі яму былі нанесеныя маральныя пакуты, а сваім учынкам Ліпковіч зняважыў яго гонар і годнасць. Яўген Ліпковіч сваю віну не прызнаў.

Блог Яўгена Ліпковіча, разам з папулярнымі інфармацыйнымі рэсурсамі "Белорусский партизан", "Хартия'97", spring96.org, prokopovich.net и prokopovi.ch, унесены у "чорны спіс" сайтаў, доступ да якіх у Беларусі абмяжоўваецца ў дзяржаўных арганізацыях, установах адукацыі і культуры.

**15 ліпеня** Мінскі гарадскі суд пакінуў без зменаў прысуд каардынатару грамадзянскай ініцыятывы «Еўрапейская Беларусь», сябру БАЖ Змітру Бандарэнку — 2 гады пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму на падставе ч. 1 арт. 342 Крымінальнага кодэкса (арганізацыя групавых дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак, і актыўны ўдзел у іх).

З-за хваробы хрыбетніка Зміцер на той момант знаходзіўся ў Рэспубліканскім турэмным шпіталі ў чаканні аперацыі. Прычынай абвастрэння праблем са здароўем Бандарэнка назваў нечалавечыя ўмовы ўтрымання ў СІЗА КДБ. Ён папрасіў медыцынскай дапамогі яшчэ ў лютым, а атрымаў яе толькі ў канцы чэрвеня. У турэмнай лякарні яго ўтрымлівалі ў адной камеры з хворымі на ВІЧ-інфекцыю і гепатыт С.

Нагадаем, З. Бандарэнка, які з'яўляўся даверанай асобай кандыдата на прэзідэнта Андрэя Саннікава, быў арыштаваны ў ноч з 19 на 20 снежня 2010 г. пасля правядзення ў Мінску шматтысячнай мірнай акцыі пратэсту супраць фальсіфікацыі вынікаў прэзідэнцкіх выбараў.

**19 ліпеня** Мінскі гарадскі суд, разгледзеўшы касацыйныя скаргі журналістаў, сябраў БАЖ Ірыны Халіп і Паўла Севярынца на вынік суда раённай інстанцыі, пакінуў прысуды ў сіле. У складзе судовай калегіі былі суддзі Сцяпурка, Камароўская і Унукевіч.

Нагадаем, 16 траўня суддзя Завадскога раёна Мінска Жанна Брысіна звінавацiла Ірыну Халіп, Паўла Севярынца (а таксама Сяргея Марцалева, кіраўніка штаба экс-кандыдата на прэзідэнта Мікалая Статкевіча) ў парушэнні ч. 1 арт. 342 Крымінальнага кодэкса РБ (арганізацыя і падрыхтоўка дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак, альбо актыўны ўдзел у іх).

Журналістка «Новой газеты» Ірына Халіп, жонка экс-кандыдата на прэзідэнта Андрэя Саннікава, была асуджаная на 2 гады пазбаўлення волі з адтэрміноўкай выканання пакарання на 2 гады. Павел Севярынец — на 3 гады абмежавання волі з накіраваннем у папраўчую ўстанову адкрытага тыпу. Халіп і Севярынец выказалі намер абскардзіць прысуд у Вярхоўным судзе і ў Камітэце ААН па правах чалавека.

**26 ліпеня** каардынатара грамадзянскай кампаніі «Еўрапейская Беларусь», сябра БАЖ Змітра Бандарэнку прааперыравалі ў 5-й клінічнай бальніцы г. Мінска.

Нагадаем, Зміцер Бандарэнка быў даверанай асобай кандыдата на прэзідэнта Беларусі А. Саннікава на выбарах 2010 г. Яго затрымалі пасля мірнай акцыі пратэсту 19

снежня 2010 г. і змясцілі ў СІЗА КДБ, дзе ў Бандарэнкі абвастрыліся хранічныя захворванні. **27 красавіка** суд Першамайскага раёна Мінска (суддзя Таццяна Рывінская) прызнаў З. Бандарэнку вінаватым у «арганізацыі групавых дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак, і актыўным ўдзеле у іх» і прыгаварыў да 2 гадоў пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму паводле арт. 342 Крымінальнага кодэкса.

**4 жніўня** супрацоўнікі Дэпартамента фінансавых расследаванняў Камітэта дзяржаўнага кантролю затрымалі на 10 сутак кіраўніка праваабарончага цэнтра «Вясна», сябра БАЖ Алеся Бяляцкага**.** У кватэры і лецішчы Бяляцкага, а таксама ў офісе арганізацыі прайшлі перартусы. Праваабаронцу абвінавацілі ва ўхіленні ад выплаты падаткаў, збораў у асабліва буйным памеры (ч. 2 арт. 243 Крымінальнага кодэкса). Пакаранне паводле гэтага артыкула — пазбаўленне волі да 7 гадоў з канфіскацыяй маёмасці.

Падставай для затрымання Алеся Бяляцкага стала інфармацыя пра яго банкаўскія рахункі, перададзеная беларускім уладам органамі юстыцыі Літвы і Польшчы ў межах двухбаковых дагавораў аб аказанні прававой дапамогі. Спачатку праваабаронцу ўтрымлівалі ў камеры Дэпартамента, потым перавялі ў следчы ізалятар на вул. Валадарскага.

**4 жніўня** рэдактар сайта charter97.org, сябра БАЖ Наталля Радзіна папрасіла палітычнага прытулку ў Літве. Пра гэта журналістка паведаміла ў рэдакцыйным артыкуле, у якім яна таксама расказала пра тое, дзе знаходзілася пасля таго як уцякла з Беларусі **30 сакавіка**.

Паводле слоў Радзінай, яна, скарыстаўшыся выклікам з Кобрына, дзе знаходзілася пад падпіскай аб нявыездзе, у Мінск да следчага КДБ, змагла з дапамогай сяброў пакінуць Беларусь. Ужо 1 красавіка журналістка была ў Маскве, але без дакументаў — яны засталіся ў КДБ. Атрымаць дакументы Наталля Радзіна змагла з дапамогай Упраўлення Вярхоўнага камісарыята ААН па справах бежанцаў у РФ. Пасля прызнання спн. Радзінай бежанцам па лініі ААН, першай дзяржавай, якая аказала ёй міжнародную падтрымку, сталі Нідэрланды. 28 ліпеня, пасля афармлення праязных дакументаў, яна вылецела з Масквы ў Амстэрдам. Але праз некалькі дзён пераехала ў Вільнюс, паколькі там пасля прэзідэнцкіх выбараў зарэгістраваны сайт charter97.org і знаходзіцца калектыў сайта.

Нагадаем, Наталля Радзіна з'яўляецца адной з абвінавачаных па справе "аб масавых беспарадках" 19 снежня 2010 г. З 20 снежня 2010 г. па 28 студзеня 2011 г. знаходзілася ў СІЗА КДБ, адкуль была адпушчаная пад падпіску аб нявыездзе. Да 30 сакавіка жыла ў бацькоў у г. Кобрын, па месцы рэгістрацыі, і працягвала займацца журналісцкай дзейнасцю.

**6 жніўня** стала вядома, што Ірына Халіп, журналістка расійскай «Новой газеты», жонка экс-кандыдата на прэзідэнта Андрэя Саннікава, стала на ўлік у міліцыі. Міліцыянты будуць кантраляваць, як яна адбывае прызначанае судом пакаранне — 2 гады пазбаўлення волі з адтэрміноўкай на 2 гады. Як распавяла Ірына, паводле ўмоваў адбыцця пакарання, зараз яна штодня мусіць не пазней за 10-ю вечара быць дома і раз на тыдзень адзначацца ў РАУС па месцы рэгістрацыі.

Нагадаем, пасля затрымання 19 снежня 2010 г. падчас разгону мірнай акцыі пратэсту на плошчы Незалежнасці ў Мінску Ірына Халіп **16 траўня** была асуджаная Завадскім райсудом Мінска (суддзя Жанна Брысіна) за ўдзел у дзеяннях, якія парушылі грамадскі парадак (ч.1 арт. 342 Крымінальнага кодэкса). **19 ліпеня** судовая калегія Мінскага гарадскога суда (суддзі Сцяпурка, Камароўская і Унукевіч) адхіліла касацыйную скаргу Ірыны Халіп на вынік суда раённай інстанцыі і пакінула прысуд ў сіле.

**9 жніўня** было агучана, што сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя», сябра БАЖ Павел Севярынец будзе адбываць пакаранне – 3 гады ў папраўчай установе адкрытага тыпу - у спецкамендатуры № 7 у вёсцы Куплін Пружанскага раёна Брэсцкай вобласці. Пра гэта яму паведамілі ў аддзеле выканання пакарання Перашамайскага РАУС Віцебска.

Геаграфічна гэтае месца адбыцця пакарання з’яўляецца адным з самых аддаленых у Беларусі ад роднага горада Паўла Севярынца — Віцебска. У спецустановах Віцебскай вобласці не знайшлося месца для асуджанага грамадскага актывіста, хаця напярэдадні, 8 жніўня, яму казалі, што адбываць “хімію” ён будзе на Віцебшчыне.

Нагадаем, **16 траўня** суд Завадскога раёна Мінска (суддзя Ж. Брысіна) асудзіў журналіста і публіцыста, кіраўніка штаба экс-кандыдата на прэзідэнта В. Рымашэўскага Паўла Севярынца ў межах справы аб “масавых беспарадках" у Мінску 19 снежня 2010 г. на падставе ч. 1 арт. 342 КК (арганізацыя і падрыхтоўка дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак, або актыўны ўдзел у іх). **19 ліпеня** судовая калегія Мінскага гарадскога суда (суддзі Сцяпурка, Камароўская і Унукевіч) адхіліла касацыйную скаргу П. Севярынца на вынік суда раённай інстанцыі і пакінула прысуд ў сіле.

**13 жніўня** сябру БАЖ Алесю Бяляцкаму - кіраўніку праваабарончага цэнтра «Вясна», віцэ-прэзідэнту Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека, было прад`яўленае афіцыйнае абвінавачанне на падставе ч. 2 арт. 243 Крымінальнага кодэкса (ухіленне ад выплаты сум падаткаў, збораў у асабліва буйным памеры).

Нагадаем, праваабаронца Алесь Бяляцкі быў затрыманы вечарам **4 жніўня** ў Мінску супрацоўнікамі Дэпартамента фінансавых расследаванняў Камітэта дзяржкантролю. Падставай для затрымання Бяляцкага стала інфармацыя пра яго банкаўскія рахункі, перададзеная беларускім уладам органамі юстыцыі Літвы і Польшчы ў межах двухбаковых дамоваў пра аказанне прававой дапамогі.

**18 жніўня** стала вядома, што сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя», сябра БАЖ Павел Севярынец, асуджаны на 3 гады абмежавання волі, будзе працаваць у фермерскай гаспадарцы “Бардо” ў вёсцы Куплін Пружанскага раёна (Брэсцкая вобласць). Працаваць туды палітыка накіравалі загадам спецкамендатуры. Працы па спецыяльнасці пісьменніка ці журналіста для П. Севярынца ў Пружанскім раёне не знайшлося.

Па словах Севярынца, ён напісаў таксама заяву з просьбай на наведванне царквы кожную нядзелю (бліжэйшая царква знаходзіцца ў Пружанах), але пакуль не атрымаў афіцыйнага адказу на свой зварот.

Нагадаем, **16 траўня** Павел Севярынец, які падчас выбараў 2010 г. кіраваў выбарчым штабам кандыдата на прэзідэнта В. Рымашэўскага, быў асуджаны судом Заводскага раёна Мінска па ч. 1 арт. 342 КК (арганізацыя і падрыхтоўка дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак, або актыўны ўдзел у іх).

**23 жніўня** спыненая крымінальная справа супраць рэдактаркі сайта charter97.org, сябры БАЖ Наталлі Радзінай. “У сувязі з адсутнасцю складу злачынства”, - паведамлялася ў лісце са следчага Упраўлення папярэдняга расследавання ГУУС Мінгарвыканкама, які даставілі ў Кобрын на адрас бацькоў журналісткі. (Справа была распачатая **20 снежня** 2010 г. па арт. 293 КК “па факце здзяйснення масавых беспарадкаў”.)

Да гэтага паведамлення з міліцыі Наталля Радзіна паставілася скептычна і адзначыла, што спыненне справы па арт. 293 КК (масавыя беспарадкі) не азначае, адсутнасці крымінальнай справы па арт. 342 (удзел у групавых дзеяннях, якія

парушаюць грамадскі парадак). Паколькі могуць завесці новую справу, як гэта адбылося ў дачыненні шэрагу іншых асуджаных за “Плошчу” грамадскіх актывістаў і журналістаў.

Нагадаем, з 20 снежня па 28 студзеня Н. Радзіну трымалі ў СІЗА КДБ, адкуль адпусцілі пад падпіску аб нявыездзе. Да 30 сакавіка журналістка жыла ў бацькоў у Кобрыне (Брэсцкая вобласць) па месцы рэгістрацыі. Пасля выкліку ў КДБ у Мінск на 31 сакавіка таемна з’ехала з Беларусі. У Маскве з дапамогай камісарыята ААН па справах бежанцаў Наталля Радзіна атрымала дакументы (пашпарт журналісткі застаўся ў КДБ). 28 ліпеня Радзіна вылецела ў Амстэрдам, паколькі Нідэрланды сталі першай краінай, якая аказала ёй падтрымку як бежанцу па лініі ААН. Праз тыдзень журналістка пераехала ў Літву, дзе **4 жніўня** папрасіла палітычнага прытулку. З Вільнюса працуе офіс сайта charter97.org.

**1 верасня** каардынатара грамадзянскай кампаніі «Еўрапейская Беларусь», сябра БАЖ Змітра Бандарэнку этапавалі адбываць пакаранне ў калонію №15 Магілёва.

Нагадаем, З. Бандарэнка быў даверанай асобай кандыдата на прэзідэнта Беларусі на выбарах 2010 г. Андрэя Саннікава. Яго, як і шматлікіх актывістаў апазіцыі, затрымалі пасля мірнай акцыі пратэсту 19 снежня і змясцілі ў СІЗА КДБ. У красавіку суд прызнаў Змітра Бандарэнку вінаватым у "арганізацыі групавых дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак, і актыўным удзеле ў іх" і асудзіў на 2 гады пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму.

У СІЗА КДБ у палітыка абвастрыліся праблемы са здароўем. У яго дыягнаставалі некалькі грыжаў дыскаў хрыбетніка і ўшчамленне спіннамазгавых нерваў. 25 ліпеня З. Бандарэнку даставілі з Рэспубліканскай турэмнай лякарні ў 5-ю клінічную лякарню Мінска, дзе на наступны дзень зрабілі аперацыю. 17 жніўня Бандарэнку ізноў перавялі ў турэмную лякарню.

**13 верасня** стала вядома, што сябру БАЖ, каардынатару грамадзянскай кампаніі “Еўрапейская Беларусь” Змітру Бандарэнку на фармальных падставах адмовілі ў змяненні рэжыму пакарання на больш мяккае. З 20 жніўня З. Бандарэнка мае права на змякчэнне пакарання ў сувязі са сканчэннем трацiны тэрміну. Яго справу ў звязку з гэтым разглядала адпаведная камісія.

**20 верасня** Гродзенскі абласны суд адхіліў касацыйную скаргу карэспандэнта польскай Gazety Wyborczaj Андрэя Пачобута на прысуд Ленінскага раённага суда Гродна.

Нагадаем, **5 ліпеня** суддзя Віталь Ляцко прызнаў Андрэя Пачобута вінаватым па ч. 1 арт. 367 Крымінальнага кодэкса (“паклёп” у дачыненні прэзідэнта) за шэраг артыкулаў з крытыкай дзейснай улады. Журналіста пакаралі 3 гадамі пазбаўлення волі з адтэрміноўкай на 2 гады. Судовы працэс быў закрытым, ні журналістаў, ні прадстаўнікоў грамадскасці на яго не дапусцілі.

**27 верасня** гродзенскаму журналісту, карэспандэнту Gazety Wyborczej Андрэю Пачобуту, які асуджаны па крымінальнай справе за “паклёп” на прэзідэнта Лукашэнку, забаранілі пакідаць тэрыторыю Беларусі. Пра гэта яму паведамілі ў крымінальна-выканаўчай інспекцыі, куды выклікалі позвай адразу пасля вяртання журналіста з Польшчы. У Пачобута ў чарговы раз узялі адбіткі пальцаў і аб’явілі, што на яго накладзеныя дадатковыя абмежаванні. Гэта забарона выезду за мяжу, забарона змяняць месца жыхарства без дазволу МУС, а таксама зараз ён абавязаны тры разы на месяц адзначацца ў інспекцыі. А. Пачобута папярэдзілі, што ў выпадку трох парушэнняў яго вернуць за краты.

**15 лістапада** гродзенскі журналіст Андрэй Пачобут, асуджаны па крымінальнай справе за "паклёп" на прэзідэнта Лукашэнку, атрымаў папярэджанне з міліцыі. Падставай для санкцыі стала тое, што ён своечасова не адзначыўся ў крымінальна-выканаўчай інспекцыі.

Сам журналіст тлумачыць, што ў той дзень шмат працаваў і запамятаваў пра візіт у міліцыю. А на заўтра раніцай адразу атрымаў папярэджанне. А. Пачобут наракае, што графік прыходаў у міліцыю занадта складаны: першы, другі і трэці панядзелак месяца. Кажа, калі б трэба было адзначацца кожны панядзелак, запомніць гэты графік было б прасцей.

Нагадаем, Андрэя Пачобута асудзілі да 3 гадоў пазбаўлення волі з адтэрміноўкай выканання прысуду на 2 гады. Таксама ён абавязаны адзначацца ў міліцыі, яму забаронена выязджаць за мяжу і мяняць месца жыхарства. Пасля трох папярэджанняў журналісту могуць адмяніць адтэрміноўку пакарання і адправіць у турму.

**23 верасня** кіраўнік праваабарончага цэнтра «Вясна», сябра БАЖ Алесь Бяляцкі, які ўжо амаль 2 месяцы знаходзіўся ў следчым ізалятары, пачаў знаёміцца з матэрыяламі заведзенай на яго крымінальнай справы. Яму прад'яўленае абвінавачванне па ч. 2 арт. 243 Крымінальнага кодэкса (утойванне прыбыткаў у асоба буйным памеры). Падставай для крымінальнага пераследу Алеся Бяляцкага стала інфармацыя пра яго рахункі ў замежных банках, перададзеная беларускім уладам Мінюстам Літвы і Генпракуратурай Польшчы.

**4 кастрычніка** справа Алеся Бяляцкага была накіраваная ў суд. Тым часам, вызвалення праваабаронцы патрабавалі міжнародныя праваабарончыя структуры, кіраўніцтва Еўрасаюза, ЗША і шэрагу іншых дэмакратычных краін.

**19 кастрычніка** Мінскі гарадскі суд адмовіўся адмяніць прысуд сустаршыні аргкамітэта па стварэнні партыі БХД, сябру БАЖ Паўлу Севярынцу. «Пакаранне прызначанае Севярынцу з улікам характару і ступені грамадскай небяспекі здзейсненага, дадзеных пра асобу, іншых канкрэтных абставінаў справы, з'яўляецца суразмерным здзейсненаму і адпавядае мэтам крымінальнай адказнасці», - паведамляецца ў пастанове за подпісам старшыні суда Уладзіміра Пуцілы.

Нагадаем, публіцыст і палітык Павел Севярынец асуджаны на 3 гады «хіміі» за ўдзел у мірнай акцыі пратэсту 19 снежня 2010 г.

**8 лістапада** журналісту і публіцысту, сустаршыні аргкамітэта па стварэнні партыі БХД, сябру БАЖ Паўлу Севярынцу было адмоўлена ў «замене рэжыму» - з адбывання пакарання ў папраўчай установе адкрытага тыпу на «хатнюю хімію». Пра гэта Севярынцу паведаміла кіраўніцтва спецкамендатуры № 7 у вёсцы Куплін Пружанскага раёна, дзе ён зараз адбывае 3 гады абмежавання волі за ўдзел у мірнай акцыі пратэсту 19 снежня 2010 г. Павел Севярынец адбыў ужо 1/3 тэрміну, не мае спагнанняў, і, паводле заканадаўства, падлягае «замене рэжыму».

**24 лістапада** Алесь Бяляцкі — віцэ-прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека, кіраўнік закрытага ўладамі праваабарончага цэнтра «Вясна» і сябра ГА «БАЖ», быў прыгавораны да 4 гадоў і 6 месяцаў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці. Праваабаронца мусіць сплаціць дзяржаве 721 мільён стратаў і 36 мільёнаў судовых выдаткаў. Такое рашэнне агучыў суддзя Першамайскага раённага суда Мінска Сяргей Бандарэнка.

Алеся Бяляцкага прызналі вінаватым у парушэнні ч. 2 арт. 243 Крымінальнага кодэкса (утойванне прыбыткаў у асабліва буйным памеры). Паводле рашэння суда, А. Бяляцкі наўмысна, з мэтай ухілення ад выплаты падаткаў, не ўказваў сродкаў, што

паступалі на яго рахункі ў Літве і Польшчы. Довады падсуднага пра тое, што гэтыя грошы не з'яўляліся яго асабістым прыбыткам, суд не прыняў да ўвагі.

У сваім апошнім слове ў судзе Алесь Бяляцкі яшчэ раз падкрэсліў, што адчувае сябе абсалютна невінаватым, і выказаў цвёрдае перакананне, што крымінальная справа супраць яго «ад пачатку да канца мае палітычны падтэкст».

Слуханне справы Бяляцкага распачалося **2 лістапада**, адбылося каля дзесятку пасяджэнняў. На пачатку працэсу суддзя адхіліў хадайніцтвы Алеся Бяляцкага пра змяненне меры стрымання на падпіску аб нявыездзе, матывуваўшы гэта тым, што Бяляцкі абвінавачваецца ў здзяйсненні асабліва цяжкага злачынства. Не былі прынятыя і паручальніцтвы грамадзян з аналагічнай просьбай.

На слуханнях, акрамя родных Алеся Бяляцкага прысутнічалі кіраўнікі дыпмісій шэрагу еўрапейскіх краін і ЗША, вядомыя палітыкі, грамадскія дзеячы, праваабаронцы.

**1 снежня** асуджанага праваабаронцу Алеся Бяляцкага перавялі з Мінскага следчага ізалятара на вул. Валадарскага ў Жодзінскую турму №8. Пра гэта выпадкова 2 снежня даведалася яго жонка Наталля, калі наведала СІЗА ў Мінску.

Тым часам, **29 лістапада** адвакат Бяляцкага Зміцер Лаеўскі накіраваў у Мінскі гарадскі суд касацыйную скаргу на прысуд суда Першамайскага раёна.

**23 снежня** Вярхоўны суд адмовіў у абскарджанні прысуду каардынатару грамадзянскай кампаніі «Еўрапейская Беларусь», сябру БАЖ Змітру Бандарэнку. Скарга ў ВС была пададзеная адвакатам Юрыем Сташкевічам больш як 2 месяцы таму. У ёй паведамлялася пра сур'ёзныя праблемы са здароўем у З. Бандарэнкі, прыкладаліся пацвярджальныя дакументы. У адказе суда заяўляецца, што матэрыялы справы цалкам даказваюць віну Змітра Бандарэнкі. Жонка палітзняволенага Вольга выказала намер далей звяртацца ў ААН.

Нагадаем, Зміцер Бандарэнка быў даверанай асобай кандыдата на прэзідэнта Беларусі А. Саннікава на выбарах 2010 г. Яго затрымалі пасля мірнай акцыі пратэсту 19 снежня 2010 г. і змясцілі ў СІЗА КДБ. **27 красавіка** суд Першамайскага раёна Мінска (суддзя Таццяна Рывінская) прызнаў З. Бандарэнку вінаватым у «арганізацыі групавых дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак, і актыўным ўдзеле у іх» і прыгаварыў да 2 гадоў пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму паводле арт. 342 Крымінальнага кодэкса. Адбываць пакаранне палітыка накіравалі ў папраўчую калонію № 15 Магілёва.

Адразу пасля арышту ў СІЗА КДБ у Бандарэнкі абвастрыліся хранічныя захворванні, і ў ліпені яму зрабілі аперацыю на хрыбетніку. **20 жніўня** закончылася 1/3 частка тэрміну зняволення З. Бандарэнкі, і, згодна з законам, ён меў права на змякчэнне пакарання, аднак у гэтым яму было адмоўлена.

## Затрыманні журналістаў, адміністрацыйны пераслед, арышты, ператрусы, спробы ціску

**3 студзеня** відэааператарку недзяржаўнай газеты «Наша Ніва» Таццяну Гаўрыльчык па тэлефоне выклікалі "на гутарку" ў КДБ. Журналістка прыйшла з адвакатам, але супрацоўнікі КДБ пачалі настойваць на тым, каб гутарка праводзілася без прысутнасці адваката. Яны заявілі, што Таццяна не з'яўляецца ні сведкай, ні падазраванай, а гутарка — цалкам нефармальная, з мэтай дапамагчы следству. Тым не менш, журналістка размаўляць без адваката адмовілася, а супрацоўнікі КДБ адмовілася правесці размову ў прысутнасці адваката.

Увечары таго ж дня Таццяна атрымала ананімнае тэлефанаванне з пагрозамі.

**4 студзеня** адбыўся ператрус у кватэры аператара спадарожнікавага тэлеканала “Белсат” Алеся Баразенкі. Ён пачаўся а 6-й раніцы і доўжыўся каля дзвюх гадзін. Забралі ноўтбук яго дзяўчыны, а потым Баразенку павезлі на допыт як сведку па справе аб “масавых беспарадках” 19 снежня ў Мінску. Адваката да яго не дапусцілі. Пасля допыту журналіст выйшаў на волю.

**5 студзеня** дзяржаўная газета «Знамя юности» падала ў суд заяву аб абароне дзелавой рэпутацыі на свайго былога карэспандэнта па Брэсцкай вобласці Аляксандра Леўчука. Зыск падпісаў галоўны рэдактар «ЗЮ» Яўген Мялешка. Ён патрабаваў, каб суд прызнаў непраўдзівымі і зневажальнымі выказванні А. Леўчука ў інтэрв’ю Радыё «Свабода» і ва ўласным блогу, дзе сцвярджаў, што яго звальненне са штату газеты адбылося па палітычных матывах. Рэдактар дзяржгазеты патрабаваў публікацыі абвяржэння і прабачэння ад імя журналіста. Аляксандр Ляўчук працаваў у «ЗЮ» са жніўня 2010 г. і быў звольнены напрыканцы снежня 2011 г.

**6 студзеня** ў КДБ дапыталі журналістку Вікторыю Колчыну, якая здымала для тэлеканала «Белсат» фільм пра беларускіх журналістаў, што загінулі ў выніку сваёй прафесійнай дзейнасці пры нявысветленых абставінах. Яе выклікалі па тэлефоне і патлумачылі, што хочуць «паразмаўляць наконт Змітра Бандарэнкі». Пасля размовы са следчым з В. Колчынай узялі падпіску пра неразгалошванне і адпусцілі.

На той момант сябра БАЖ З. Бандарэнка, давераная асоба экс-кандыдата ў прэзідэнты А. Саннікава, утрымліваўся ў ізалятары КДБ. Яму выставілі абвінавачанне ў арганізацыі масавых беспарадкаў. Зміцер таксама быў сябрам Алега Бябеніна – журналіста, які быў знойдзены павешаным на сваім лецішчы 3 верасня 2010 г.

**6 студзеня** стала вядома, што пракуратуры Мінскай вобласці падчас дадатковай праверкі не ўдалося дакладна высветліць матывы самагубства журналіста Алега Бябеніна. У распачынанні крымінальнай справы па факце смерці журналіста было адмоўлена паўторна.

**10 студзеня** адбыўся ператрус у рэдакцыі недзяржаўнай рэгіянальнай газеты “Борисовские новости” і па месцы жыхарства галоўнага рэдактара выдання Анатоля Букаса. Супрацоўнікі Барысаўскага РУУС паказалі пастанову, выпісаную Упраўленнем КДБ па Мінскай вобласці. Паводле дакумента, ператрусы вяліся ў межах расследавання крымінальнай справы аб масавых беспарадках у Мінску 19.12.2010 г. з мэтай выяўлення «прыладаў злачынства».

У выніку з рэдакцыі вынеслі ўсю аргтэхніку — 12 камп’ютараў (з маніторамі і нават мышкамі), 3 факсавыя апараты, сканер, 3 фотаапараты, флэш-карты, дыскі, а таксама асабісты ноўтбук А. Букаса. Дома ў рэдактара ў часе ператрусу забралі толькі фотаапарат.

Рэдакцыя “БН” абскардзіла падставы для правядзення ператрусу, а таксама дзеянні супрацоўнікаў міліцыі. Скаргі былі накіраваныя ў пракуратуру Мінскай вобласці і пракуратуру Барысаўскага раёна. Абедзве паперы былі перанакіраваныя ў пракуратуру г. Мінска, якая, у сваю чаргу, не выявіла ніякіх парушэнняў падчас вобшуку.

**11 студзеня** ў Магілёўскае Упраўленне КДБ па мабільным тэлефоне «на размову» выклікалі журналіста недзяржаўнай мясцовай газеты «Бобруйский курьер» Яўгена Васьковіча. У часе паўтарагадзіннай гутаркі тры супрацоўнікі спецслужб цікавілася падзеямі 19 снежня на плошчы Незалежнасці ў Мінску. У выніку Васьковіча вусна папярэдзілі пра незаконнасць удзелу ў несанкцыянаваных акцыях пратэсту. Раней журналіст адбыў 12-суткавы тэрмін зняволення ў СІЗА за ўдзел у акцыі.

**11 студзеня** ў кватэры гомельскай незалежнай журналісткі, якая супрацоўнічае з тэлеканалам «Белсат», Ларысы Шчыраковай адбыўсяператрус. Вобшук, санкцыянаваны пракурорам г. Мінска, праводзілі пяцёра супрацоўнікаў Упраўлення КДБ па Гомельскай вобласці. У журналісткі забралі 2 стацыянарных камп’ютары з маніторамі і мышкамі, 1 ноўтбук, каля сотні DVD, некалькі флэшак, плэер, 2 дыктафоны.

**12 студзеня** адбыліся чарговыяператрусы ў кватэры зняволенай журналісткі Ірыны Халіп, якую на той момант ўтрымлівалі ў СІЗА КДБ (у кватэры часова пражывала маці журналісткі, каб даглядаць яе 3-гадовага сына), а таксама ў кватэры бацькоў І. Халіп. З кватэры журналісткі прадстаўнікі спецслужбаў вынеслі камп'ютар, які не забралі ў часе папярэдняга ператрусу.

**12 студзеня** намесніка старшыні ГА “Беларуская асацыяцыя журналістаў” Андрэя Бастунца дапыталі ў КДБ як сведку па справе аб падзеях у Мінску 19–20 снежня. На допыт выклікалі па тэлефоне. Пра сутнасць размовы ён паведаміць не змог, паколькі даў падпіску пра неразгалошванне. Допыт доўжыўся каля 3 гадзін.

**12 студзеня** ў Гродна супрацоўнікі КДБ правялі ператрусы ў кватэрах мясцовых журналістаў: карэспандэнта польскай Gazety Wyborczej Андрэя Пачобута і ў фотакарэспандэнта газеты Glos znad Niemna Аляксея Салея. У выніку з жылля журналістаў забралі носьбіты інфармацыі.

А. Пачобута пасля ператрусу даставілі ў КДБ, потым перавезлі ў Мінск у РУУС Кастрычніцкага раёна. Там журналіста пратрымалі ноч, а на наступны дзень яго судзілі.

**13 студзеня** суд Кастрычніцкага раёна Мінска аштрафаваў Андрэя Пачобута на 1 млн. 750 тысяч рублёў (каля 600 долараў ЗША) паводле ч. 3 арт. 23.34 КаАП («Парушэнне парадку арганізацыі альбо правядзення масавага мерапрыемства»). Гэта тая ж адміністратыўная справа, паводле якой Пачобута пачалі судзіць **20 снежня** за ўдзел у акцыі на плошчы Незалежнасці, і якая была адпраўлена на дапрацоўку.

Нагадаем, у лістападзе 2010 г. Андрэю Пачобуту адмовілі ў акрэдытацыі пры МЗС у якасці карэспандэнта Gazety Wyborczej.

**12 студзеня** рэдактара недзяржаўнай нацыянальнай газеты «Новы Час» Аляксея Караля дапыталі ў РУУС Фрунзенскага раёна Мінска. Нагодай стала тое, што тэлефон А. Караля быў «зафіксаваны» мабільным аператарам на плошчы Незалежнасці ў момант мірнай акцыі пратэсту 19 снежня.

Падчас размовы следчы паведаў, што апытваюць усіх, хто прысутнічаў на плошчы. «Я патлумачыў, што мае знаходжанне на плошчы ў гэты час — прафесійны абавязак журналіста», — распавёў Аляксей Кароль. Пасля размовы яму прапанавалі сфатаграфавацца, але ён адмовіўся.

**13 студзеня** КДБ дапытала старшыню ГА “Беларуская асацыяцыя журналістаў” Жанну Літвіну ў якасці сведкі па крымінальнай справе аб масавых беспарадках у Мінску 19–20 снежня. Допыт доўжыўся каля 2-х гадзін, па выніках з Ж. Літвіной узялі падпіску пра неразгалошванне.

**13 студзеня** ў КДБ на допыце таксама пабывала намесніца галоўнага рэдактара недзяржаўнай газеты “Народная воля” Марына Коктыш. Журналістцы паведамілі, што яна праходзіць сведкай па крымінальнай справе аб масавых беспарадках у Мінску 19–20 снежня і ўзялі падпіску пра неразгалошванне.

**13 студзеня** ў кватэры, дзе зарэгістравана незалежная журналістка Кацярына Ткачэнка праведзены ператрус. Невядомыя ўвайшлі ў памяшканне, калі гаспадыні не было дома, узламаўшы замок. У выніку вобшуку забралі мадэм.

Нагадаем, 30 снежня ў іншай кватэры, якую здымае К. Ткачэнка, спецслужбы таксама правялі ператрус, забраўшы ноўтбук.

**13 студзеня** ператрус адбыўся ў мінскай кватэры сястры журналісткі "Белсата" Ірыны Чарняўкі. Тут спыняецца журналістка, калі прыязджае ў сталіцу. Ператрус праводзілі супрацоўнікі УКДБ па Мінску і Мінскай вобласці, з кватэры забралі стацыянарны камп'ютар і непадпісаныя кампактныя дыскі. Саму Ірыну Чарняўку павезлі на допыт ва ўпраўленне КДБ. Допыт доўжыўся каля 3 гадзін, супрацоўнікаў КДБ найперш цікавіла праца тэлеканала "Белсат".

**14 студзеня** шэф-рэдактара газеты «Народная воля» Святлану Калінкіну позвай выклікалі на допыт у КДБ. Падчас размовы следчы папярэдзіў журналістку, што ўсе пытанні следства, як і яе адказы, з'яўляюцца таямніцай следства. Парадокс сітуацыі ў тым, што Святлана Калінкіна 19 снежня 2010 г. у часе мірнай акцыі пратэсту на плошчы Незалежнасці была ў жывым эфіры на дзяржаўным тэлеканале ОНТ.

**15 студзеня** ў кватэры супрацоўніка інфармацыйнай кампаніі БелаПАН, журналіста інтэрнэт-газеты Naviny.by Віктара Федаровіча і ў доме яго бацькоў супрацоўнікі КДБ правялі ператрусы. У прад'яўленай пастанове паведамлялася, што вобшук праводзіцца ў сувязі з крымінальнай справай аб масавых беспарадках.

Журналіст адзначыў, што ніякага дачынення да вулічных падзей 19 снежня ў Мінску не меў. Затое шэраг яго публікацый тычыўся некаторых гучных спраў – у прыватнасці, справы аб смерці журналіста Алега Бябеніна. У Федаровіча забралі ноўтбук, сістэмны блок камп'ютара, дыктафон, флэшкі, рабочыя нататнікі, дакументы і запісы па крымінальнай справе следчай Святланы Байковай, а таксама іншыя рабочыя матэрыялы, што тычацца яго журналісцкай дзейнасці.

**15 студзеня** адбыўся ператрус у гомельскім офісе рэгіянальнай арганізацыі руху «За свабоду», дзе адначасова знаходзіцца і рэдакцыя інтэрнэт-газеты «Сильные новости». Супрацоўнікі мясцовага УКДБ забралі два сістэмных блокі камп'ютараў, флэшкі, кампактныя дыскі і іншыя носьбіты інфармацыі.

**17 студзеня** ў Магілёве супрацоўнікі міліцыі затрымалі журналіста «Бобруйского курьера» 19-гадовага Яўгена Васьковіча. У той жа час па адрасе яго бабруйскай прапіскі быў праведзены ператрус. Васьковіч быў арыштаваны на 10 сутак за хуліганства, нібыта здзейсненае ім 16.11.2011 г. у Бабруйску (напад на будынак КДБ). **27 студзеня** стала вядома, што тэрмін зняволення Я. Васьковічу ў сувязі з гэтай крымінальнай справай працягнулі на два месяцы. Да гэтага бабруйскі журналіст быў затрыманы 19 снежня ў Мінску як удзельнік акцыі пратэсту на плошчы Незалежнасці. Тады ён быў асуджаны на 12 сутак, якія адбыў у ізалятары на Акрэсціна.

**17 студзеня** КДБ дапытала ў якасці сведкі па крымінальнай справе аб масавых беспарадках 19 снежня ў Мінску намесніка старшыні ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" Андрэя Аляксандрава.

**18 студзеня** з гэткай жа фармулёўкай на допыце пабывала намесніца старшыні ГА "БАЖ" Аліна Суравец. З абодвух узятая падпіска аб неразгалошванні.

Нагадаем, што 12 студзеня як сведку дапыталі па гэтай жа справе намесніка старшыні БАЖ Андрэя Бастунца, а 13-га — старшыню журналісцкай арганізацыі Жанну Літвіну.

**17 студзеня** быў затрыманы карэспандэнт «Радыё Рацыя» Барыс Гарэцкі. Інцыдэнт здарыўся, калі журналіст браў інтэрв'ю ў людзей, што стаялі ў чарзе з перадачамі для вязняў СІЗА КДБ. Таксама ў кватэры, дзе жыве Барыс, і ў яго брата Кастуся Гарэцкага адбыліся ператрусы.

**18 студзеня** Барыса Гарэцкага асудзілі на 14 сутак адміністратыўнага арышту па абвінавачанні ва ўдзеле ў несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве 19 снежня - амаль праз месяц пасля тых падзей (суддзя Маскоўскага раёна Мінска Яўген Хаткевіч). **31 студзеня** ён выйшаў з-за кратаў, адбыўшы ў няволі поўны тэрмін, бо касацыйны суд адхіліў пратэст яго адваката на пастанову суда першай інстанцыі.

**19 студзеня** падчас грамадзянскай акцыі салідарнасці з палітзняволенымі, якая адбылася каля будынка КДБ ў Мінску, быў часова затрыманы карэспандэнт Радыё «Свабода» Алег Груздзіловіч, які здымаў падзеі на відэа. Праз 15 хвілін рэпарцёра адпусцілі, праверыўшы дакументы і акрэдытацыю і прымусіўшы сцерці кадры, на якія трапіў будынак ўстановы.

Таксама ў гэты вечар уласны карэспандэнт радыёстанцыі «Русская служба новостей» Уладзімір Чудзянцоў быў затрыманы разам з ўдзельнікамі акцыі і адвезены ў Цэнтральны РУУС Мінска. Праз пэўны час яго вызвалілі пасля ўмяшальніцтва кіраўніцтва прэс-службы ГУУС Мінгарвыканкама.

**20 студзеня** вядучы ток-шоў «Выбар» дзяржаўнага тэлеканала ОНТ Сяргей Дарафееў быў адхілены ад працы ў эфіры. **19 снежня** падчас праграмы ў прамым эфіры, прысвечанай вынікам прэзідэнцкіх выбараў, пасля «нязручных» пытанняў з боку журналіста пакінула студыю старшыня Цэнтрвыбаркама Лідзія Ярмошына, а на наступны дзень працу вядучага раскрытыкаваў Аляксандр Лукашэнка. Пасля гэтага журналіст быў адпраўлены ў адпачынак на месяц.

**20 студзеня** журналіста Андрэя Любянчука выклікалі “на гутарку” ва Упраўленне КДБ па Брэсцкай вобласці. Падчас размовы журналісту паведамілі, што ёсць падставы меркаваць пра яго знаходжанне 19 снежня 2010 г. на плошчы Незалежнасці ў Мінску. А. Любянчук скарыстаўся канстытуцыйным правам не сведчыць супраць сябе і адмовіўся ад тлумачэнняў, пасля чаго яго адпусцілі.

**24 студзеня** журналіста “Радыё Рацыя” Генадзя Барбарыча затрымалі супрацоўнікі КДБ. Інцыдэнт адбыўся, калі ён ля будынку КДБ браў інтэрв’ю ў сваякоў вязняў СІЗА.

Супрацоўнік КДБ, праверыўшы дакументы, загадаў журналісту сцерці ўсе зробленыя аўдыёзапісы і папрасіў «перадаць калегам», што каля рэжымных аб'ектаў ніякіх запісаў і здымкаў весці нельга. Адпусцілі Барбарыча прыблізна праз гадзіну пасля затрымання.

**26 студзеня** на допыт у КДБ выклікалі намесніка галоўнага рэдактара газеты «Товарищ» Змітра Яненку ў якасці сведкі па справе “аб масавых беспарадках” у Мінску 19 снежня. Па выніках размовы з журналіста ўзялі падпіску пра неразгалошванне.

**28 студзеня** сябра ГА «БАЖ» Ілля Кузняцоў пабываў ва Упраўленні ваеннай контрвыведкі КДБ, куды яго выклікалі па тэлефоне. Следчы контрвыведкі Аляксандр Ваяводкін цікавіўся, у прыватнасці, што ён бачыў і чуў на плошчы Незалежнасці, якія былі ўмовы яго ўтрымання на Акрэсціна, ці не прапаноўвалі і ці не давалі яму чагосьці праваабарончыя арганізацыі пасля «адсідкі» (Ілья Кузняцоў адбыў 15 сутак арышту нібыта за ўдзел у несанкцыянаванай акцыі 19 снежня).

**28 студзеня** Мінскі гарадскі суд адмяніў рашэнне (ад 13 студзеня) суда Кастрычніцкага раёна г. Мінска і вярнуў справу гродзенскага журналіста Андрэя Пачобута на перагляд. Такім чынам, касацыйная інстанцыя прыслухалася да пратэсту пракуратуры, якая палічыла, што штраф у памеры 50 базавых велічынь — занадта мяккае пакаранне для журналіста. Выступаючы ў судзе, Андрэй Пачобут заявіў, што не згодны ні са штрафам, ні з пракурорскім пратэстам, і ў чарговы раз паўтарыў, што

выконваў 19 снежня на плошчы Незалежнасці свае прафесійныя абавязкі як журналіст польскай Gazety Wyborczej.

Нагадаем, 13 студзеня суд Кастрычніцкага раёна аштрафаваў журналіста за «парушэнне парадку арганізацыі альбо правядзення масавага мерапрыемства» (ч. 3 арт. 23.34 КаАП). Гэта быў ужо трэці па ліку разгляд яго адміністратыўнай справы, звязанай з затрыманнем на плошчы Незалежнасці 19 снежня. 20 снежня 2010 г. суд Кастрычніцкага раёна г. Мінска пачаў яе разгляд, але адправіў на дапрацоўку.8 студзеня Пачобута прымусова даставілі ў КДБ на «размову», а 12 студзеня ўвечары ў Гродна супрацоўнікі КДБ правяліператрус у яго кватэры. Пасля гэтага журналіста прывезлі ў Мінск і 13 студзеня судзілі. Суддзя Кастрычніцкага суда Лапко прыняў рашэнне аштрафаваць А. Пачобута за ўдзел у несанкцыянаванай акцыі. 19 студзеня пракуратура Кастрычніцкага раёна г. Мінска апратэставала пастанову.

У лістападзе 2010 г. Андрэю Пачобуту адмовілі ў акрэдытацыі пры МЗС у якасці карэспандэнта Gazety Wyborczej.

**28 студзеня** ў адказ на зварот «Еўрапейскага радыё для Беларусі» аб правамоцнасці дзеянняў спецслужб, якія правяліператрус у мінскай рэдакцыі радыёстанцыі 25 снежня 2010 г., Генеральная пракуратура паведаміла, што прысутнасць супрацоўнікаў офіса падчасператрусу не з'яўляецца абавязковай.

Нагадаем, у вынікуператрусу супрацоўнікі Упраўлення КДБ па Мінску і Мінскай вобласці вынеслі з офіса мінскага карэспандэнцкага пункту акрэдытаванага пры МЗС «Еўрапейскага радыё для Беларусі» практычна ўсё абсталяванне. Тэхніку дагэтуль не вярнулі.

**31 студзеня** з Міністэрства юстыцыі прыйшоў ліст у адказ на зварот ГА “БАЖ” ад 24 снежня аб прыцягненні да адказнасці супрацоўнікаў міліцыі, што затрымлівалі журналістаў і перашкаджалі ім выконваць прафесійныя абавязкі 19–20 снежня 2010 г. Міністэрства лічыць, што, выступіўшы «ў абарону беларускіх і замежных журналістаў, якія не маюць дачынення да БАЖ», журналісцкая арганізацыя парушыла адразу два пункты свайго статуту.

**31 студзеня** на імя галоўнага рэдактара незалежнай газеты «Брестский курьер» Мікалая Аляксандрава прыйшоў ліст са знявагамі і пагрозамі на адрас рэдакцыі. На паштовым канверце падпісана: «Патриоты Беларуси», а на зваротным баку змешчана паведамленне пра тое, што ў Мінск накіраваны афіцыйны запыт «на закрыццё падобнай газяцёнкі» і пагроза, што выданне «дажывае апошнія дні». Акрамя таго, у канверт былі ўкладзеныя некалькі газетных старонак мінулага нумару «Брестского курьера», на якіх маркерам былі напісаны зневажальныя каментары да асобных публікацый.

**1 лютага** шэф-рэдактара газеты «Народная воля» Святлану Калінкіну з офіса рэдакцыі забралі паўторна на допыт у КДБ. Ён доўжыўся некалькі гадзін і тычыўся справы “аб масавых беспарадках” 19 снежня 2010 г. Нагадаем, 14 студзеня яе таксама дапытвалі ў КДБ як сведку па гэтай справе і ўзялі падпіску аб неразгалошванні. Адметна, што на плошчы Незалежнасці 19 снежня журналістка не была.

**10 лютага** рэдактара сайта газеты «Народная воля» Аляксандра Люшкевіча дапыталі ў КДБ. Зместу гутаркі журналіст не змог паведаміць, бо мусіў даць падпіску пра неразгалошванне.

**11 лютага** Кастрычніцкі райсуд г. Мінска (суддзя Наталля Пратасавіцкая) пераглядзеў адміністратыўную справу карэспандэнта польскай Gazety Wyborczej Андрэя Пачобута аб яго «ўдзеле» ў несанкцыянаванай акцыі 19 снежня («Парушэнне

парадку арганізацыі альбо правядзення масавага мерапрыемства», ч. 3 арт. 23.34 КаАП).

У выніку замест штрафу, які яму прысудзілі раней, рэпарцёра асудзілі на 15 сутак адміністратыўнага арышту. Нагадаем, Андрэя Пачобута затрымалі 19 снежня на плошчы Незалежнасці ў Мінску.

**18 лютага** рэдактара і выдаўца недзяржаўнай рэгіянальнай газеты «Вольнае Глыбокае»Уладзіміра Скрабатуна выклікалі ў Глыбоцкую раённую пракуратуру. Следчыя правяралі факты, выкладзеныя двума назіральнікамі з выбарчага ўчастку, дзе журналіст галасаваў 19 снежня. Назіральнікі — вылучэнцы ад праўладных грамадскіх арганізацый — склалі акт пра тое, што У. Скрабатун нібыта негатыўна выказваўся пра перспектывы абрання Аляксандра Лукашэнкі.

**18 лютага** на глыбоцкага журналіста Кастуся Шыталя, які піша матэрыялы на палітычныя тэмы для незалежнага сайта westki.info, у Глыбоцкім райвыканкаме склалі пратакол пра адміністратыўнае правапарушэнне. Яго вінавацілі ў парушэнні арт. 13 Выбарчага кодэкса. Адна з праўладных назіральніц на прэзідэнцкіх выбарах засведчыла, што журналіст 15 снежня распытваў студэнта мясцовага ліцэя, ці добраахвотна ён прыйшоў на датэрміновае галасаванне, а таксама, што К. Шыталь нібыта размяшчаў непраўдзівую інфармацыю ў інтэрнэце і пагражаў сябрам выбарчай камісіі. **10 сакавіка** суддзя Глыбоцкага райсуда пастанавіла спыніць адміністрацыйную справу супраць Кастуся Шыталя ў сувязі са сканчэннем тэрміну прыцягнення да адказнасці.

**21 лютага** суд Маскоўскага раёна Брэста (суддзя Алена Рэўцкая) задаволіў зыск дзяржаўнай газеты «Знамя юности» супраць былога журналіста выдання Алеся Леўчука. Па версіі рэпарцёра, рэдакцыя патрабавала ад яго напісаць выкрывальныя матэрыялы пра падзеі 19 снежні 2010 г. на плошчы Незалежнасці і пра альтэрнатыўных кандыдатаў у прэзідэнты. Ён адмовіўся гэта рабіць, пасля чаго яго папрасілі звольніцца «па ўласным жаданні». Журналіст напісаў пра гэта ў сваім блогу і расказаў у інтэрв'ю Радыё «Свабода». У выніку зыскоўца запатрабаваў ад Алеся Леўчука апублікаваць абвяржэнне. Праз некалькі дзён пасля вынікаў суда журналіст накіраваў апеляцыю.

**22 лютага** ў кватэру да маці вядомай блогеркі Таццяны Елавой увайшлі некалькі супрацоўнікаў праваахоўных органаў у цывільным. Прад’явіўшы службовыя пасведчанні, аператыўнікі сталі дапытвацца ў родных пра Таццяну, папярэдзіўшы, што яе расшукваюць як сведку па крымінальнай справе “аб масавых беспарадках” 19 снежня.

Таццяна Елавая, вядомая як блогерка «zmagarka», некалькі гадоў знаходзіцца за межамі Беларусі, і ўдзелу ў акцыі пратэсту не прымала. Але ў яе блогу з'яўляліся ўнікальныя матэрыялы на гэтую тэму.

**28 лютага** фотакарэспандэнта Ксенію Авімаву дапыталі ў ГУУС Мінгарвыканкама ў якасці сведкі па справе аб падзеях 19 снежня ў Мінску. Следчыя задалі ёй шэраг пытанняў: дзе была журналістка ўвечары таго дня, што рабіла і што бачыла. Рэпарцёр мяркуе, што падставай для допыту паслужылі яе матэрыялы і фатаграфіі ў асабістым блогу ў “Жывым Журнале”.

**9 сакавіка** рэдакцыя недзяржаўнай газеты «Наша Ніва» атрымала з Упраўлення КДБ па Мінску і Мінскай вобласці адказ на хадайніцтва ў справе вяртання камп’ютарнай тэхнікі. У сваім звароце рэдакцыя падкрэслівала, што адсутнасць тэхнікі, забранай падчасператрусаў ў рэдакцыі, а таксама дома ў галоўнага рэдактара газеты Андрэя Скурко і ў фотакарэспандэнта Юліі Дарашкевіч, стварае перашкоды прафесійнай дзейнасці супрацоўнікаў выдання. Копіі хадайніцтва былі дасланыя ў

Генеральную пракуратуру і пракуратуру г. Мінска. Адтуль раней прыйшлі паведамленні, што лісты перанакіраваныя ў КДБ.

У адказе з Упраўлення КДБ па Мінску і Мінскай вобласці за подпісам в.а. кіраўніка палкоўніка Уладзіміра Калача паведамляецца, што «рэчы будуць вернутыя пасля правядзення неабходных працэсуальных дзеянняў». І гэта прытым, што некаторыя з вынятых носьбітаў інфармацыі былі зусім пустыя.

**10 сакавіка** журналіста недзяржаўнай зарэгістраванай газеты «Наша Ніва» Алеся Пілецкага без тлумачэння прычын міліцыянт выдаліў з залы суда Маскоўскага раёна Мінска, дзе на той момант разглядаліся справы некалькіх удзельнікаў «масавых беспарадкаў 19 снежня». Рэпарцёр, як і іншыя калегі, вёў анлайн-рэпартаж з пасяджэння.

**10 сакавіка** суддзя Глыбоцкага райсуда пастанавіла спыніць адміністратыўную справу супраць грамадскага актывіста, журналіста рэгіянальнага рэсурсу westki.info Кастуся Шыталя, якога вінавацілі ў парушэнні арт. 13 Выбарчага кодэкса РБ. Судовая справа скасаваная ў сувязі са сканчэннем тэрміну прыцягнення да адміністратыўнай адказнасці.

Нагадаем, пратакол на журналіста склалі ў Глыбоцкім райвыканкаме на падставе скаргі праўладнай назіральніцы на прэзідэнцкіх выбарах. Жанчына заявіла, што К. Шыталь 15 снежня распытваў студэнта мясцовага ліцэя, ці добраахвотна той прыйшоў на датэрміновае галасаванне, а таксама, што журналіст нібыта размяшчаў непраўдзівую інфармацыю ў інтэрнэце і пагражаў сябрам выбарчай камісіі.

**11 сакавіка** стала вядома, што рэдакцыя недзяржаўнай газеты «Борисовские новости» атрымала з аддзела архітэктуры Барысаўскага райвыканкама ліст з прэтэнзіяй да лагатыпу газеты на казырку пад’езда, дзе месціцца рэдакцыя. У аддзеле палічылі гэта рэкламай, размешчанай без афармлення тэхпашпарту, і парушэннем закона «Аб рэкламе». Супрацоўнікі газеты не сталі выпраўляць «парушэння» - яны лічаць шыльду проста ўказаннем месца размяшчэння рэдакцыі.

**13 сакавіка** ў Гомелі прыкладна на гадзіну быў затрыманы журналіст Алег Ражкоў, які па заданні агенцтва БелаПАН прыйшоў на мясцовы рынак асвятляць флэш-моб, заяўлены грамадскімі актывістамі ў сувязі з адменай канцэрта гурту «Ляпіс Трубяцкой». У яго ўзялі вусныя тлумачэнні і забралі для «ацэнкі сапраўднасці» пасведчанне сябра ГА «БАЖ» і прэс-карту Міжнароднай федэрацыі журналістаў.

**21 сакавіка** Алег Ражкоў накіраваў заяву абласному пракурору Валянціну Шаеву, у якой папрасіў прыняць меры пракурорскага рэагавання ў дачыненні да супрацоўнікаў Цэнтральнага райаддзела міліцыі Гомеля, якія забралі ў яго дакументы. **30 сакавіка** рэпарцёру вярнулі пасведчанні БАЖ і МФЖ. Пасля экспертызы міліцыянты паведамілі, што гэтыя дакументы сапраўдныя, і да іх няма ніякіх прэтэнзій.

**16 сакавіка** ў гарадскім пасёлку Астравец (Гродзенская вобласць) супрацоўнікі міліцыі затрымалі і даставілі ў мясцовае РАУС карэспандэнта інтэрнэт-газеты «Салідарнасць» і пазаштатнага карэспандэнта часопіса «Абажур» Сяргея Балая. Журналіст знаходзіўся ў камандзіроўцы па рэдакцыйным заданні — апытваў мясцовых жыхароў на прадмет іх стаўлення да будаўніцтва АЭС. Пасля ўзяцця тлумачэнняў С. Балая адвезлі на вакзал.

**18 сакавіка** карэспандэнта недзяржаўнага інфармагенцтва БелаПАН Васіля Сямашку на паўтары гадзіны затрымала прэзідэнцкая ахова. Журналіст прыцягнуў увагу ахоўнікаў, калі выйшаў з фотаапаратам на дах будынка бізнес-цэнтра «Аляксандраў пасаж» — акурат насупраць Нацыянальнай бібліятэкі, дзе ў гэты час адбывалася сустрэча Аляксандра Лукашэнкі з расійскімі журналістамі. Супрацоўнікі

аховы праверылі ў яго журналісцкае пасведчанне, узялі тлумачэнні, выдалілі з фотаапарата ўсе зробленыя ім кадры з выявай бібліятэкі, пасля чаго адпусцілі.

**18 сакавіка** сябра БАЖ з Маладзечна Ян Лагвіновіч накіраваў у пракуратуру г. Мінска скаргу аб зацягванні тэрмінаў па распачынанні крымінальнай справы. Падчас разгону мірнага мітынгу 19 снежня на плошчы Незалежнасці ў Мінску журналіст быў збіты. Пракуратура Маскоўскага раёна, куды ён ужо адсылаў скаргу з просьбай распачаць крымінальную справу па факце катаванняў і жорсткага абыходжання, за тры месяцы не змагла высветліць, хто зламаў яму руку.

**18 сакавіка** падчас інтэрв'ю рэдактарам расійскіх СМІ Аляксандр Лукашэнка назваў правакацыяй паводзіны журналісткі «Новой газеты» Ірыны Халіп, якая разам з мужам, экс-кандыдатам ў прэзідэнты Андрэем Саннікавым, з'яўляецца абвінавачанай па крымінальнай справе аб масавых беспарадках у Мінску 19 снежня 2010 г. Ён заявіў, што ўсе тэлефоны вядомай журналісткі праслухоўваліся.

**18 сакавіка** на літоўска-беларускай мяжы (на памежным пераходзе «Катлоўка») беларускія мытнікі затрымалі 100 асобнікаў фотаальбома «Прэс-фота Беларусі 2010». Іх везлі на асабістым аўтамабілі вядомая фотажурналістка Юлія Дарашкевіч з мужам. Супрацоўнікі мытні 3 гадзіны вывучалі змест альбома і прыйшлі да высновы, што не могуць прапусціць яго праз мяжу. Яны склалі пратакол вынятку і сказалі, што на працягу месяца будзе праводзіцца экспертыза кнігі.

**22 сакавіка** журналіста «Радыё Рацыя» Барыса Гарэцкага затрымалі ў холе суда Партызанскага раёна Мінска, дзе ён асвятляў суд над Мікітам Ліхавідам, якога абвінавачваюць ва ўдзеле ў "масавых беспарадках" 19 снежня. Журналіста адвезлі ў галоўны будынак КДБ, дзе дапытвалі пра падзеі на Плошчы 2 гадзіны.

Нагадаем, раней рэпарцёр ужо адбыў 14 сутак адміністратыўнага арышту па абвінавачанні ва ўдзеле ў акцыі 19 снежня. Акрамя таго, **10 лютага** ён атрымаў папярэджанне пракуратуры за дзейнасць на карысць замежнага СМІ без акрэдытацыі.

**23 сакавіка** гродзенскаму журналісту Андрэю Пачобуту забаранілі выезд з тэрыторыі Беларусі. Пра гэта ён даведаўся, калі спрабаваў выехаць у Варшаву для ўдзелу ў канферэнцыі «Як дэмакратызаваць Беларусь?». Беларускія памежнікі не выпусцілі Андрэя Пачобута з краіны і паставілі ў яго пашпарт штамп «адмоўлена ў выездзе».

**24 сакавіка** суд г. Орша і Аршанскага раёна (суддзя Іна Кохава) асудзіў на 3 сутак адміністратыўнага арышту расійскага журналіста-праваабаронцу, галоўнага рэдактара інфармацыйнага агенцтва «Свобода» (г. Самара) Аляксандра Лашманкіна. Яго абвінавацілі ў дробным хуліганстве (арт. 17.1 КаАП) – нібыта за тое, што ён нецэнзурна лаяўся пры затрыманні. На знак пратэсту журналіст абвясціў галадоўку ўжо ў зале суда. Арышт Лашманкін адбыў у Аршанскім ізалятары часовага ўтрымання. Яго затрымала ў ноч на 24 сакавіка транспартная міліцыя ў горадзе Орша, зняўшы з цягніка "Чалябінск — Брэст". Журналіст ехаў у Мінск з мэтай асвятляць судовыя працэсы удзельнікаў «масавых беспарадкаў» і магчымыя вулічныя акцыі 25 сакавіка.

**25 сакавіка** раніцай - у Дзень Волі - у Кобрыне дахаты, дзе пражывала пад падпіскай аб нявыездзе рэдактарка сайта charter97.org Наталля Радзіна, прыйшоў участковы міліцыянт. Супрацоўнік міліцыі параіў журналістцы не пакідаць дом, паколькі да яе павінен прыехаць следчы КДБ. Нагадаем, Наталлю Радзіну абвінавачвалі ў арганізацыі і ўдзеле ў масавых беспарадках, і ёй пагражала да 15 гадоў пазбаўлення волі.

**24 сакавіка**, напярэдадні Дня Волі, ў Магілёве быў затрыманы і асуджаны на 3 сутак адміністратыўнага арышту незалежны журналіст Алесь Асіпцоў. Журналіста

затрымалі непадалёк ад яго дома і абвінавацілі ў дробным хуліганстве - адпраўленні натуральных патрэб у грамадскім месцы.

**25 сакавіка** ў Магілёве быў затрыманы пазаштатны карэспандэнт недзяржаўнага інфармацыйнага агенцтва БелаПАН па Магілёўскай вобласці Уладзімір Лапцэвіч. Ён планаваў асвятляць мерапрыемства, якое ладзілі мясцовыя прадстаўнікі дэмакратычных сіл з нагоды Дня Волі.

**28 сакавіка** Уладзімір Лапцэвіч быў асуджаны на 7 сутак адміністратыўнага арышту. Яго абвінавацілі па двух артыкулах Адміністратыўнага кодэкса - супраціўленне супрацоўнікам міліцыі і дробнае хуліганства. Сваёй віны журналіст не прызнаў.

**25 сакавіка** ў Віцебску супрацоўнікі міліцыі перашкодзілі выконваць прафесійныя абавязкі тэлежурналісту Уладзіславу Старавераву. Ён прыйшоў на плошчу Свабоды з відэакамерай, каб здымаць ускладанне кветак да мемарыяльнай дошкі Васілю Быкаву і помніка Уладзіміру Караткевічу. Як толькі ён дастаў камеру, да яго падскочылі два чалавекі ў цывільным, заламалі рукі і пацягнулі па асфальце да службовай машыны. Журналіста адвезлі ў Кастрычніцкі РАУС, дзе спачатку заявілі, што ў яго скрадзеная відэакамера, а потым — што ён падобны да маньяка-педафіла, які абвешчаны ў вышук. Праз 3 гадзіны рэпарцёра адпусцілі – за гэты акцыя, якую ён мусіў асвятляць, закончылася.

**25 сакавіка** ў Мінску карэспандэнты, якія асвятлялі прымеркаваныя да Дня Волі вулічныя святкаванні, сутыкнуліся з перашкодамі ў працы. Групе журналістаў, што прыйшлі да ўваходу ў сквер Янкі Купалы, увайсці ў сам парк не дазволілі.

Таксама людзі ў цывільным досыць груба заміналі працы журналістаў на плошчы Якуба Коласа. Фотакарэспандэнта Reuters Васіля Фядосенку адцягвалі за вопратку, не даючы рабіць здымкі. Невядомец паводзіў сябе груба з карэспандэнтам «Еўрапейскага радыё для Беларусі» Іллём Маліноўскім, указваючы, як яму працаваць.

Асобы ў цывільным спрабавалі перашкодзіць здымаць на плошчы Якуба Коласа журналісту расійскага тэлеканала ОРТ.

**31 сакавіка** позна ўвечары ў КДБ дапыталі намесніцу рэдактара "Народнай волі" Марыну Коктыш і рэдактара "Нашай Нівы" Андрэя Скурко ў сувязі з размешчанай на сайтах выданняў інфармацыяй пра знікненне журналісткі Наталлі Радзінай. Па завяршэнні гутаркі з іх была ўзятая падпіска пра неразгалошванне.

Нагадаем, вечарам 30 сакавіка рэдактарка сайта charter97.org Н. Радзіна выехала ў Мінск на допыт у КДБ і знікла, тэлефон яе быў недаступны.

**5 красавіка** журналістцы Таццяне Бублікавай, якая зараз працуе ў Мінску, патэлефанаваў супрацоўнік УКДБ па Гомельскай вобласці Павел Самсонаў і сказаў, што з ёй хочуць пагутарыць з нагоды яе ўдзелу ў акцыі 19 снежня на плошчы Незалежнасці ў Мінску. Журналістка адмовілася ісці на размову па тэлефонным выкліку.

**6 красавіка** ў г. Бяроза ў кватэру журналісткі Тамары Шчапёткінай наведаўся маёр Бярозаўскага РАУС і папярэдзіў пра тое, каб 7 красавіка яна не выходзіла з дому. Загад быў звязаны з тым, што ў Бярозу (Брэсцкая вобласць) павінен быў прыехаць Аляксандр Лукашэнка.

**7 красавіка** ў Кобрыне ў кватэры бацькоў рэдактаркі сайта charter97.org Наталлі Радзінай адбыўся ператрус. Яго правялі супрацоўнікі мясцовага ўпраўлення КДБ, а таксама следчы з Мінска. У выніку былі забраныя штодзённікі журналісткі, лісты салідарнасці, якія ішлі ёй з усяго свету, камп'ютар непаўнагадовага пляменніка

Радзінай. Адзначым, што на працягу тыдня, з таго часу як Наталля Радзіна з’ехала з краіны, на допыты ў КДБ выклікалі яе бацькоў, брата і цётку.

**8 красавіка** ў кватэры былога кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Саннікава і журналісткі Ірыны Халіп КДБ правёў чарговыператрус. Як паведаміла маці журналісткі Люцына Бяльзацкая, паводле яе падлікаў, гэта трэціператрус толькі КДБ, а яшчэ быў міліцэйскі.

**12 красавіка** ў офіс рэдакцыі «Нашай Нівы» прыйшлі пяцёра супрацоўнікаў КДБ, два панятыя і міліцыянты, якія сталі на ўваходзе і не выпускалі нікога з памяшкання. Спецслужбы паказалі пастанову на выемку фота- і відэаматэрыялаў пра выбух у мінскім метро, што адбыўся 11 красавіка. У выніку сілавікам аддалі відэакасету са здымкамі і далі скапіяваць усе фотаматэрыялы. Пасля гэтага прадстаўнікі КДБ сышлі, склаўшы пратакол вынятку. Яны таксама прадпісалі зняць з сайта газеты ўчорашні відэасюжэт. З рэдактара Андрэя Скурко ўзялі падпіску пра неразгалошванне.

**16 красавіка** галоўнага рэдактара інтэрнэт-газеты «Салідарнасць» Аляксандра Старыкевіча дапыталі ў пракуратуры ў якасці сведкі па справе тэрарыстычнага выбуху ў мінскім метро. Журналіста выклікалі па тэлефоне, без павесткі. Нагадаем, **12 красавіка** Генеральная пракуратура вынесла папярэджанне А. Старыкевічу за публікацыю «Кому это выгодно?» ад 11 красавіка, прымеркаваную тэрарыстычнаму выбуху ў сталічным метро.

**18 красавіка** рэдактара «Нашай Нівы» Андрэя Скурко выклікалі ў КДБ і папярэдзілі аб адказнасці за разгалошванне матэрыялаў следства. За апошнія чатыры месяцы гэта ўжо сёмая сустрэча “Нашай Нівы” з КДБ — да гэтага прайшлі 4 ператрусы, выманне тэхнікі, адзін допыт і адно наведванне для вымання фота- і відэаматэрыялаў. Папярэднія выклікі былі ў рамках расследавання справы аб Плошчы 19 снежня.

**19 красавіка** раніцай ў Мінску супрацоўнікі міліцыі ўварваліся ў кватэру, што належыць дачцэ журналіста і палітыка Валерыя Шчукіна. У гэты час у памяшканні знаходзіліся актывісты грамадзянскай кампаніі «Наш дом», звязанай з выданнем недзяржаўных газет «Витебский курьер» і «Наш дом». Міліцыянты патлумачылі свой візіт расследаваннем справы аб тэракце ў мінскім метро. Усіх прысутных (18 чалавек) затрымалі і адвезлі ў Фрунзенскі РУУС. Увечары ўсіх, акрамя чатырох – Карач, Левінава, Баршчэўскага і Станеўскага - адпусцілі.

**20 красавіка** суд Фрунзенскага раёна г. Мінска (суддзя Вольга Комар) разгледзеў адміністратыўныя справы Вольгі Карач, Паўла Левінава і Алега Баршчэўскага. Іх асудзілі за «дробнае хуліганства» — нецэнзурную лаянку (арт. 17.1 КаАП), хаця ў дзень затрымання на Паўла Левінава быў складзены пратакол аб падазрэнні ў спрычыненасці да тэракту ў метро. Левінава і Баршчэўскага асудзілі на 10 сутак арышту, Вольгу Карач аштрафавалі на 20 базавых велічынь.

**21 красавіка** ў Мінску супрацоўнікі міліцыі затрымалі аператара недзяржаўнага інфармацыйнага агенцтва БелаПАН Паўла Падабеда, чым перашкодзілі яму выконваць прафесійныя абавязкі. Затрыманне адбылося на плошчы Незалежнасці каля Дома ўраду. Журналіст на заданне рэдакцыі здымаў матэрыял для сюжэту пра зварот групы грамадзян да кіраўніцтва краіны па ініцыяванні стварэння незалежнай грамадскай камісіі для перагляду крымінальных і грамадзянскіх спраў. Супрацоўнікі Маскоўскага РУУС затрымалі яго для праверкі дакументаў, адвезлі ва ўпраўленне, дзе пратрымалі каля паўтары гадзіны.

**26 красавіка** ў Віцебску супрацоўнікі міліцыі ў грубай форме затрымалі незалежнага журналіста Уладзіслава Стараверава, калі той выконваў прафесійныя абавязкі. Інцыдэнт адбыўся, калі журналіст здымаў на камеру калектыўны малебен за

ахвяраў Чарнобылю ля крыжа на Успенскай гары. Міліцыянтам, якія назіралі за акцыяй, не спадабалася, што яны таксама трапляюць у відэасюжэт. Два супрацоўнікі міліцыі павалілі Стараверава на зямлю і павалаклі, спрабуючы адабраць відэакамеру. За журналіста ўступіліся людзі, што вымусіла праваахоўнікаў паводзіць сябе больш карэктна. У. Стараверава даставілі ў Кастрычніцкі РАУС, дзе адабралі тэлефон. Ноч ён правёў у ізалятары часовага ўтрымання.

**27 красавіка** Уладзіслава Стараверава даставілі ў суд Кастрычніцкага раёна Віцебска . Яго абвінавацілі ў нецэнзурнай лаянцы і непадпарадкаванні міліцыі. Сведкамі з боку міліцыі выступалі супрацоўнік Кастрычніцкага РАУС Аляксандр Каліноўскі і кіраўнік міліцыі грамадскай бяспекі УУС Віцебскага аблвыканкама Ігар Скарыновіч. Пасля хадайніцтваў журналіста аб адвакаце, засведчанні цялесных пашкоджанняў, нанесеных яму міліцыянтамі, і медыцынскай дапамозе, бо ўначы ў ізалятар яму выклікалі «хуткую дапамогу», суддзя перанесла судовае паседжанне.

Адміністратыўны працэс над Уладзіславам Стараверавым працягнуўся **10 мая**. Журналіст адмовіўся прысутнічаць на слуханні, паколькі катэгарычна не прызнаваў сваю віну. Суд скончыўся двума штрафамі: на 3 базавыя велічыні Старавераў аштрафаваны за нецэнзурную лаянку, і на 22 — за непадпарадкаванне міліцыі падчас затрымання 26 красавіка.

**17 траўня** суд Першамайскага раёна Мінска прызнаў грамадскага актывіста, папулярнага беларускага блогера Яўгена Ліпковіча вінаватым ва "наўмыснай зняваже гонару і годнасці асобы, выказанай у непрыстойнай форме"(ч.3 арт. 9 КаАП) і аштрафаваў на 15 базавых велічынь (525 тыс. руб.).

Нагодай судовага разбіральніцтва стаў зыск чальца Савета Рэспублікі, старшыні праўладнага Саюза пісьменнікаў Беларусі і Савета па маральнасці, генерал-лейтэнанта Мікалая Чаргінца за тое, што 19 сакавіка 2011 г. у Севастопальскім парку сталіцы спадар Ліпковіч публічна спаліў дзве кнігі Чаргінца. Апошні палічыў, што такімі дзеяннямі яму былі нанесеныя маральныя пакуты, а сваім учынкам Ліпковіч зняважыў яго гонар і годнасць. Яўген Ліпковіч сваю віну не прызнаў.

**24 траўня** ў Мінску супрацоўнікі міліцыі перашкаджалі журналістам асвятляць грамадзянскую акцыю «Стоп-бензін» супраць падвышэння коштаў на паліва. Акцыя ладзілася каля сталічнага супермаркета Prostore. Туды ж былі падцягнутыя міліцыя і супрацоўнікі ДАІ, якія дамагаліся яе спынення і штрафавалі ўдзельнікаў акцыі за парушэнне правілаў дарожнага руху. Не жадаючы трапляць у кадр, даішнікі забаранілі журналістам здымаць «адміністратыўны працэс».

Калі журналісты паспрабавалі давесці да ахоўнікаў правапарадку, што таксама знаходзяцца на працы, маёр ДАІ Сяргей Лагуноў паспрабаваў адабраць у фотакарэспандэнткі Юліі Дарашкевіч яе рэдакцыйнае пасведчанне.

Між тым, згодна з арт. 34 п. 4.7 закона "Аб СМІ", здымкі падчас масавых мерапрыемстваў на адкрытых месцах дазваляюцца.

**27 траўня** ў Гродне супрацоўнікі міліцыі затрымалі незалежных журналістаў Івана Романа і Андрэя Фралова, якія збіраліся каля будынку абласной пракуратуры запісаць відэаінтэрв'ю з Аксанай Пачобут, жонкай зняволенага калегі, карэспандэнта польскай Gazety Wyborczej Андрэя Пачобута.

Затрыманых каля гадзіны пратрымалі ў памяшканні пракуратуры, узялі пісьмовыя тлумачэнні, пасля чаго адпусцілі. Іх вусна папярэдзілі, што здымкі каля «рэжымных» аб'ектаў, якімі з'яўляюцца пракуратура і суд, можна рабіць толькі пасля атрымання адпаведнага дазволу.

Намеснік старшыні ГА «БАЖ», юрыст Андрэй Бастунец заўважае, што аргумент пракуратуры не грунтуецца на законе: у законе «Аб сродках масавай інфармацыі» няма нормы, якая б забараняла здымкі нейкіх «рэжымных» аб'ектаў.

**15 чэрвеня** гродзенскага журналіста Ігара Банцара асудзілі на 5 сутак адміністратыўнага арышту нібыта за парушэнні артыкула 17.1 («Дробнае хуліганства») Кодэкса аб адміністратыўных правапарушэннях. Такое рашэнне прыняла суддзя суда Ленінскага раёна г. Гродна Ксенія Стасюкевіч. Абвінавачанне грунтавалася на сведчаннях двух супрацоўнікаў міліцыі. Банцара затрымалі ля пад'езда яго дома. Такім чынам, стражы парадку перашкодзілі яму прыйсці да будынка суда, дзе 14 чэрвеня пачаўся разгляд крымінальнай справы журналіста Андрэя Пачобута. На знак пратэсту І. Банцар абвясціў галадоўку.

**15 чэрвеня** ў розных гарадах Беларусі падчас мірнай масавай акцыі было затрымана 9 журналістаў. Многім праваахоўнікі перашкаджалі выконваць прафесійныя абавязкі. Журналісты асвятлялі «народныя гулянні» увечары кожную сераду, заяўленыя праз сацыяльныя сеткі.

<u>У Брэсце</u> на плошчы Леніна міліцыянты затрымалі журналіста недзяржаўнай «Брестской газеты» Станіслава Коршунава і супрацоўніка студэнцкага інтэрнэт-радыё «Старт» Дзмітрыя Босака. Прыкладна праз гадзіну іх адпусцілі.

<u>У Гродне</u> былі затрыманыя аператар Барыс Чарняўскі, які працуе для польскага тэлебачання TVP, а таксама польская журналістка Агнешка Ліхнэровіч з варшаўскага радыё TOK FM. Іх даставілі ў Кастрычніцкі РАУС і адпусцілі толькі пасля таго, як туды прыехалі дыпламаты з польскага консульства ў Гродне.

<u>У Віцебску</u> быў затрыманы рэдактар незалежнага сайта "Народныя навіны Віцебска" Сяргей Серабро. Ён прыйшоў на цэнтральную плошчу горада, каб сфатаграфаваць акцыю «Рэвалюцыя праз сацыяльную сетку», але не паспеў зрабіць ніводнага здымка, як да яго падышлі міліцыянты, заявілі, што ён падобны да нейкага злачынцы, і адвезлі ў Кастрычніцкі РАУС. Там разам з іншымі затрыманымі яго пратрымалі каля паўтары гадзіны, ўзялі «тлумачэнні», пасля чаго адпусцілі.

<u>У Мінску</u> на плошчы Свабоды быў на пэўны час затрыманы карэспандэнт «Еўрапейскага радыё для Беларусі» Павел Свярдлоў.

<u>У Гомелі</u> на плошчы Леніна падчас акцыі міліцыя затрымала двух журналістаў — Ларысу Шчыракову і рэгіянальнага карэспандэнта «Комсомольской правды» в Белоруссии» Паўлюка Міцкевіча. Падпалкоўнік міліцыі Андрэй Пархоменка з падначаленымі перашкаджаў Ларысе Шчыраковай здымаць падзеі на відэа, закрывалі камеру, а потым журналістку за рукі завалаклі ў аўтазак. Затрыманых адвезлі ў Цэнтральны РАУС Гомеля, дзе правялі асабісты дагляд і склалі пратаколы. З фотаапарата і відэакамеры Паўла Міцкевіча выдалілі ўсе здымкі. Праз паўтары гадзіны журналістам аддалі іх рэчы і адпусцілі.

<u>У Маладзечне</u> затрымалі карэспандэнта БелаПАН Яўгена Сухаверха, не зважаючы на паказанае журналісцкае пасведчанне. Журналіста прымусілі знішчыць з камеры ўсе фотаздымкі.

Даведка: ініцыятыва выходзіць кожную сераду на народныя гулянні ў цэнтры горада нарадзілася ў сацыяльных сетках "Вконтакте" і "Фэйсбук". Такая форма пратэсту - без транспарантаў, сцягоў - абраная, каб удзельнікаў нельга было звінаваціць у арганізацыі несанкцыянаванай акцыі. Патрабаванні ўдзельнікаў празрыстыя і без лозунгаў — палітычныя і эканамічныя перамены.

**22 чэрвеня** - у сераду - супрацоўнікі праваахоўных органаў ізноў затрымлівалі журналістаў, якія асвятлялі чарговую мірную акцыю грамадзянскага пратэсту, арганізаваную праз сацыяльныя сеткі.

У Мінску на плошчы Свабоды міліцыянты схапілі фотакарэспандэнта інтэрнэт-газеты «Салідарнасць» Сяргея Балая, у раёне Кастрычніцкай плошчы быў затрыманы фотакарэспандэнт інфармацыйнага агенцтва «Інтэрфакс-Захад» Руслан Рындзевіч, якога на месца падзеяў з заданнем накіравала рэдакцыя. На Кастрычніцкай плошчы затрымалі таксама відэааператара інфармацыйнай кампаніі БелаПАН Паўла Падабеда і незалежнага відэааператара Алеся Баразенку. Непадалёк ад Палацу Рэспублікі на той жа Кастрычніцкай плошчы супрацоўнікі міліцыі затрымалі карэспандэнта Радыё "Свабода" Алега Груздзіловіча. Два спецназаўцы павалілі яго на зямлю, збілі і літаральна завалаклі праз усю плошчу да спецтранспарту. На праспекце Незалежнасці, непадалёк ад плошчы, затрымалі карэспандэнта «Нашай Нівы» Алеся Пілецкага, які фатаграфаваў спецназаўцаў. Усіх затрыманых журналістаў даставілі ў Цэнтральны РУУС, дзе пратрымалі каля гадзіны і адпусцілі без складання пратаколаў.

У Гродне на нейкі час быў затрыманы рэпарцёр Аляксандр Саенка.

У Жодзіна (Мінская вобласць) супрацоўнікі міліцыі затрымлівалі журналіста Сяргея Салаўя.

**29 чэрвеня** - у сераду - супрацоўнікі праваахоўных органаў ізноў затрымлівалі журналістаў і перашкаджалі ім асвятляць акцыю пратэсту, арганізаваную праз сацыяльныя сеткі.

У Мінску ля Кастрычніцкай плошчы за гадзіну да пачатку "маўклівай" акцыі затрымалі рэпарцёра "Нашай Нівы" Алеся Пілецкага і фотажурналіста Уладзя Грыдзіна, апошняму падчас затрымання разбілі камеру. Журналістаў даставілі ў гарадскі аддзел міліцыі №1 Цэнтральнага раёна, адпусцілі прыкладна праз гадзіну. "Ніхто з міліцыянтаў, якія мяне затрымлівалі, нават не назваў сваё імя", - распавёў пазней А. Пілецкі.

Пасля пачатку акцыі (19-ці гадзін) праваахоўнікі масава затрымлівалі яе ўдзельнікаў і журналістаў. Былі затрыманыя: журналіст недзяржаўнай "Белгазеты" Вадзім Заміроўскі, незалежная журналістка Аліна Радашчынская, карэспандэнты БелаПАН Вадзім Шмыгаў і Ксенія Авімава, фотакарэспандэнт інфармагенцтва "Інтэрфакс-Захад" Павел Паташнікаў, карэспандэнты газеты «Комсомольская правда» в Белоруссии» Кацярына Барысевіч, Алена Талкачова і Сяргей Гапон. Каля 20.00 другі раз за вечар быў затрыманы фотакарэспандэнт Уладзь Грыдзін. Праз пэўны час журналістаў адпусцілі, пасля ўмяшальніцтва ў справу прэс-сакратара ГУУС Мінгарвыканкама Аляксандра Ластоўскага.

Відэааператару БелаПАН Васілю Сямашку міліцынты, перашкаджаючы рабіць здымкі, да крыві разбілі лоб. Фотакарэспандэнтцы Наталлі Аблажэй пашкодзілі камеру.

Не абышлося ў гэты дзень без затрыманняў замежных журналістаў: на вуліцы Янкі Купалы быў затрыманы латвійскі журналіст Угіс Лябіціс, падчас здымак акцыі невядомыя людзі ў цывільным збілі карэспандэнта і аператара Рускай службы BBC Алега Болдырава і Максіма Ламакіна.

У Брэсце былі затрыманыя журналіст Алесь Ляўчук і фотакарэспандэнтка інфармагенцтва БелаПАН Мілана Харатава. Апошнюю затрымалі як асобу, якая, нібыта "падыходзіць пад апісанне жанчыны, якую падазраюць у крадзяжы".

**2 ліпеня** ў офіс гомельскага незалежнага сайта «Сильные новости» наведаўся маёр міліцыі Аляксандр Кошман і запатрабаваў у адміністратара сайта Яўгена Суворава неадкладна закрыць рэсурс, паколькі "на сайце змяшчаюць заклікі

да несанкцыянаванай акцыі”. Яўген Сувораў, які на той час быў у офісе адзін, адказаў, што не мае такой магчымасці. Тады маёр патэлефанаваў рэдактару сайта Пятру Кузняцову і загадаў яму прыйсці ў панядзелак, 4 ліпеня, у аддзел міліцыі Чыгуначнага раёна на гутарку. Але П. Кузняцоў вырашыў не хадзіць, паколькі пісьмовага выкліку не атрымліваў.

**5 ліпеня** ў Гродне невядомыя мужчыны ў цывільным перашкаджалі працаваць журналістам, якія асвятлялі суд па крымінальнай справе за “паклёп” на прэзідэнта Лукашэнку супраць карэспандэнта Gazety Wyborczej Андрэя Пачобута.

Ад дзеянняў такіх людзей пацярпелі, у прыватнасці, фотакарэспандэнт інфармагенцтва БелаПАН Таццяна Зяньковіч, фотакарэспандэнты агенцтва Associated Press Сяргей Грыц і Reuters Васіль Фядосенка. Група невядомых мужчын штурхаліся, хапалі журналістаў за рукі, фотааб’ектывы.

**6 ліпеня** падчас «маўклівай» акцыі ў розных рэгіёнах Беларусі былі затрыманыя не менш за 28 журналістаў.

<u>У Гродне</u> затрыманыя Ігар Банцар і Алесь Дзянісаў атрымалі па 10 сутак адміністратыўнага арышту, Юры Гумянюк — 12 сутак. Андрэй Фралоў і Мікалай Дзятчэня былі зняволеныя на 3 сутак “за лаянку ў грамадскім месцы” (арт. 17.1 КаАП).

<u>У Магілёве</u> за «непадпарадкаванне міліцыі» на 6 сутак адміністратыўнага арышту асуджаная Ганна Ільіна.

<u>У Бабруйску</u> былі затрыманыя карэспандэнты мясцовай недзяржаўнай газеты “Бобруйский курьер” Віктар Масаловіч і Віктар Качан на цэнтральнай плошчы горада, дзе знаходзіліся па заданні рэдакцыі і рабілі фота- і відэаздымкі. У аддзяленні міліцыі на журналістаў склалі пратакол за нібыта парушэнне заканадаўства аб масавых мерапрыемствах. суда Бабруйскага раёна і г. Бабруйска (суддзя Наталля Чарапуха) аштрафаваў абодвух на 5 базавых велічынь.

<u>У цэнтры Гродна</u> падчас “маўклівай” акцыі на карэспандэнтку газеты «Вечерний Гродно» Паліну Жураўлёву напалі невядомыя жанчыны – як пазней высветлілася, супрацоўніцы міліцыі. Па словах журналісткі, яны схапілі яе і перадалі мужчынам у цывільным. Тыя груба павалаклі дзяўчыну ў аўтобус, а па дарозе кінулі аб зямлю. П. Жураўлёву даставілі ў раённы аддзел міліцыі, дзе ёй стала кепска, і адтуль яе забрала «хуткая дапамога». Паводле медыцынскай экспертызы, у дзяўчыны сіняк пад вокам, крывападцёкі на руках і спіне. Рэдакцыя газеты «Вечерний Гродно» звярнулася ў прэс-службу УУС аблвыканкама, каб высветліць, што за асобы ў цывільным затрымлівалі людзей у часе грамадзянскай акцыі. У адказ начальнік аддзела інфармацыі і грамадскіх сувязей Георгій Еўчар прапанаваў даслаць пісьмовы запыт.

**11 ліпеня** Ленінскі раённы суд г. Гродна аштрафаваў на 30 базавых велічынь (1 050 тыс. рублёў) карэспандэнта Радыё «Свабода» Міхаіла Карневіча. Журналіста, затрыманага **3 ліпеня** ў момант асвятлення “маўклівай” акцыі пратэсту, пакаралі за ўдзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве (арт. 23.34 КаАП). Паводле сп. Карневіча, яго затрымалі, калі ён стаяў убаку ад шэсця і рабіў фотаздымкі. Паказаную журналіцкую акрэдытацыю міліцыянты праігнаравалі і адвезлі журналіста ў пастарунак для складання пратаколу.

**13 ліпеня** Ленінскі раённы суд г. Гродна (суддзя Дзмітрый Кедаль) пакараў адміністратыўным штрафам карэспандэнтку “Радыё Рацыя” Гражыну Шалкевіч. Журналістку, якая **3 ліпеня** выконвала прафесійныя абавязкі ў часе “маўклівай” акцыі пратэсту, абавязалі сплаціць 30 базавых велічынь за нібыта ўдзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве (арт. 23.34 КаАП).

**13 ліпеня** карэспандэнта недзяржаўнай газеты «Белорусы и рынок» Ігара Ільяша выклікалі для размовы ў Камітэт дзяржаўнай бяспекі. У КДБ гутарка журналіста са следчым цягнулася больш за гадзіну і вялася «пад пратакол». Паводле слоў І. Ільяша, яму патлумачылі, што размова адбываецца ў межах аператыўна-вышукавых мерапрыемстваў, якія тычацца “маўклівых” акцый. Галоўнай тэмай абмеркавання была прафесійная дзейнасць рэпарцёра і асвятленне ім акцый пратэсту. Напрыканцы сустрэчы журналісту настойліва “раілі” не распаўсюджваць дэталяў гэтай размовы.

**13 ліпеня** ў Бабруйску падчас “маўклівай” акцыі пратэсту на цэнтральнай плошчы горада маёр міліцыі Сяргей Рудзько спрабаваў забараніць галоўнаму рэдактару «Бобруйского курьера» Анатолю Санаценку знаходзіцца на месцы падзей і перашкаджаў яму выконваць прафесійныя абавязкі. Журналіст абскардзіў дзеянні міліцыянта ў раённую пракуратуру. Але пракурор Артур Карапецян адпісаўся (у лісце ад 18 жніўня), што факты, выкладзеныя ў скарзе журналіста, не пацвердзіліся ў ходзе праверкі.

**13 ліпеня** ў часе “маўклівых” акцый пратэсту, якія ладзіліся па ўсёй Беларусі, супрацоўнікі сілавых органаў і невядомыя людзі ў цывільным зноў груба перашкаджалі працаваць прадстаўнікам СМІ і затрымлівалі іх. У Мінску пад затрыманні падпалі як мінімум 4 журналісты (без уліку тых, каго спрабавалі затрымаць). У рэгіёнах - 7.

**14 ліпеня** рэдактара глыбоцкай рэкламнай газеты «Прэфект-info» Дзмітрыя Лупача выклікалі на размову ў раённае аддзяленне міліцыі. Позву ўручылі **13 ліпеня** на цэнтральнай плошчы горада, дзе на той момант праходзіла акцыя «маўклівага» пратэсту. Паводле слоў журналіста, у Глыбоцкім РАУС яго распытвалі пра акцыі, ініцыяваныя інтэрнэт-суполкай «Рэвалюцыя праз сацыяльныя сеткі», і раілі больш не з’яўляцца на цэнтральнай плошчы горада ў сераду ўвечары.

**20 ліпеня** (серада) у ходзе “маўклівых” акцый пратэсту былі затрыманыя прадстаўнікі сродкаў масавай інфармацыі:

<u>У Мінску</u> каля кінатэатра «Перамога» была затрыманая журналістка тэлеканала «Белсат» Аляксандра Клімовіч. (**21 ліпеня** суддзя Цэнтральнага райсуда Валерый Есьман асудзіў яе на 11 сутак арышту.) Там жа на пэўны час быў затрыманы фотажурналіст Цімафей Скібенка, яго ў хуткім часе адпусцілі.

<u>У Брэсце</u> прыкладна на 2 гадзіны была затрыманая карэспандэнтка «Радыё Рацыя» Аліса Поль. Яе спынілі на падыходзе да кінатэатра «Беларусь», пляцоўка вакол якога была вызначана для правядзення несанкцыянаванай «маўклівай» акцыі. Нягледзячы на паказаны пашпарт, супрацоўнікі міліцыі адвезлі яе ў Ленінскі РАУС “для высвятлення” асобы. Таксама ў Брэсце міліцыя спыніла незалежнага тэлежурналіста Андрэя Любенчука і адміністратара суполкі «Рэвалюцыя праз сацыяльныя сеткі» Сяргея Алексіевіча — пасля таго, як журналіст узяў у апошняга інтэрв'ю. Касету з запісам у Любенчука забралі, а Алексіевіча павезлі ў пастарунак.

<u>У Барысаве</u> былі затрыманыя і дастаўленыя ў Барысаўскае РУУС журналісты мясцовага інфармацыйнага сайта ex-press.by Алена Аўтушка і Аляксандр Зянкоў. Пасля праверкі дакументаў А. Аўтушку адпусцілі, а А. Зянкова пакінулі ў міліцэйскім пастарунку да заўтра. **21 ліпеня** журналіста пакаралі 5 суткамі адміністратыўнага арышту за “непадпарадкаванне законным патрабаванням міліцыі” (арт. 23.4 КаАП). Такое рашэнне прыняла суддзя Барысаўскага райсуда Лідзія Малчанава.

**21 ліпеня** Магілёўскі абласны суд пакінуў без зменаў прысуды траім мясцовым журналістам, што адбылі адміністратыўныя арышты па выніках вулічных акцый 3 ліпеня. Касацыйныя скаргі ў суд накіравалі Алесь Асіпцоў (суддзя Святлана Мартынава), Аліна Скрабунова (суддзя Сяргей Каралёў) і Ганна Ільіна суддзя Міхаіл Мельнікаў). Па ўсіх вердыкт быў аднолькавы: у скаргах адмовіць, рашэнні судоў

першай інстанцыі пакінуць у сіле. Журналісты выказалі намер працягваць працэс абскарджання — спачатку ў старшыні абласнога суда, потым — у Вярхоўным судзе, а потым — у Камітэце па правах чалавека ААН.

Нагадаем, што Алесь Асіпцоў (БелаПАН) — адбыў 10 сутак арышту нібыта за ўдзел у несанкцыянаваным мерапрыемстве (ч.1 арт. 23.34 КаАП). Рашэнне прымала суддзя Ленінскага райсуда Ірына Ланчава.

Ганна Ільіна (інтэрнэт-журналістка, па заданні кампаніі «velcom» і з адпаведнай акрэдытацыйнай карткай асвятляла святочныя вулічныя мерапрыемствы ў горадзе, прымеркаваныя да Дня незалежнасці 3 ліпеня) — адбыла 6 сутак арышту нібыта за непадпарадкаванне законнаму патрабаванню міліцыі (арт. 23.4 КаАП) і парушэнне парадку правядзення масавага мерапрыемства (арт. 23.34 КаАП). Рашэнне прымала суддзя Ленінскага райсуда Наталля Панасенка.

Аліна Скрабунова (інтэрнэт-фотажурналістка) — адбыла 15 сутак арышту (4 — па арт. 23.4 КаАП (непадпарадкаванне законнаму патрабаванню міліцыі), і 11 — па арт. 23.34 (парушэнне парадку правядзення масавага мерапрыемства). Рашэнне прымала суддзя Ленінскага райсуда Аксана Ратнікава.

**24 ліпеня** ў Магілёве да хаты да незалежнай журналісткі Аліны Скрабуновай наведаліся двое курсантаў магілёўскага каледжу міліцыі. Візіцёры паказалі дакумент, які надаваў ім паўнамоцтвы ўчастковых міліцыянтаў, і паведамілі, што ўпаўнаважаныя агледзець кватэру і правесці прафілактычную гутарку пра недапушчальнасць удзелу ў несанкцыянаваных мерапрыемствах. Журналістка пусціла іх агледзець пакоі кватэры і выслухала.

**25 ліпеня** Брэсцкі абласны суд адхіліў касацыйную скаргу былога рэгіянальнага карэспандэнта дзяржаўнай газеты «Знамя юности» Алеся Ляўчука, які абскарджваў вынік судовай справы па зыску рэдакцыі газеты супраць яго.

Нагадаем, газета «Знамя юности» вінавацiла былога супрацоўніка ў паклёпе і зняважэ дзелавой рэпутацыі выдання. Зыскавую заяву ў суд Маскоўскага раёна Брэста падпісаў 5 студзеня галоўны рэдактар «ЗЮ» Яўген Мялешка. Гэта адбылося пасля таго, як А. Ляўчук ва ўласным блозе распавёў пра прычыны свайго звальнення з газеты. Паводле журналіста, кіраўніцтва загадала яму напісаць артыкул, у якім бы Алесь асудзіў падзеі на плошчы Незалежнасці ў Мінску 19 снежня 2010 г. Ляўчук рабіць гэта адмовіўся і праз некалькі дзён атрымаў ліст з рэдакцыі з прапановай звольніцца па ўласным жаданні. **21 лютага** суд Маскоўскага раёна Брэста задаволіў зыск газеты да былога карэспандэнта.

**3 жніўня** ў г. Дрыбін (Магілёўская вобласць) была асуджаная на 10 сутак адміністратыўнага арышту журналістка недзяржаўнай газеты "Новы Час" Таццяна Шапуцька. Журналістку затрымалі **2 жніўня** падчас асвятлення акцыі ў падтрымку палітвязня Змітра Дашкевіча пад сценамі Горацкай калоніі (г. Горкі, Магілёўскай вобл.). Па словах Таццяны, міліцыянты затрымалі яе, нягледзячы на паказанае рэдакцыйнае пасведчанне. Ноч журналістка правяла ў міліцэйскім пастарунку, а раніцай яе, разам з іншымі затрыманымі, адвезлі ў Дрыбін, дзе ўвечары судзілі. У якасці доказу яе ўдзелу ў акцыі міліцыянты прад'явілі суду некалькі кадраў з адзнятага імі відэа — дзе Таццяна перадае ад аднаго ўдзельніка пікета другому партрэт Дашкевіча і дзе яна схапілася за расцяжку пікетоўцаў у момант іх затрымання.

**12 жніўня** суд Мінскай вобласці адхіліў хадайніцтва барысаўскага журналіста Аляксандра Зянкова, які ў ліпені адбыў 5 сутак адміністратыўнага арышту пасля затрымання ў дзень «маўклівай» акцыі і зараз дамагаўся права абскардзіць свой

прысуд. Паводле пастановы суда першай інстанцыі, падаць скаргу можна было толькі на працягу 5 сутак. Паколькі менавіта іх журналіст і правеўў за кратамі, то цяпер ён хадайнічаў пра аднаўленне тэрміну на абскарджанне прысуду і прасіў абласны суд адмяніць пастанову раённага. Суддзя Мінскага аблсуда Андрэй Шупікаў хадайніцтва адхіліў.

Нагадаем, 21 ліпеня суддзя Барысаўскага раёна Лідзія Малчанава прызнала журналіста вінаватым у парушэнні арт. 23. 4 КаАП (супраціў міліцыі). Аляксандра Зянкова затрымалі на плошчы ў цэнтры Барысава **20 ліпеня**, калі там праходзіла акцыя «маўклівага» пратэсту. Інспектар ДАІ спыніў аўтамабіль, з салону якога Зянкоў здымаў на відэа падзеі.

**19 жніўня** супрацоўнікі Дзяржаўтаінспекцыі некалькі разоў спынялі мікрааўтобус з журналістамі і праваабаронцамі, якія ехалі ў Смаргонь (Гродзенская вобласць) на суд над былым палітзняволеным Юрыем Лінгам. Спачатку машына ДАІ з "мігалкамі" дагнала і прымусіла спыніцца аўтамабіль журналістаў, паколькі міліцыянтам падалося, што адзін з пасажыраў не прышпілены рамянём бяспекі. Праз колькі кіламетраў спынілі "для праверкі дакументаў", нагодай наступнай праверкі сталі фіранкі аўтамабіля журналістаў. У чацвёрты раз мікраўтобус спыніла на ўездзе ў Смаргонь ізноў для праверкі дакументаў. Каб не спазніцца на працэс, журналісты былі вымушаны далей дабірацца пешкам.

У выніку каля Смаргонскага раённага суда супрацоўнікі Смаргонскага РАУС без тлумачэння прычын не дапусцілі журналістаў і праваабаронцаў у памяшканне суда.

**19 жніўня** ў Лідскім раённым судзе (суддзя Максім Філатаў) распачаўся разгляд адміністратыўнай справы карэспандэнта тэлеканала «Белсат» Сяргея Карпенкі. Журналіста, затрыманага 22 чэрвеня падчас "маўклівай" акцыі пратэсту, вінавацілі ў лаянцы матам і супраціве супрацоўнікам міліцыі. Першае паседжанне доўжылася дзве гадзіны, пасля чаго працэс перанеслі на 22 жніўня, паколькі ў суд не явіліся сведкі-міліцыянты.

Па высунутых супраць С. Карпенкі абвінавачаннях, яму пагражаў штраф да 50 базавых велічынь альбо адміністратыўны арышт. Журналіст, у сваю чаргу, накіраваў у пракуратуру скаргу на дзеянні супрацоўнікаў праваахоўных органаў. Па словах С. Карпенкі, міліцыянты запрасілі яго на размову, але пасля адмовы пайсці з імі адразу прымянілі грубую фізічную сілу і ў выніку разбілі журналісту галаву.

**22 жніўня** Лідскі раённы суд (Гродзенская вобласць) спыніў адміністратыўную справу карэспандэнта тэлеканала "Белсат" Сяргея Карпенкі, якога затрымалі падчас "маўклівай" акцыі 22 чэрвеня. Суд не знайшоў у ягоных дзеяннях складу правапарушэння.

Нагадаем, міліцыянты склалі на Сяргея Карпенку два пратаколы — аб дробным хуліганстве і аб непадпарадкаванні супрацоўнікам міліцыі. Аднак журналісту ўдалося знайсці і паказаць суду відэазапіс свайго затрымання. На стужцы бачна, што ў момант затрымання міліцыянты адразу начапілі на Карпенку кайданкі, хоць ён не аказваў ніякага супраціву.

**20 жніўня** Генеральная пракуратура афіцыйна пацвердзіла, што затрыманні супрацоўнікамі міліцыі ў цывільным карэспандэнтаў "Еўрапейскага радыё для Беларусі" падчас акцый "маўклівага" пратэсту (з 22 чэрвеня па 6 ліпеня) былі незаконнымі. Як паведамляецца ў дакуменце, Генпракуратура па выніках праверкі прыйшла да высновы, што падчас затрымання Паўла Свярдлова і Андрэя Елісеева былі парушаныя іх правы, у тым ліку "неабгрунтавана абмежаваныя правы як прадстаўніка СМІ".

Падчас візіту карэспандэнта “Еўрарадыё”, пракуратура паказала для візуальнага азнаямлення дакумент «для службовага карыстання» (сфатаграфаваць ці адсканаваць яго не дазволілі), дзе названыя прозвішчы 5 супрацоўнікаў міліцыі, якія затрымлівалі журналістаў і перашкаджалі ім працаваць.

**23 жніўня** ў розных гарадах Беларусі праваабаронцы і грамадскія актывісты ладзілі вулічныя інфармацыйныя акцыі ў падтрымку арыштаванага кіраўніка праваабарончага цэнтра “Вясна” Алеся Бяляцкага. Іх удзельнікі раздавалі мінакам улёткі з інфармацыяй пра дзейнасць калегі і заклікалі падпісаць за яго паручальніцтвы. Падчас акцыі былі затрыманыя журналісты: у Мінску - Алена Лапцёнак, Алег Мацкевіч (праваабаронцы), Вікторыя Равінская (ex-press.by), у Магілёве — Яўген Глушкоў і Аліна Скарабунова, у Гродне — Віктар Сазонаў.

У Мінску затрыманых спачатку трымалі ў апорным пункце міліцыі на станцыі метро Кастрычніцкая, а потым адвезлі ў Цэнтральны РУУС. Адпусцілі прыкладна праз 3 гадзіны пасля складання пратаколу апытання, фатаграфавання і зняцця адбіткаў пальцаў.

У Магілёве журналістаў затрымалі, калі яны ўжо сышлі з месца правядзення акцыі ў цэнтры горада. Іх трымалі ў Ленінскім РУУС роўна 3 гадзіны, пасля чаго адпусцілі без складання пратаколаў, але ўзяўшы «тлумачэнні».

Віктара Сазонава затрымалі ў цэнтры Гродна, калі ён разам з іншымі праваабаронцамі раздаваў улёткі. Яго адвезлі ў аддзяленне міліцыі «Цэнтр», дзе пратрымалі да вечара. Пакуль В. Сазонаў знаходзіўся ў пастарунку, у яго кватэры і працоўным офісе прайшлі агляды. З кватэры забралі некалькі кніг і газет, з офіса — сістэмныя блокі камп'ютараў, улёткі і газеты пра арышт Бяляцкага.

**23 жніўня** стала вядома, што Магілёўскі абласны суд адмяніў пастанову суда Бабруйскага раёна і г. Бабруйска, вынесеную ў дачыненні да журналіста «Бобруйского курьера» Віктара Масаловіча, і накіраваў яе на перагляд. Падставай для такога рашэння Магілёўскага аблсуда паслужыла няпоўнае вывучэнне бабруйскай суддзёй Н. Чарапухай усіх абставін справы і няправільнае прымяненне артыкула Кодэкса аб адміністратыўных правапарушэннях.

Нагадаем, 6 ліпеня 2011 года Віктар Масаловіч быў затрыманы супрацоўнікамі міліцыі на цэнтральнай плошчы горада, дзе знаходзіўся па заданні рэдакцыі і рабіў фота- і відэаздымкі. На журналіста склалі пратакол за нібыта парушэнне заканадаўства аб масавых мерапрыемствах. Суд, выслухаўшы тлумачэнні абвінавачанага, а таксама паказанні сведкі — кіраўніка «БК» Анатоля Санаценкі, прыняў рашэнне аштрафаваць Масаловіча на 5 базавых велічынь. Такое ж рашэнне потым было прынятае судом і ў дачыненні да іншага журналіста «БК» — Віктара Качана.

**26 жніўня** ў г. Глыбокае (Віцебская вобласць) супрацоўнікі праваахоўных органаў затрымалі журналіста сайта westki.info Кастуся Шыталя за тое, што ён фатаграфаваў будынак Глыбоцкага райвыканкама. (Напярэдадні невядомыя запэцкалі фасад будынка фарбай.) Пасля таго, як ён зрабіў здымкі і паспеў ад’ехаць на ровары метраў дзвесце, яго дагнаў аўтамабіль, два чалавекі ў цывільным затрымалі журналіста і перадалі міліцыі. У Глыбоцкім РАУС К. Шыталю зрабілі дактыласкапію, а таксама ўзялі пісьмовыя тлумачэнні. Журналіста прымусілі выдаліць з фотаапарата кадры з райвыканкамам. Адзін з міліцыянераў уважліва вывучаў мабільны тэлефон журналіста, выпісваючы для сябе пэўныя нумары. У пастарунку К. Шыталя пратрымалі каля 2,5 гадзін пасля адпусцілі, настойліва “параіўшы” не пісаць пра здарэнне.

**29 жніўня** стала вядома, што Магілёўская абласная пракуратура адмовілася разглядаць скаргу галоўнага рэдактара «Бобруйского курьера» Анатоля Санаценкі і вярнула яе поштай. У сваёй заяве кіраўнік «БК» скардзіўся на незаконныя дзеянні

супрацоўнікаў мясцовай міліцыі — затрыманне 6 ліпеня двух журналістаў яго выдання, — Віктара Качана і Віктара Масаловіча. Першы намеснік пракурора Магілёўскай вобласці Пімашкоў у суправаджальным лісце паінфармаваў кіраўніка «БК», што ён павінен пацвердзіць свае паўнамоцтвы на прадстаўленне інтарэсаў сваіх супрацоўнікаў у пракуратуры. Між тым, як падкрэслівае А. Санаценка, ён з'яўляецца наймальнікам затрыманых журналістаў.

Нагадаем, журналісты былі затрыманыя падчас выканання прафесійных абавязкаў — асвятлення вулічнай акцыі ў Бабруйску. Міліцыя аформіла на іх пратакол як на парушальнікаў заканадаўства аб масавых мерапрыемствах. Ноч журналістаў пратрымалі ў ізалятары часовага ўтрымання, а на наступны дзень суд пакараў іх штрафам у памеры 5 базавых велічынь.

**30 жніўня** журналістку **"**Радыё Рацыя" Гражыну Шалкевіч выклікалі на размову ў інспекцыю па падатках і зборах па Ленінскім раёне Гродна. Як паведамляецца ў позве, журналістка мусіла даць тлумачэнні па пытанні «ажыццяўлення падатковага кантролю».

**2 верасня** стала вядома, што пракуратура Чыгуначнага раёна Гомеля, правёўшы дадатковую праверку, ізноў апраўдала дзеянні начальніка Чыгуначнага РАУС Аляксандра Кошмана, які 3 ліпеня пад час акцыі "маўклівага" пратэсту затрымаў карэспандэнтку БелаПАН Алену Германовіч.

Раней пракуратура прызнала дзеянні міліцыянта правамернымі, - такі адказ на скаргу атрымала журналістка 13 жніўня. Праз 5 дзён яна атрымала наступнае паведамленне пракурора раёна пра тое, што пастанова аб адмове распачаць крымінальную справу супраць міліцыянта Кошмана адмененая ў сувязі з непаўнатой праверкі і будзе зробленая дадатковая праверка. Вынік дадатковай праверкі – апраўданне дзеянняў міліцыянта.

**21 верасня** журналіст «Бобруйского курьера» Віктар Масаловіч атрымаў пастанову суда Бабруйскага раёна і г. Бабруйска аб спыненні яго справы ў сувязі з адсутнасцю складу адміністратыўнага правапарушэння. Суд прызнаў, што Масаловіч 6 ліпеня 2011 г. прысутнічаў у цэнтры Бабруйска ў якасці журналіста.

Гэта было ўжо другое слуханне па гэтай адміністратыўнай справе. Першы суд, які адбыўся ў Бабруйску 7 ліпеня, прызнаў Віктара Масаловіча вінаватым у парушэнні заканадаўства аб масавых мерапрыемствах, прысудзіўшы яму штраф — 5 базавых велічынь. Журналіст абскардзіў яго ў Магілёўскі аблсуд, які накіраваў справу ў Бабруйск на новы разгляд, але ўжо іншаму суддзі.

Між тым, стала вядома, што пастанова бабруйскага суда па адміністратыўнай справе іншага журналіста «Бобруйского курьера» — Віктара Качана — таксама адменена Магілёўскім судом і вернутая ў Бабруйск на перагляд.

Нагадаем, 6 ліпеня 2011 года журналістаў «Бобруйского курьера» Віктара Масаловіча і Віктара Качана затрымалі супрацоўнікі міліцыі на цэнтральнай плошчы горада, дзе праходзіла «маўклівая» акцыя пратэсту. Яны знаходзіліся там па заданні рэдакцыі з мэтай асвятлення падзей.

**28 верасня** ў Оршы на цэнтральным рынку супрацоўнікі міліцыі затрымалі карэспандэнтку «Новага часу» Лолу Бурыеву і карэспандэнта «Нашай Нівы» Сяргея Сацюка. Інцыдэнт адбыўся ў момант, калі журналісты здымалі сюжэт пра эканамічны стан грамадства. Ахоўнікі парадку не задаволіліся іх рэдакцыйнымі пасведчаннямі і запатрабавалі ў журналістаў рэдакцыйныя заданні. Затрыманых даставілі ў пакой міліцыі, дзе ізноў праверылі дакументы і ўзялі тлумачэнні наконт мэты візіту на рынак у Оршу. Журналістаў адпусцілі праз 2 гадзіны пасля затрымання.

**28 верасня** каля Цэнтральнага рынку Брэста была затрымана пазаштатная карэспандэнтка газеты «Брестский курьер» Аліса Поль. Калі журналістка незалежнага выдання рабіла апытанне жыхароў горада, да яе падышлі супрацоўнікі Ленінскага РАУС Брэста і абвінавацілі ў правядзенні «апазіцыйнай агітацыі». Алісу Поль даставілі ў апорны пункт міліцыі, дзе яна вымушана была пісаць тлумачэнне, што ніякай апазіцыйнай дзейнасцю не займалася, а выконвала свае журналісцкія абавязкі. У міліцэйскім пастарунку карэспандэнтка знаходзілася прыблізна паўгадзіны, пасля чаго яе адпусцілі, папрасіўшы прабачэння.

**7 кастрычніка** па дарозе з Глыбокага ў Дзісну (Віцебская вобласць) быў затрыманы журналіст незалежнага рэсурсу westki.info Кастусь Шыталь. Журналіст накіроўваўся асвятляць акцыю «Народны сход», запланаваную на **8 кастрычніка** па гарадах Беларусі. Аўтамабіль, у якім ехаў журналіст, спынілі супрацоўнікі ДАІ. Шыталя перасадзілі ў міліцэйскую машыну і павезлі ў Міёры для праверкі нібыта на датычнасць да абрабавання. У пастарунку прэтэнзіі міліцыі змяніліся — цяпер яго абвінавачвалі ў нецэнзурнай лаянцы (арт. 17.1 КаАП) пры праверцы аўтамабіля супрацоўнікамі ДАІ. **17 кастрычніка** суд Міёрскага раёна аштрафаваў журналіста на 3 базавыя велічыні (105 тысяч рублёў). Такое рашэнне суддзя прыняў, заслухаўшы ў ходзе другога паседжання па справе Шыталя паказанні сведак — міліцыянтаў. Да першага паседжання суда (10 кастрычніка) журналіст знаходзіўся пад вартай у Міёрскім РАУС.

**8 кастрычніка** ў ходзе правядзення ўсебеларускай акцыі «Народны сход» супрацоўнікі праваахоўных органаў затрымлівалі журналістаў і перашкаджалі ім працаваць.

Гродна: каля 16.30 на чыгуначным вакзале памежнікі забралі пашпарты ў журналіста Яна Романа і праваабаронца Віктара Сазонава, якія вярталіся дадому з Беластоку. Абодвух пэўны час пратрымалі ў мытнай зале вакзала.

Гомель: міліцыянты затрымалі Ларысу Шчыракову, калі яна здымала акцыю на відэа. Журналістку адвезлі ў Чыгуначны райаддзел міліцыі, дзе правялі асабісты дагляд рэчаў. Пратрымалі яе прыблізна 2 гадзіны, пасля чаго адпусцілі без складання пратаколу.

Глыбокае: быў затрыманы рэдактар недзяржаўнага мясцовага выдання «Прэфект-Інфо» Зміцер Лупач. У Глыбоцкім РАУС у яго ўзялі тлумачэнні і пратрымалі каля гадзіны.

**8 кастрычніка** шэф-рэдактару газеты «Витебский курьер» Вадзіму Баршчэўскаму разбілі шкло ў аўтамабілі. Інцыдэнт адбыўся ў ноч на 8 кастрычніка. Пабітае шкло журналіст заўважыў раніцай, калі сабраўся ехаць па справах. В.Баршчэўскі выклікаў міліцыю, але праваахоўнікі вырашылі забраць самога пацярпелага журналіста ў пастарунак. Там яго пратрымалі некалькі гадзін, забараніўшы карыстацца мабільным тэлефонам — такім чынам, ён не мог паведаміць родным, дзе знаходзіцца.

**13 кастрычніка** стала вядома, што мабільныя тэлефоны журналістак Ірыны Халіп, Наталлі Радзінай і Марыны Коктыш "атакуюць" невядомыя. Галоўнай рэдактарцы інфармацыйнага рэсурсу «Хартыя-97» Наталлі Радзінай, якая атрымала палітычны прытулак у Літве, няспынна тэлефануе нявызначаны абанент. У прыватнасці, 13 кастрычніка званкі паступалі на літоўскі мабільны нумар на працягу ўсяго дня. Журналістка мяркуе, што тэлефанаванні ідуць праз Skype — нумар не вызначаецца, а пры спробе адказаць абанент дае «адбой» і пачынае зноў званіць.

З аналагічнай праблемай сутыкнуліся карэспандэнтка «Новой газеты» Ірына Халіп і намесніца галоўнага рэдактара «Народнай волі» Марына Коктыш. Па словах

Коктыш, яе пачалі «тэрарызаваць» яшчэ напрыканцы мінулага тыдня. Прычым, пры спробе выключыць мабільны тэлефанаваць пачыналі на хатні нумар. «Інтэнсіўнасць званкоў — тройчы на хвіліну. Можна звар'яцець», — скардзілася журналістка.

**13 кастрычніка** журналістку магілёўскага інтэрнэт-рэсурсу 222.by Аліну Скрабунову выклікалі на допыт у абласную пракуратуру. Старшы следчы Павел Старыкаў высвятляў, ці не яна пакінула на сайце «Хартыі-97» абразлівы каментар на адрас суддзі Ленінскага раёна Магілёва Ірыны Ланчавай. Следчы патлумачыў журналістцы, што суддзя з'яўляецца дзяржаўнай службоўцай, і за абразу такой персоны магчымы нават крымінальны пераслед. Журналістка паведаміла яму, што ў дзень з'яўлення каментару на сайце (7 ліпеня г.г.) яна знаходзілася пад адміністратыўным арыштам па абвінавачанні ва ўдзеле ў адной з «маўклівых» акцый.

**27 кастрычніка** ў Генеральную пракуратуры быў выкліканы журналіст Алег Ражкоў. Спаслаўшыся на арт. 27 Канстытуцыі, ён адмовіўся адказваць на пытанні саветніка юстыцыі Паўла Елісеева і даваць паказанні супраць самога сябе. Журналіста адпусцілі без прымянення санкцый.

**28 кастрычніка** Генеральную пракуратуру па выкліку павесткай наведаў незалежны тэлежурналіст Алесь Баразенка. Гутарыў з ім таксама саветнік юстыцыі Павел Елісееў. Журналіста распытвалі, ці супрацоўнічае ён з тэлеканалам "Белсат", ці працуе разам з Алінай Радачынскай і г.д., але Баразенка адмовіўся адказваць на гэтыя пытанні. Прыкладна праз 20 хвілін журналіста адпусцілі без вынясення папярэджання.

Нагадаем, 27 кастрычніка Генпракуратура вынесла незалежнай тэлежурналістцы Аліне Радачынскай афіцыйнае папярэджанне аб недапушчальнасці супрацоўніцтва з замежным СМІ без акрэдытацыі (ч. 4 арт. 35 закона «Аб СМІ»).

**2 лістапада** незалежны журналіст з г. Глыбокае Зміцер Лупач быў выкліканы ў мясцовую раённую пракуратуру. Пракурорскія работнікі праводзілі праверку нібыта па факце паклёпу. Нагодай праверкі стаў артыкул на сайце «Хартыя'97», у якім са спасылкай на Змітра Лупача паведамлялася, што на будынку Глыбоцкага райвыканкама вісеў дагары нагамі чырвона-зялёны сцяг. «На самай справе я казаў сваім калегам, што на райвыканкаме дагары нагамі вісеў сцяг горада Глыбокае. Але калегі пераблыталі ці недачулі і памылкова напісалі, што інцыдэнт быў з дзяржаўным сцягам», — распавёў Зміцер Лупач.

Калі Зміцер фатаграфаваў сцяг на райвыканкаме, з будынка выйшаў міліцыянт і загадаў выдаліць здымак. Маўляў, фатаграфаваць райвыканкам забаронена.

**8 лістапада** стала вядома, што незалежную фотажурналістку з Брэста Мілану Харытонаву выклікалі па тэлефоне ў якасці сведкі ў Ленінскі РАУС для дачы тлумачэнняў наконт акцыі салідарнасці з палітвязнямі, якая ладзілася ў Брэсце 26 кастрычніка.

Як патлумачылі журналістцы падчас яе візіту ў міліцыю, праваахоўныя органы ладзяць службовую праверку наконт гэтай акцыі. У сувязі з гэтым участковы інспектар Сяргей Ляўчук цікавіўся апублікаванымі ў інтэрнэце фотаздымкамі з акцыі, аўтарам якім пазначана Мілана Харытонава. Міліцыянт распытваў фотажурналістку, каго асабіста з удзельнікаў мерапрыемства, што трапілі ў аб'ектыў, яна ведае і як з імі можна звязацца.

**8 лістапада** стала вядома, што супрацоўнікі падатковай інспекцыі працягваюць ціснуць на рэдактара крычаўскай незалежнай газеты «Вольны горад» Сяргея Няроўнага. Днямі журналіст атрымаў чарговы ліст з мясцовай падатковай інспекцыі, на гэты раз ад яго патрабуюць цягам некалькіх дзён даць тлумачэнні пра прыбытак у памеры 4,5 мільёнаў рублёў, якія ён патраціў на ўласныя патрэбы на працягу 2009 і

першай паловы 2010 г. Па словах С. Няроўнага, у кастрычніку ён падаў у крычаўскую падатковую інспекцыю падрабязную дэкларацыю пра прыбытак і маёмасці за апошнія 2 гады. Аднак гэтыя тлумачэнні падаткавікоў не задаволілі.

Сяргей Няроўны лічыць, што ціск з боку падаткавікоў звязаны з яго працай у якасці рэдактара незарэгістраванай газеты «Вольны горад».

**12 лістапада** ў часе правядзення ў беларускіх гарадах “Народнага сходу” затрыманні журналістаў адбыліся ў Гомелі і Лідзе (Гродзенская вобласць).

Гомель: Каля 13-ай гадзіны на прыпынку грамадскага транспарту супрацоўнікі міліцыі затрымалі незалежнага журналіста, сябра Рады БАЖ Анатоля Гатоўчыца. Нагоду затрымання не патлумачылі. Журналіста даставілі ў 2-е гарадское аддзяленне Чыгуначнага РАУС, дзе праверылі запісы на дыктафоне, а таксама спрабавалі ўзяць «тлумачэнні», але Гатоўчыц адмовіўся. Адпусцілі прыкладна праз 2,5 гадзіны без складання пратаколу. Каля Дома культуры «Віпра» быў затрыманы незалежны журналіст Мікалай Бянько. У Чыгуначным РАУС Гомеля яго трымалі амаль 3 гадзіны, а пасля адвезлі ў супрацьлеглы бок горада і адпусцілі. У рэгіянальнага карэспандэнта «Комсомольской правды» в Белоруссии» Паўла Міцкевіча міліцыянты выдалілі з фотаапарата ўсе здымкі Народнага сходу ў Гомелі.

Ліда: быў затрыманы журналіст «Белсата» Сяргей Карпенка. Яго даставілі ў мясцовы пастарунак.

**16 лістапада** супрацоўнікі Дэпартамента выканання пакаранняў (ДВП) Міністэрства ўнутраных спраў заявілі журналістцы Ірыне Халіп, што калі ў дэпартаменце збярэцца шмат прадстаўнікоў СМІ, гэта будзе расцэнена як несанкцыянаваная акцыя з усімі наступствамі. Гэта адбылося, калі журналістка пачала па тэлефоне запрашаць калег прыйсці ў ДВП для асвятлення праблемы з раптоўным пераводам яе мужа Андрэя Саннікава з бабруйскай калоніі ў магілёўскую турму № 4.

Неўзабаве пасля прыезду журналістаў у будынку ДВП з’явіліся супрацоўнікі міліцыі ў цывільным, сярод якіх быў намеснік начальніка ГУУС Мінгарвыканкама — начальнік міліцыі грамадскай бяспекі Ігар Яўсееў. Але абышлося без інцыдэнтаў.

“Журналісты запрашаліся не для выказвання пратэсту ці іншых дзеянняў, якія рэгулююцца заканадаўствам аб масавых мерапрыемствах, а для асвятлення канкрэтнай сітуацыі. Так любую прэс-канферэнцыю можна назваць несанкцыянаванай акцыяй — калі не браць да ўвагі закон “Аб СМІ”, які дазваляе журналістам прысутнічаць у месцах грамадска значных падзей, збіраць і перадаваць адтуль інфармацыю. Артыкул пад тым жа нумарам ёсць і ў Канстытуцыі, ён гарантуе права на распаўсюд інфармацыі не толькі журналістам, але і ўсім грамадзянам”, - пракаментаваў сітуацыю намеснік старшыні ГА „БАЖ“, юрыст Андрэй Бастунец.

**22 лістапада** ўвечары ў Гродне міліцыянты затрымалі журналістаў, якія ехалі да памежнага пераходу “Брузгі”, каб зрабіць сюжэт пра новыя правілы выезду за мяжу.

Аўтамабіль, у якім знаходзіўся відэааператар Андрэй Фралоў, спынілі супрацоўнікі ДАІ (Уладзімір Дземянчук і Аляксей Антановіч) на выездзе з горада. Пасля праверкі дакументаў кіроўцы яны запатрабавалі паказаць дакументы на відэакамеру. Неабходных папер у Фралова з сабой не было, і ён прапанаваў прывезці іх з дому. Міліцыянты заявілі, што ў горадзе пачасціліся выпадкі крадзяжу відэакамер, і загадалі заставацца на месцы, пасля чаго пачалі з кімсьці перамаўляцца па рацыі.

Тым часам на месца прыехалі калегі затрыманага аператара — Ян Роман і Гражына Пашцепа. Праз пэўны час з’явілася машына АМАПу разам з намеснікам начальніка гродзенскага ДАІ Аляксандрам Ленцам. Журналістаў пад пагрозай

прымянення фізічнай сілы адвезлі ў міліцэйскі пастарунак. Да паловы на першую ночы ў затрыманых бралі тлумачэнні і правяралі дакументы. Пасля таго, як Фралоў пацвердзіў, што камера сапраўды належыць яму (дакументы на яе яму прывёз калега), журналістаў адпусцілі.

**23 лістапада** супрацоўнікі Маскоўскага РУУС Мінска склалі пратакол аб адміністратыўным правапарушэнні за адмову здаць адбіткі пальцаў на публіцыста і палітыка, сябра БАЖ Аляксандра Фядуту. Сам сп. Федута тлумачыць сваю адмову тым, што ў мінулым годзе ўжо двойчы праходзіў працэдуру дактыласкапіі. "Паколькі ў нас, паводле закону, павінна існаваць адзіная сістэма дактыласкапічнага ўліку насельніцтва, я лічу, што гэтага цалкам дастаткова», - заўважае палітык. Фядута таксама здзіўляецца, чаму яго адбіткі з чацвёртага паверху будынка Маскоўскага РУУС - з аддзела выканання пакаранняў - не могуць перадаць на другі паверх, дзе знаходзіцца экспертны аддзел.

**2 снежня** стала вядома, што суд Бабруйскага раёна і г. Бабруйска спыніў справу журналіста «Бобруйского курьера» Віктара Качана ў сувязі з адсутнасцю складу адміністратыўнага правапарушэння. Як паведамляецца ў пастанове, якую атрымаў журналіст, у выніку паўторнага разгляду справы суд прызнаў, што 6 ліпеня 2011 г. В. Качан прысутнічаў на плошчы Леніна ў Бабруйску ў якасці журналіста.

Першае слуханне па гэтай справе адбылося 7 ліпеня. Тады суд прызнаў В. Качана вінаватым у парушэнні заканадаўства аб масавых мерапрыемствах і пакараў яго штрафам у памеры 5 базавых велічынь.

Раней Бабруйскі суд з такой жа фармулёўкай закрыў справу і другога журналіста «Бобруйского курьера» — Віктара Масаловіча.

**7 снежня** стала вядома, што рэдактара крычаўскай незарэгістраванай газеты «Вольны горад» Сяргея Няроўнага раённая падатковая інспекцыя аштрафавала на 10 базавых велічыняў (350 тысяч рублёў). Журналіста прызналі вінаватым у тым, што ён у дэкларацыі аб даходах і маёмасці за 2009 і 2010 гады не пазначыў даходаў сваёй жонкі. Іх, паводле падаткавікоў, варта было пазначаць як дадатковыя.

**14 снежня** старшыня Гомельскай гарадской арганізацыі ГА «БАЖ» Анатоль Гатоўчыц атрымаў адказ на сваю заўвагу ў кнізе заўваг і прапаноў 2-га аддзялення міліцыі Чыгуначнага РАУС з нагоды затрымання 12 лістапада 2011 года. У афіцыйным адказе (01.12.2011. № 44/1–2) за подпісам камандзіра палка ППСМ УУС Гомельскага аблвыканкама Дзмітрыя Зурава, які асабіста заштурхоўваў Анатоля Гатоўчыца ў міліцэйскі УАЗ, паведамляецца, што парушэнняў у дзеяннях міліцыянтаў не выяўлена.

Нагадаем, у дзень правядзення ў Гомелі «Народнага сходу» А. Гатоўчыца затрымалі ля прыпынку грамадскага транспарту. Два міліцыянты ўзялі журналіста пад рукі і пасадзілі ў міліцэйскі УАЗ. Ні ў момант затрымання, ні ў машыне ніхто з міліцыянтаў не патлумачыў прычыну затрымання і не адрэагаваў на прапанову журналіста праверыць яго дакументы.

**19 снежня** на выездзе з Віцебска супрацоўнікі ДАІ затрымалі машыну, у якой знаходзіўся незалежны журналіст Зміцер Казакевіч. Разам з віцебскімі грамадскімі актывістамі ён скіроўваўся ў калонію, дзе адбывае пакаранне экс-кандыдат у прэзідэнты Мікола Статкевіч. Машыну спынілі на той падставе, што яна нібыта зафіксавана ў ДТЗ у Мінску яшчэ 30 лістапада, і таму ДАІ неабходна атрымаць ад кіроўцы тлумачэнні, дзе ён быў у той час, а астатніх апытаць у якасці сведак.

**19 снежня** раніцай падчас акцыі ўкраінскай арганізацыі Femen, якая адбывалася каля будынку КДБ на праспекце Незалежнасці, былі затрыманыя журналістка «Нашай Нівы» Таццяна Гаўрыльчык, незалежныя журналісты Юлія Дарашкевіч, Алесь

Баразенка і тэлеаператарка руху Femen Кіці Грын (грамадзянка Аўстраліі). Яны рабілі здымкі акцыі.

Пасля затрымання Ю. Дарашкевіч, Т. Гаўрыльчык трымалі 2 гадзіны ў КДБ, потым даставілі ў Цэнтральны РУУС, дзе адабралі апаратуру і пратрымалі прыкладна да 21-й вечара. Фотаапаратуру пры вызваленні журналісткам не вярнулі.

К. Грын у суправаджэнні супрацоўнікаў КДБ тут жа была дэпартаваная з Беларусі ў Вільнюс.

Алеся Баразенку адвезлі ў Цэнтральны РУУС, адпусцілі яго каля 16-й гадзіны.

У КДБ, а затым у Цэнтральным РУУС пабываў таксама акрэдытаваны ў Беларусі фотакарэспандэнт агенцтва France Presse і «Комсомольской правды» в Белоруссии» Віктар Драчоў. Ён прыехаў на месца правядзення акцыі Femen крыху пазней за яе пачатак і не паспеў зрабіць ніякіх здымкаў. Але яго таксама затрымалі, праверылі дакументы і апаратуру, адпусцілі каля 14.30 без складання пратаколу.

**19 снежня** ў Мінску каля 14.20 у раёне плошчы Свабоды затрымалі незалежных тэлежурналістаў Вольгу Чайчыц і Сяргея Кавалёва. Гэта адбылося ў момант, калі яны раскладалі здымачную апаратуру. У журналістаў праверылі дакументы і адпусцілі, папярэдзіўшы, што «ўсе здымкі заўтра».

**19 снежня** ўвечары ў Мінску (у “спальным” раёне Серабранка) затрымалі Арцёма Ляву, супрацоўніка сайта milinkevich.org. Журналіста даставілі ў Ленінскі РУУС і пратрымалі там ўсю ноч. **20 снежня** суд Ленінскага раёна Мінска прысудзіў Арцёму Ляву штраф у 20 базавых велічынь — 700 тысяч рублёў.

**19 снежня** каля 20-й гадзіны вечары на плошчы Незалежнасці ў Мінску супрацоўнікі міліцыі затрымалі пазаштатнага карэспандэнта незалежнага тыднёвіка «Новы Час» Мікіту Броўку. Па заданні рэдакцыі ён асвятляў акцыю – масавы малебен ля Чырвонага касцёлу. Хлопца адвезлі ў РУУС Маскоўскага раёна, дзе пратрымалі ўсю ноч.

**20 снежня** суд Партызанскага раёна Мінска пакараў пазаштатнага карэспандэнта «Новага Часу» Мікіту Броўку 10 суткамі адміністратыўнага арышту за ўдзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве. У якасці сведкі на працэсе прысутнічаў шэф-рэдактар выдання Аляксей Кароль, ён перадаў суду пісьмовае пацвярджэнне, што Броўка быў на акцыі па рэдакцыйным заданні. Але далучаны да судовай справы дакумент не паўплываў на рашэнне суддзі. Адбываць пакаранне М. Броўка накіраваны ў цэнтр ізаляцыі правапарушальнікаў на вул. Акрэсціна.

**24 снежня** ў Мінску падчас штогадовага шэсця Дзедаў Марозаў быў затрыманы фотакарэспандэнт дзяржаўнага агенцтва «Минск-Новости» Сяргей Шэлег, які асвятляў мерапрыемства па заданні рэдакцыі. Інцыдэнт адбыўся, калі журналіст паставіў заплечнік на тратуар на той час, каб змяніць аб’ектыў на фотакамеры. Да яго падышоў мужчына ў цывільным і ў грубай форме запатрабаваў пакінуць месца. У адказ на просьбу журналіста размаўляць больш ветліва невядомец назваўся намеснікам начальніка Цэнтральнага РУУС маёрам Максімам Грышчанкам. Маёр выклікаў міліцэйскі нарад, Сяргея Шэлега адвезлі ў РУУС, дзе склалі пратакол апытання, сфатаграфавалі і ўзялі адбіткі пальцаў. Адпусцілі фотажурналіста прыкладна праз гадзіну пасля затрымання.

## Парушэнні звязаныя з доступам да інфармацыі (адмовы ў прадстаўленні інфармацыі, абмежавальнае выкарыстанне інстытуту акрэдытацыі)

**31 студзеня** рэдакцыя недзяржаўнай рэгіянальнай газеты «Информ-прогулка» (г. Лунінец) атрымала ліст за подпісам старшыні Лунінецкага райсавета дэпутатаў Віталія Адзішчава. Чыноўнік паведамляе, што цяпер «магчымасць удзелу прадстаўнікоў выдання ў асвятленні мерапрыемстваў, што ладзіць райсавет, будзе разглядацца ў кожным асобным канкрэтным выпадку пасля заяўкі рэдакцыі на ўдзел». Адзішчаў спасылаецца на арт. 35 Закона «Аб СМІ» («Акрэдытацыя журналістаў СМІ»). «Такім чынам, райсавет дэпутатаў, па прыкладзе райвыканкама, мае намер абмежаваць журналістаў недзяржаўнага выдання ў доступе да інфармацыі», - лічаць у рэдакцыі выдання.

**10 сакавіка** журналіста недзяржаўнай афіцыйна зарэгістраванай газеты «Наша Ніва» Алеся Пілецкага без тлумачэння прычын міліцыянт выдаліў з залы суда Маскоўскага раёна Мінска, дзе на той момант разглядаліся справы некалькіх удзельнікаў «масавых беспарадкаў» 19 снежня. Рэпарцёр, як і іншыя калегі, вёў анлайн-рэпартаж з пасяджэння.

**24 сакавіка** на просьбу аб акрэдытацыі пры Ганцавіцкім райвыканкаме намесніка галоўнага рэдактара газеты «Ганцавіцкі час» Пятра Гузаеўскага рэдакцыя атрымала чарговую адмову. У лісце (ад 17 сакавіка) паведамляецца: у сувязі з тым, што «газетай сістэматычна дапускаюцца парушэнні дзейснага заканадаўства, публікуюцца матэрыялы, у якіх груба скажаецца сапраўдны стан спраў», райвыканкам адмаўляе ў акрэдытацыі.

**25 сакавіка** ў Віцебску супрацоўнікі міліцыі перашкодзілі выконваць прафесійныя абавязкі тэлежурналісту Уладзіславу Стараверау. Ён прыйшоў на плошчу Свабоды з відэакамерай, каб здымаць ускладанне кветак да мемарыяльнай дошкі Васілю Быкаву і помніка Уладзіміру Караткевічу. Як толькі журналіст дастаў камеру, да яго падскочылі два чалавекі ў цывільным, заламалі рукі і пацягнулі па асфальце да міліцэйскага аўтамабіля. Уладзіміра Старавeрава адвезлі ў Кастрычніцкі РАУС, дзе спачатку заявілі, што ў яго скрадзеная відаэкамера, а потым — што ён падобны да маньяка-педафіла, які абвешчаны ў вышук. Праз 3 гадзіны рэпарцёра адпусцілі – за гэты час акцыя, якую ён мусіў асвятляць, закончылася.

**21 красавіка** ў Мінску супрацоўнікі міліцыі затрымалі аператара недзяржаўнага інфармацыйнага агенцтва БелаПАН Паўла Падабеда, чым перашкодзілі яму выконваць прафесійныя абавязкі. Затрыманне адбылося на плошчы Незалежнасці каля Дома ўраду. Журналіст на заданне рэдакцыі здымаў матэрыял для сюжэту пра зварот групы грамадзян да кіраўніцтва краіны па ініцыяванні стварэння незалежнай грамадскай камісіі для перагляду крымінальных і грамадзянскіх спраў. Супрацоўнікі Маскоўскага РУУС затрымалі яго для праверкі дакументаў, адвезлі ў аддзяленне, дзе пратрымалі каля паўтары гадзіны.

**20 мая** старшыня Салігорскага райвыканкама Анатоль Казакевіч забараніў падначаленым самастойна кантактаваць з недзяржаўнымі СМІ. Пра гэта ён паведаміў афіцыйным лістом на адрас начальнікаў упраўленняў і службаў раённай адміністрацыі. Разам з тым «з мэтай папулярызацыі дзяржаўных СМІ, узмацнення аўтарытэту раённага выканаўчага камітэта, раённага Савета дэпутатаў, сельвыканкамаў…» чыноўнікам загадана супрацоўнічаць з дзяржаўнымі мясцовымі СМІ: газетай «Шахтер» і «Солигорским Телевизионным каналом».

«Дачыненні з іншымі сродкамі масавай інфармацыі… узгадняць з аддзелам ідэалагічнай работы», — паведамляе А. Казакевіч і нагадвае пра «персанальную адказнасць за стан работы са СМІ», прадугледжаную прэзідэнцкім указам № 65 ад 06.02.2009 г.

**6 ліпеня** стала вядома, што супрацоўнікаў Брэсцкага абласнога культурнага цэнтра (АКЦ) азнаёмілі з пералікам недзяржаўных выданняў і інтэрнэт-старонак, карэспандэнтам якіх «рэкамендавана» не даваць каментароў. Такая рэкамендацыя, паводле супрацоўнікаў АКЦ, мае абавязковы характар. Забаронена таксама ў працоўны час праглядаць старонкі гэтых выданняў у інтэрнэце. Спісы раздаваліся па ўзгадненні з кіраўніцтвам Упраўлення культуры аблвыканкама.

У «чорным» спісе прысутнічаюць незалежныя рэгіянальныя грамадска-палітычныя выданні: «Брестский курьер», «Брестская газета», баранавіцкі Intex-press, «Ганцавіцкі час», лунінецкая «Информ-прогулка», пінскі «Варяг-пресс», а таксама рэкламныя выданні для вольнага часу. Трапіла ў спіс нават газета «Духовный вестник», якая асвятляе праваслаўнае жыццё ў рэгіёне. Што тычыцца інтэрнэт-рэсурсаў, спіс утрымлівае прыблізна два дзесяткі «непажаданых» старонак, сярод якіх — сайты палітычных партый, грамадскіх арганізацый і ініцыятыў, у тым ліку сайт ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў».

**18 ліпеня** стала вядома, што супрацоўнікаў дзяржаўнага радыё азнаёмілі са спісам песень і выразаў, якія цяпер не павінны гучаць у эфіры. У пераліку забароненага - песня Віктара Цоя «Перамен», песні гурту «Ляпіс Трубецкой» «Грай» і Belarus freedom. Згаданыя кампазіцыі далучылі да раней забароненых гуртоў «Крама», N.R.M., «Крамбамбуля» ды інш.

Паводле крыніцы, апроч таго, на працоўным стале кожнага радыёвядоўцы цяпер вісіць раздрукоўка забароненых для вымаўлення ў эфіры слоў. “Пасля выпадку з Шосам Аляксандрам Рыгоравічам на “Русском радио” дырэкцыя сабрала нараду, на якой супрацоўнікам патлумачылі, што вымаўляць у эфіры “ШОС” ці проста “Аляксандр Рыгоравіч” забараняецца. Зараз усе паведамленні ад слухачоў некалькі разоў перачытваюць, перш чым пусціць у эфір», - кажа журналістка дзяржрадыё.

**20 ліпеня** стала вядома, што кіраўніцтва Палаца культуры г. Маладзечна адмовілася прадаставіць памяшканне для выставы фотаздымкаў фіналістаў конкурсу «Прэс-фота Беларусі 2011».

Нягледзячы на папярэднія дамоўленасць і падрыхтоўку да мерапрыемства, за дзень да адкрыцця выставы адміністрацыя палаца па тэлефоне адмовіла ў правядзенні выставы. Спасылаліся пры гэтым на рамонт і распараджэнне гарвыканкама не праводзіць ніякіх мерапрыемстваў да “Дажынак”.

**15 верасня** ў мінскім Доме правасуддзя на пачатку судовага працэсу па крымінальнай справе аб выбуху на станцыі метро «Кастрычніцкая» суддзя Аляксандр Федарцоў забараніў журналістам кантактаваць з пацярпелымі. Па словах суддзі, інтэрв’ю з гэтымі людзьмі можа расцэньвацца як уплыў на судовы працэс.

Прадстаўнікам СМІ забаронена рабіць фота- і відэаздымкі падчас працэсу, а ад пачатку паседжання ў судовай зале не працуе мабільная і інтэрнет-сувязь. Як патлумачыў прысутны ў судзе прэс-сакратар ГУУС Мінгарвыканкама Аляксандр Ластоўскі, «гэта зроблена адмыслова дзеля забеспячэння недатыкальнасці працэсу». Таксама журналістам параілі ўстрымацца ад каментавання матэрыялаў гучнай справы.

**15 верасня** карэспандэнтаў агенцтва Associated Press Юрася Карманава і Сяргея Грыца, а таксама фотакарэспандэнтку European Pressphoto Agency Таццяну Зянькović

не акрэдытавалі пры Палаце прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу для асвятлення сустрэчы кітайскай парламенцкай дэлегацыі з беларускімі парламентарамі.

Факс з заяўкай на акрэдытацыю Ю. Карманава і С. Грыца для асвятлення гэтай падзеі быў высланы ў Палату прадстаўнікоў 13 верасня. 15 верасня начальнік упраўлення інфармацыі Палаты прадстаўнікоў Мікалай Ліс паведаміў журналістам АР, што трапіць на сустрэчу яны не змогуць, бо дэлегацыя вялікая, а памяшканне для сустрэчы — малое. Разам з тым прадстаўнікі дзяржаўных СМІ такую акрэдытацыю атрымалі.

**26 верасня** стала вядома, што карэспандэнтцы недзяржаўнай рэгіянальнай газеты «Ганцавіцкі час» Святлане Малышка адмовіліся даць інфармацыю ў раённым цэнтры гігіены і эпідэміялогіі. Журналістка звярнулася з просьбай патлумачыць, як засцерагчыся ад укусаў восаў, хто павінен з імі змагацца і куды звяртацца чытачам у выпадку неабходнасці. Спецыяліст санстанцыі Лідзія Коўш спачатку мела намер адказаць на пытанні. Але як толькі пачула, якое выданне прадстаўляе карэспандэнтка, заявіла, што ёй забаранілі даваць інфармацыю ў “Ганцавіцкі час”. Хто забараніў — не патлумачыла.

«Інфармацыя патрэбная не самім журналістам, а грамадству . Такое стаўленне дэзінфектара выклікае неразуменне. Калі людзям пагражае сур’ёзная небяспека, яна замест таго каб прымаць меры, ігнаруе магчымасць правядзення прафілактычнай працы, а выконвае нечыя дзіўныя ўказанні», — разважаюць журналісты «ГЧ».

**29 верасня** журналістам паведамілі, што на тэрыторыю правядзення фестывалю “Дажынкі-2011” у Маладзечне забараняецца без «адмысловага дазволу» праносіць фотаапараты і відэакамеры з аб’ектывам звыш 4 см. Як патлумачыў прэс-сакратар аддзела ўнутраных спраў Мінаблвыканкама Аляксандр Данільчанка, гэта было патрабаванне службы бяспекі прэзідэнта, і здымкі рабіць змогуць толькі журналісты, якія акрэдытаваныя пры адміністрацыі прэзідэнта. Між тым, як патлумачыла супрацоўніца Мінаблвыканкама Ірына Канавалава, акрэдытацыя журналістаў на «Дажынкі» скончылася яшчэ 20 верасня. Паводле саміх фотажурналістаў, яны ўпершыню сутыкнуліся з абмежаваннем памераў апаратуры пры асвятленні масавых мерапрыемстваў.

**23 лістапада** ў Барысаве ў шэрагу арганізацый і прадпрыемстваў адбыліся вытворчыя нарады, падчас якіх намеснікі дырэктараў па ідэалагічнай працы папярэдзілі кіраўнікоў структурных падраздзяленняў аб забароне на дачыненні з журналістамі недзяржаўных СМІ. У спіс, які зачытваўся на нарадах, акрамя мясцовых недзяржаўных выданняў «Борисовские новости» і «Гоман Барысаўшчыны», а таксама агульнарэспубліканскіх «Народнай волі» і «Нашай Нівы», трапілі і выданні расійскіх холдынгаў — «Комсомольская правда» в Белоруссии» і «Аргументы и факты» в Белоруссии».

**30 лістапада** ў Пінску праходзіла выязное пасяджэнне калегіі Міністэрства інфармацыі Беларусі. Паводле сайта Брэсцкага аблвыканкама, удзел у пасяджэнні бралі намеснікі старшыняў гар- і райвыканкамаў вобласці, якія курыруюць сацыяльную сферу, начальнікі аддзелаў ідэалагічнай работы, кіраўнікі друкаваных і электронных СМІ вобласці. Пры гэтым кіраўнікоў незалежных грамадска-палітычных СМІ запрасіць на сустрэчу не палічылі патрэбным, нягледзячы на тое, што на Берасцейшчыне такіх СМІ больш, чым у іншых рэгіёнах краіны.

«Гэта звычайная практыка, калі нас ігнаруюць, — зазначыў дырэктар і галоўны рэдактар «Брестской газеты» Віктар Марчук. — Міністэрства інфармацыі павінна працаваць з усімі СМІ, незалежна ад формы ўласнасці. Яно ж быццам не заўважае, што

разам з дзяржаўнымі выданнямі ў інфармацыйнай прасторы існуюць і недзяржаўныя, у многіх з якіх, дарэчы, наклады ў разы вышэйшыя, чым у «раёнак».

**30 лістапада** суддзя суда Бабруйскага раёна і г. Бабруйска Таццяна Тарабуева не дазволіла прысутнічаць на адкрытым судовым працэсе галоўнаму рэдактару «Бобруйского курьера» Анатолю Санаценку і карэспандэнту газеты Віктару Качану. У гэты дзень павінна была разглядацца адміністратыўная справа чатырох маладых бабруйчан, затрыманых за тое, што ў Дзень памінання продкаў яны запалілі ў царкве свечкі і хацелі прайсці з імі да размешчанага непадалёк помніка ахвярам палітычных рэпрэсій.

Напярэдадні абвінавачаныя звярнуліся да намесніка старшыні суда з хадайніцтвам аб правядзенні слухання іх справы не ў кабінеце суддзі, а ў памяшканні, памер якога дазволіў бы змясціць усіх ахвотных папрысутнічаць на працэсе. Гэтае хадайніцтва задаволілі. Але суддзя Тарабуева вырашыла праводзіць слуханні ў сваім кабінеце, а ўбачыўшы журналістаў «БК», адмовілася пусціць іх на працэс, выклікала дзяжурнага міліцыянта і запатрабавала, каб тыя выйшлі. Пасля інцыдэнту А. Санаценка пабываў на прыёме ў старшыні бабруйскага суда, які, выслухаўшы журналіста, прыняў рашэнне аб пераносе суда на іншы дзень, у залу для судовых пасяджэнняў.

**1 снежня** намеснік старшыні Слонімскага райвыканкама Вячаслаў Апановіч не хацеў прапускаць журналістку недзяржаўнай мясцовай «Газеты Слонімскай» на сустрэчу з губернатарам Гродзенскай вобласці Сямёнам Шапірам, які ў гэты дзень праводзіў у Слоніме прыём жыхароў раёна па асабістых пытаннях. Між тым, журналісты дзяржаўных СМІ на сустрэчу былі запрошаныя. Рэдакцыя «ГС» загадзя накіравала запыты на акрэдытацыю свайго журналіста ў Слонімскі райвыканкам і Гродзенскі аблвыканкам. Адказ рэдакцыя атрымала толькі ад раённай улады. Чыноўнікі адмовілі ў акрэдытацыі, спаслаўшыся на заканадаўства «Аб зваротах грамадзян».

Адказу з Гродзенскага аблвыканкама рэдакцыя зусім не атрымала. Калі карэспандэнт “ГС” Ганна Валадашчук сама патэлефанавала і пацікавіцца, якое рашэнне было прынятае, ні ў прыёмнай, ні ў ідэалагічным аддзеле не далі адназначнага адказу. Тады журналістка накіравалася ў кабінет, дзе павінен быў адбыцца прыём грамадзян губернатарам. Перад пачаткам намеснік старшыні Слонімскага райвыканкама Апановіч прапанаваў прадстаўнікам дзяржаўных СМІ прайсці ў прыёмны пакой, а прысутнасць карэспандэнткі «Газеты Слонімскай» ў яго выклікала абурэнне, ён загадаў ёй пакінуць памяшканне. Але журналістка адмовілася сыходзіць і вырашыла дачакацца губернатара. Толькі тады чыноўнік быў вымушаны прапанаваць ёй прайсці ў кабінет да калег.

**27 снежня** карэспандэнтцы недзяржаўнай рэгіянальнай газеты «Информ-прогулка» (г. Лунінец) Марыі Юрко не дазволілі прысутнічаць на сесіі Лунінецкага райсавета дэпутатаў. Напярэдадні журналістка праінфармавала старшыню райсавета Віталя Адзішчава пра свой намер прысутнічаць на мерапрыемстве (папярэджваць пра жаданне журналістаў газеты ўдзельнічаць у мерапрыемствах, што ладзяцца райсаветам, прадпісана лістом старшыні райсавета ад 24.01.2011 г.). Але чыноўнік адмовіў, нягледзячы на наяўнасць у Марыі Юрко акрэдытацыі пры райсавеце. В. Адзішчаў спаслаўся на забарону з боку намесніка старшыні райвыканкама Віктара Рафаловіча пускаць прадстаўнікоў незалежнага выдання на сесіі і наогул даваць якую-кольвек інфармацыю.

## Канфлікты, звязаныя з атрыманнем і распаўсюдам замежнай інфармацыі ці дзейнасцю замежных СМІ

**17 студзеня** карэспандэнт расійскага выдавецкага дома «Коммерсантъ» Маўсун Гаджыеў (Мовсун Гаджиев) даведаўся, што Міністэрства замежных спраў Беларусі адмовіла яму ў акрэдытацыі для працы на тэрыторыі краіны. Як патлумачыў у ходзе тэлефоннай гутаркі супрацоўнік МЗС (які не пажадаў назваць свайго імя), праца журналіста на працягу 2010 г. не задаволіла беларускі бок. Якія яго публікацыі выклікалі прэтэнзіі, Гаджыеву не патлумачылі.

**10 сакавіка** журналіст Андрэй Пачобут атрымаў афіцыйнае папярэджанне ад пракуратуры Гродзенскай вобласці за працу на польскую Gazetu Wyborczu без акрэдытацыі. Андрэй Пачобут лічыць, што пракуратура і МЗС парушаюць яго канстытуцыйнае права на збор і распаўсюд інфармацыі і не збіраецца спыняць журналісцкую дзейнасць.

**24 сакавіка** памежны нарад вайсковай часткі 1242 аддзела берагавой аховы Гомельскай памежнай групы затрымаў двух нямецкіх журналістаў — кіраўніка карэспандэнцкага пункта Deutschlandradio ў Маскве Роберта Баага і карэспандэнтку «Рэйнскай газеты» Дорыс Хэйман. Пасля затрымання іх даставілі ў аддзел берагавой аховы, дзе адбыўся асабісты дагляд, допыт, складанне пратаколу аб адміністратыўным правапарушэнні, а затым і пастановы аб адміністратыўным спагнанні. Журналісты, якія ехалі ў Камарын Брагінскага раёна, каб падрыхтаваць матэрыялы да гадавіны Чарнобыльскай катастрофы, былі затрыманыя на 9 гадзін.

**24 сакавіка** суд г. Орша і Аршанскага раёна (суддзя Іна Кохава) асудзіў на 3 сутак адміністратыўнага арышту расійскага журналіста-праваабаронцу, галоўнага рэдактара інфармацыйнага агенцтва «Свобода» (г. Самара) Аляксандра Лашманкіна. Яго абвінавацілі ў дробным хуліганстве (арт. 17.1 КаАП) – нібыта за тое, што ён нецэнзурна лаяўся пры затрыманні. У знак пратэсту журналіст абвясціў галадоўку ўжо ў зале суда. Арышт Лашманкін адбыў у Аршанскім ізалятары часовага ўтрымання. Яго затрымала ў ноч на 24 сакавіка транспартная міліцыя ў горадзе Орша, зняўшы з цягніка “Чалябінск — Брэст”. Журналіст ехаў у Мінск з мэтай асвятляць судовыя працэсы над удзельнікамі «масавых беспарадкаў» і магчымыя вулічныя акцыі 25 сакавіка.

**28 сакавіка** МЗС Беларусі адмовіла Аляксандру Лашманкіну ў акрэдытацыі, нягледзячы на раней прынятае станоўчае рашэнне па гэтым пытанні. Таксама ведамства «пакінула без разгляду» яго новую заяўку, пададзеную 18 сакавіка. (Тэрмін дзейнай акрэдытацыі закончваўся 31 сакавіка, і журналіст яшчэ да паездкі ў Беларусь звярнуўся ў МЗС.)

**17 траўня** беларускаму карэспандэнту радыёстанцыі «Голос России» Яўгену Агурцову ў Міністэрстве замежных спраў Беларусі паведамілі, што ў акрэдытацыі яму ў чарговы раз адмоўлена. Супрацоўнік МЗС, які не пажадаў сябе назваць, у тэлефоннай гутарцы заявіў, што заяўка на акрэдытацыю адхіленая, паколькі журналіст ажыццяўляў на тэрыторыі РБ журналісцкую дзейнасць ад імя замежнага СМІ без акрэдытацыі. Чыноўнік спаслаўся на пункт 10 «Палажэння аб парадку акрэдытацыі ў Рэспубліцы Беларусь журналістаў замежных сродкаў масавай інфармацыі».

Упершыню з праблемай акрэдытацыі Яўген Агурцоў, які прапрацаваў уласным карэспандэнтам «Голоса России» ў Беларусі каля 8 гадоў, сутыкнуўся напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў — у лістападзе 2010 года.

**23 траўня** беларускія памежныя службы анулявалі візу старшыні Праўлення «Радыё Рацыя», галоўнаму рэдактару тыднёвіка беларусаў у Польшчы «Ніва» Яўгену

Вапу — сябру Кансультацыйнай рады па справах беларусаў замежжа пры Міністэрстве культуры Польшчы, сябру Вялікай рады «Бацькаўшчыны». Інцыдэнт адбыўся, калі сп. Вапа перасякаў мяжу, каб наведаць Беларусь.

На зварот згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» МЗС заявіў, што даць інфармацыю пра прычыны анулявання візы “не ўяўляецца магчымым”. У афіцыйным адказе намеснік міністра Сяргей Алейнік спаслаўся на арт. 31 Закона «Аб прававым становішчы замежных грамадзян і асоб без грамадзянства ў Рэспубліцы Беларусь», паводле якога органы не абавязаныя інфармаваць пра прычыны рашэнняў.

**30 траўня** ўвечары з Беларусі дэпартавалі карэспандэнта расійскага тэлеканала «Дождь» Радзівона Марынічава, цягам наступных 5 гадоў яму забаронены ўезд на тэрыторыю краіны. Рашэнне аб дэпартацыі падпісаў начальнік Партызанскага РУУС Мінска Андрэй Парашчук. Рэпарцёра затрымалі ў гэты ж дзень, 30 траўня, каля парку Горкага ў Мінску пасля інтэрв’ю з журналісткай Ірынай Халіп, жонкай экс-кандыдата на прэзідэнта Андрэя Саннікава. На выхадзе з парку Марынічава спынілі міліцыянты, якія зацікавіліся змесцівам сумкі і дакументамі. Праверыўшы пашпарт, яны ўбачылі пасведчанне тэлеканала «Дождь» і запыталіся пра акрэдытацыю. Тлумачэнне наконт працы ў «прыватным парадку» міліцыянтаў не задаволіла, і яны прапанавалі яму прайсці ў аддзяленне міліцыі. Там у журналіста праверылі ўсе асабістыя рэчы і забралі карту памяці з усімі відэазапісамі. Журналіста выпусцілі праз 3 гадзіны пасля затрымання.

**7 чэрвеня** стала вядома, што на прадпрыемствах Гродна распаўсюджаны спіс асобаў, дачыненні з якімі могуць быць небяспечнымі для грамадзян. Усе фігуранты спісу падазраюцца ў супрацоўніцтве з тэлеканалам «Белсат».

**27 чэрвеня** Амбасада Беларусі ў Лондане паведаміла журналістам брытанскага тэлеканала BBC Ніку Стардзі (Nick Sturdee) і Люсі Эш (Lucy Ash), што іх візы ануляваныя. Журналісты мелі дзеючыя беларускія візы і акрэдытацыю пры МЗС Беларусі і планавалі наведаць краіну на Дзень Незалежнасці (3 ліпеня). Але ім патэлефанавалі прадстаўнікі беларускай амбасады і паведамілі, што МЗС вырашыў ануляваць іх візы. Прычыны такога рашэння брытанскім журналістам не патлумачылі. Ім таксама параілі не звяртацца па беларускую візу ў бліжэйшым будучым.

**29 чэрвеня** ў Мінску падчас асвятлення вулічнай “маўклівай” акцыі пратэсту супрацоўнікі праваахоўных органаў затрымалі латвійскага журналіста Угіса Лябіціса. У яго на шыі вісела карта акрэдытацыі, але яе наяўнасць міліцыянтаў не спыніла. Таксама падчас здымак акцыі невядомыя людзі ў цывільным збілі карэспандэнта і аператара Рускай службы BBC Алега Болдырава і Максіма Ламакіна.

**5 ліпеня** ў Гродне невядомыя мужчыны ў цывільным перашкаджалі працаваць журналістам, якія асвятлялі суд па крымінальнай справе за “паклёп” на прэзідэнта Лукашэнку супраць карэспандэнта Gazety Wyborczej Андрэя Пачобута. Ад дзеянняў такіх людзей пацярпелі, у прыватнасці, фотакарэспандэнты агенцтваў Associated Press Сяргей Грыц і Reuters Васіль Фядосенка. Група невядомых мужчын штурхаліся, хапалі журналістаў за рукі, фотааб’ектывы.

**16 жніўня** Міністэрства замежных спраў Беларусі ізноў адмовіла ў акрэдытацыі гродзенскаму карэспандэнту “Радыё Рацыя” Віктару Парфёненку. Гэта ўжо трэцяя па ліку безвыніковая спроба журналіста акрэдытавацца. Прычына адмовы называецца адна і тая ж — пункт 10 «Палажэння аб парадку акрэдытацыі ў РБ журналістаў замежных СМІ». Інакш кажучы, немагчыма акрэдытаваць карэспандэнта “Радыё Рацыя”, паколькі раней ён працаваў на дадзенае СМІ без дазволу МЗС. У тэлефоннай размове супрацоўнік МЗС параіў Віктару Парфёненку паспрабаваць не публікавацца цягам года, каб мець магчымасць атрымаць акрэдытацыю ў наступны раз.

**19 жніўня** ў Лідскім раённым судзе (суддзя Максім Філатаў) распачаўся разгляд адміністратыўнай справы карэспандэнта тэлеканала «Белсат» Сяргея Карпенкі. Журналіста, затрыманага **22 чэрвеня** падчас "маўклівай" акцыі пратэсту, вінавацілі ў лаянцы матам і супраціве міліцыянтам. Першае пасяджэнне доўжылася дзве гадзіны, пасля чаго працэс перанеслі на **22 жніўня**, паколькі ў суд не з'явіліся сведкі-міліцыянты.

Па высунутых супраць Сяргея Карпенкі абвінавачаннях, яму пагражаў штраф да 50 базавых велічынь альбо адміністратыўны арышт. Журналіст, у сваю чаргу, накіраваў у пракуратуру скаргу на дзеянні супрацоўнікаў праваахоўных органаў. Па словах С. Карпенкі, міліцыянты запрасілі яго на размову, але пасля адмовы пайсці з імі адразу прымянілі грубую фізічную сілу і ў выніку да крыві разбілі журналісту галаву.

**20 жніўня** Генеральная пракуратура афіцыйна пацвердзіла, што затрыманні супрацоўнікамі міліцыі ў цывільным карэспандэнтаў "Еўрапейскага радыё для Беларусі" падчас акцый "маўклівага" пратэсту (з 22 чэрвеня па 6 ліпеня) былі незаконнымі. Як паведамляецца ў дакуменце, Генпракуратура па выніках праверкі прыйшла да высновы, што падчас затрымання Паўла Свярдлова і Андрэя Елісеева былі парушаныя іх правы, у тым ліку "неабгрунтавана абмежаваныя правы як прадстаўніка СМІ".

Падчас візіту карэспандэнта "Еўрарадыё", пракуратура паказала для візуальнага азнаямлення дакумент «для службовага карыстання» (сфатаграфаваць ці адсканаваць яго не дазволілі), дзе названыя прозвішчы 5 супрацоўнікаў міліцыі, якія затрымлівалі журналістаў і перашкаджалі ім працаваць.

**24 жніўня** беларускія памежнікі не пусцілі на тэрыторыю Беларусі групу літоўскіх тэлежурналістаў, якія ехалі ў Гродна. Карэспандэнтцы тэлеканала LTV Руце Ланкінінкайтэ памежнікі заявілі, што яна непажаданая ў краіне асоба, і яе віза анулёўваецца. Высвятляць сітуацыю журналістцы параілі ў Мінску. Літоўцы хацелі зрабіць тэлесюжэт пра тое, як жывуць беларусы ва ўмовах інфляцыі.

Нагадаем, Рута Ланкінінкайтэ працавала дагэтуль у Беларусі амаль 6 гадоў. Штогод яна з аператарам Ёнасам Грышконісам атрымлівалі службовыя візы і гадавыя акрэдытацыі, якія дазвалялі наведваць нашу краіну.

**30 жніўня** журналістку **"**Радыё Рацыя" Гражыну Шалкевіч выклікалі на размову ў інспекцыю па падатках і зборах па Ленінскім раёне Гродна. Як паведамляецца ў позве, журналістка мусіла даць тлумачэнні па пытанні «ажыццяўлення падатковага кантролю».

**15 верасня** карэспандэнтаў агенцтва Associated Press Юрася Карманава і Сяргея Грыца, а таксама фотакарэспандэнтку European Pressphoto Agency Таццяну Зяньковіч не акрэдытавалі пры Палаце прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу для асвятлення сустрэчы кітайскай парламенцкай дэлегацыі з беларускімі парламентарамі.

Факс з заяўкай на акрэдытацыю Ю. Карманава і С. Грыца для асвятлення гэтай падзеі быў высланы ў Палату прадстаўнікоў 13 верасня. 15 верасня начальнік упраўлення інфармацыі Палаты прадстаўнікоў Мікалай Ліс паведаміў журналістам AP, што трапіць на сустрэчу яны не змогуць, бо дэлегацыя вялікая, а памяшканне для сустрэчы — малое. Разам з тым прадстаўнікі дзяржаўных СМІ такую акрэдытацыю атрымалі.

**26 кастрычніка** ўначы з Беларусі дэпартавалі карэспандэнта расійскай газеты «Московский комсомолец» Ігара Кармазіна. Журналісту забаранілі ўезд на тэрыторыю краіны цягам аднаго года. І. Кармазін прыязджаў у Мінск па заданні рэдакцыі, каб падрыхтаваць рэпартаж пра беларускую апазіцыю. Яго затрымалі **25 кастрычніка**

ўвечары адразу пасля сустрэчы з журналісткай Ірынай Халіп, жонкай экс-кандыдата ў прэзідэнты А. Саннікава. І. Кармазіна адвезлі ў Партызанскі РУУС Мінска, дзе абшукалі, выдалілі з дыктафона ўсе запісы і ўзялі адбіткі пальцаў. Пасля гэтага ўручылі дакумент аб забароне на ўезд у Беларусь за подпісам намесніка начальніка РУУС Аляксандра Гладуна.

Як заявіў пазней прэс-сакратар міністэрства замежных спраў Андрэй Савіных, І. Кармазін знаходзіўся ў Мінску без адпаведнага дазволу на працу - акрэдытацыі прадстаўніка замежнага СМІ пры МЗС, як патрабуе таго беларускае заканадаўства.

**9 лістапада** стала вядома, што беларуская амбасада ў Берліне адмовіла ў выдачы візы найстарэйшай супрацоўніцы Беларускай службы Радыё «Свабода» Галіне Руднік. Прычыну адмовы не патлумачылі. Спадарыня Руднік планавала прэзентаваць у Мінску кнігу сваіх успамінаў "Птушкі пералётныя", што выйшла ў серыі "Бібліятэка Свабоды". Прэзентацыя мелася адбыцца яшчэ ў кастрычніку, але толькі цяпер стала вядомая прычына, па якой гэтага не здарылася.

Даведка: Галіна Руднік (у дзявоцтве Ганчарэнка) нарадзілася ў Бабруйску ў 1930 г. Яе бацькі былі рэпрэсаваныя. У 1944 г. яна выехала на Захад — у Берлін. Затым у ЗША. З дыпломам нью-ёркскага City College прыехала ў Мюнхен. З 1954 да пачатку 1990-х працавала ў Беларускай службе Радыё «Свабода». Жыве ў Германіі.

**26 лістапада** раніцай супрацоўнікі міліцыі забралі ў гродзенскага праваабаронцы Віктара Сазонава рэкламную прадукцыю "Радыё Рацыя". Аўтамабіль Сазонава спынілі супрацоўнікі ДАІ, яны заявілі, што неабходна праехаць у Ленінскі РАУС Гродна, каб там правесці дагляд машыны. У выніку забралі рэкламную прадукцыю "Радыё Рацыя" - кашулькі, каляндарыкі і інш. Міліцыянты паведамілі, што вынятую прадукцыю накіруюць на праверку.

**26 лістапада** быў узламаны сайт "Радыё Рацыя". У выніку хакерскай атакі з'явілася паведамленне, што рэсурс пачаў распаўсюджваць вірус, і 27 лістапада камп'ютарная служба радыёстанцыі была вымушаная яго адключыць. 30 лістапада сайт аднавіў сваю працу ў нармальным рэжыме. "Мэтай нападу было пераняцце кантролю над серверам, каб мець магчымасць рабіць змены ў змесце публікацый. Калі абараніліся серверы, то прыступілі да другой атакі, звязанай з фальшывай інфармацыяй пра тое, што мы рассылаем вірусы. Ніякіх вірусаў на нашым сайце няма. Мэтай было, каб нашая старонка была далучана да небяспечных", - паведаміў старшыня ўправы «Радыё Рацыя» Яўген Вапа.

**5 снежня** ўначы ў аэрапорце "Мінск-2" прадстаўнікам нарвежскага ПЭН-Цэнтра (генеральны сакратар Карл Мортан Іверсан, сябра Праўлення Уільям Нюгард і выдавец Трыгве Ослюнд) і дацкага ПЭН-Цэнтра (сябра Праўлення і журналіст Нільс-Івар Ларсан) адмовілі ў візах. Прыбыўшы каля гадзіны ночы ў аэрапорт, скандынаўскія госці збіраліся аформіць двухдзённыя турыстычныя візы. Для гэтага мелі з сабой усе неабходныя паперы.

(У Мінску госці планавалі сустрэцца з прадстаўнікамі ГА «БАЖ», беларускага ПЭН-цэнтра, Саюза беларускіх пісьменнікаў, мясцовымі аўтарамі і выдаўцамі.)

Спачатку спецыяліст па візах захацеў пагутарыць з чалавекам, які іх сустракаў, пасля ён захацеў паразмаўляць з прадстаўнікамі турагенцтва, якое запрашала замежных гасцей, але было ўжо каля 3 гадзін ночы. Потым афіцэр пачаў афармляць дакументы і сабраў з замежнікаў консульскі збор за 4 візы - 360 еўра. Але праз пэўны час прыйшла супрацоўніца памежнай службы і растлумачыла, што консул вырашыў адмовіць у візах, а аспрэчыць гэтае рашэнне немагчыма. Яна падкрэсліла, што ў беларускіх уладаў ёсць права адмаўляць у візе, хаця пры гэтым і была запатрабавана аплата консульскага збору.

У чаканні зваротных рэйсаў грамадзян Нарвегіі і Даніі да раніцы трымалі ў месцы без доступу да ежы і напояў.

**19 снежня** раніцай у Мінску падчас акцыі ўкраінскай арганізацыі Femen каля будынку КДБ на праспекце Незалежнасці была затрыманая, сярод іншых журналістаў, тэлеаператарка руху Femen Кіці Грын (грамадзянка Аўстраліі). Спачатку яе адвялі ў будынак КДБ. Каля 17.30 стала вядома, што ў суправаджэнні супрацоўнікаў КДБ Кіці Грын была дэпартаваная з Беларусі ў Вільнюс.

У КДБ, а затым у Цэнтральным РУУС пабываў таксама акрэдытаваны ў Беларусі фотакарэспандэнт агенцтва France Presse і «Комсомольской правды» в Белоруссии» Віктар Драчоў. Ён прыехаў на месца правядзення акцыі Femen крыху пазней за яе пачатак і не паспеў зрабіць ніякіх здымкаў. Але яго таксама затрымалі, праверылі дакументы і апаратуру, адпусцілі каля 14.30 без складання прataколу.

## Абмежаванні свабоды дзейнасці ў інтэрнэце

**28 студзеня** міністр інфармацыі Алег Праляскоўскі заявіў, што лічыць мэтазгодным унесці некаторыя змены ў закон "Аб СМІ". Закон уключае норму пра тое, што рэгістрацыя сродкаў масавай інфармацыі, якія распаўсюджваюцца праз інтэрнэт, праводзіцца ў парадку, вызначаным Саветам Міністраў, - падкрэсліў міністр. Аднак такі парадак да гэтага часу не зацверджаны. «Мне даручана ў бліжэйшы час завяршыць распрацоўку і ўзгадненне гэтага дакумента», — сказаў А. Праляскоўскі.

**красавіка** Генеральная пракуратура вынесла пастановы аб абмежаванні доступу да інфармацыйных сайтаў "Хартыя'97" і "Белорусский партизан", спасылаючыся на парушэнне імі закона "Аб масавых мерапрыемствах у РБ". Паводле пракуратуры, "да атрымання дазволу на правядзенне масавага мерапрыемства яго арганізатары, а таксама іншыя асобы не маюць права аб'яўляць у СМІ пра дату, месца і час яго правядзення". На падставе рашэння Генпракуратуры згаданыя рэсурсы ўключаныя ў фармаваны БелДІЭ (Беларускай дзяржаўнай інспекцыяй электрасувязі) спіс абмежаванага доступу. Большасць беларускіх інтэрнэт-правайдэраў ужо атрымалі абноўлены спіс і былі абавязаныя ў адпаведнасці з указам заблакаваць доступ да гэтых сайтаў для дзяржаўных устаноў і арганізацый, а таксама арганізацый адукацыі, культуры.

**12 красавіка** з-за DDoS-атакі не адкрываліся для доступу карыстальнікаў інфармацыйныя рэсурсы "Хартыя'97" і "Белорусский партизан". На сайт «Нашай Нівы» таксама адбылася магутная DDoS-атака, пэўны час (прыкладна ад 12.00 да 14.00) назіраліся праблемы з маршрутызацыяй у ЦОД дзяржаўнага правайдэра РУП «Белтэлекам».

**19 красавіка** перастаў адкрывацца навінавы сайт charter97.org. Як паведаміла рэдакцыя рэсурсу, а 15.13 па мінскім часе на сайт пачалася магутная DDoS-атака. Нагадаем, з 7 красавіка сайт charter97.org заблакаваны для дзяржаўных арганізацый, устаноў адукацыі і культуры. Пасля разгрому ў мінскім офісе "Хартыі'97" ў ноч з 19 на 20 снежня 2010 г. і арышту супрацоўнікаў, рэдакцыя сайта аднавіла сваю працу з Вільнюса.

**6 чэрвеня** на сайт charter97.org быў праведзены масіраваны DDoS-напад. Сервер быў адключаны і сайт на некаторы час стаў недасяжным для наведвальнікаў.

**9 чэрвеня** з'явілася інфармацыя пра блакаванне на гродзенскіх прадпрыемствах доступу да папулярнага гарадскога блогу s13.ru. Блог г. Гродна s13.ru акумулюе звесткі

пра самыя розныя падзеі ў горадзе і вобласці. Сёння блог налічвае больш за 6000 зарэгістраваных карыстальнікаў.

**22 чэрвеня** ў 19.15 замежны сервер "Еўрапейскага радыё для Беларусі", даступны па адрасе euroradio.fm, патрапіў пад магутную DDoS-атаку, якая перавышала прапускную магчымасць сервера больш чым у 10 разоў. Праз 15 хвілін хостэр быў вымушаны заблакаваць доступ да сайта, пакуль атака не спыніцца. Усе атакуючыя IP-адрасы былі з Расіі. На думку галоўнага рэдактара "Еўрарадыё" Віталя Зыблюка, атака, верагодна, была звязаная з асвятленнем "маўклівай" акцыі пратэсту.

**22 чэрвеня** прыкладна ў гэты ж час пад DDos-атаку патрапіў і сайт Аб'яднаных дэмакратычных сіл (АДС). Напад працягваўся амаль суткі.

**8 кастрычніка** – калі праходзіла ўсебеларуская акцыя «Народны сход» - цягам дня, асабліва ў першай палове, у Беларусі назіраліся праблемы з доступам да некаторых інтэрнэт-рэсурсаў грамадска-палітычнага кірунку. Сярод іх — сайт «Народнага сходу», «Хартыя'97», Радыё «Свабода», «Еўрапейскае радыё для Беларусі», «Белорусский партизан», сацыяльная сетка «Вконтакте».

**20 кастрычніка**, напярэдадні вулічнай акцыі салідарнасці з палітзняволенымі, назіраліся традыцыйныя праблемы з доступам да інфармацыйных сайтаў charter97.org, svaboda.org**,** belaruspartisan.org, а таксама да сацыяльнай сеткі "Вконтакте".

**24 кастрычніка** ўвечары перастаў працаваць на нейкі час знешні сайт недзяржаўнай інфармацыйнай кампаніі БелаПАН - belapan.com. Замежны сервер, на якім знаходзіцца сайт, быў узламаны невядомымі. Карыстальнікі, якія заходзілі на старонку з-за межаў Беларусі, бачылі фотаздымак А. Лукашэнкі з подпісам: «Зачотны у вас сайт. Чэсна! Даставила!»

**8 лістапада** Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу прыняў закон "Аб унясенні дапаўненняў у Кодэкс РБ аб адміністратыўных правапарушэнняў і Працэсуальна-выканаўчы кодэкс РБ аб адміністратыўных правапарушэннях". Акрамя іншага дапаўненні прадугледжваюць адказнасць за парушэнне патрабаванняў па абмежаванні доступу карыстальнікаў інтэрнэт-паслуг да інфармацыі, забароненай у адпаведнасці з заканадаўствам.

**10 лістапада** стала вядома, што ў Беларусі ў спіс абмежаванага доступу занесеныя 35 інтэрнэт-рэсурсаў. У абавязковым парадку доступ да іх закрыты ў дзяржаўных органах, установах адукацыі і культуры. Спіс складаецца РУП "БелДІЭ" (Дзяржаўнай інспекцыяй РБ па электрасувязі) на падставе рашэнняў кіраўнікоў Камітэта дзяржкантролю, Генеральнай пракуратуры, Аператыўна-аналітычнага цэнтра пры Адміністрацыі прэзідэнта і інш. дзяржорганаў.

**28 лістапада** дзяржаўны правайдэр РУП "Белтэлекам" увёў абмежаванні на выкарыстанне беларускага сегмента сеткі інтэрнэт у дзейнасці дзяржаўных установаў і арганізацый. Дзяржслужачым забаранілі доступ да шэрагу сайтаў, у гэтым пераліку апынуліся інфармацыйныя інтэрнэт-рэсурсы «Белорусский партызан», «Хартыя'97», а таксама блог грамадскага актывіста Яўгена Ліпковіча.

Абмежаванне праводзіцца ў адпаведнасці з указам прэзідэнта РБ ад 1 лютага 2010 г. № 60 "Аб мерах па ўдасканальванні выкарыстання нацыянальнага сегмента сеціва інтэрнэт".

Як патлумачыла кіраўніца прэс-службы Міністэрства сувязі і інфарматызацыі Эла Чазава, для таго, каб нейкі сайт патрапіў у спіс забароненых, любы грамадзянін можа звярнуцца з такой прапановай да шэрагу дзяржаўных установаў (пракуратура, МУС, Мінінфармацыі, суд і інш.), а яны прымаюць адпаведнае рашэнне.

**26 лістапада** быў узламаны сайт “Радыё Рацыя”. У выніку хакерскай атакі з’явілася паведамленне, што рэсурс пачаў распаўсюджваць вірус, і 27 лістапада тэхнічная служба радыёстанцыі была вымушаная яго адключыць. 30 лістапада сайт аднавіў сваю працу ў нармальным рэжыме. “Мэтай нападу было пераняцце кантролю над серверам, каб мець магчымасць рабіць змены ў змесце публікацый. Калі абараніліся серверы, то прыступілі да другой атакі, звязанай з фальшывай інфармацыяй пра тое, што мы рассылаем вірусы. Ніякіх вірусаў на нашым сайце няма. Мэтай было, каб нашая старонка была далучана да небяспечных”, - паведаміў старшыня ўправы «Радыё Рацыя» Яўген Вапа.

**27 снежня** стала вядома, што «Белтэлекам» пачаў блакаваць доступ да інтэрнэту ў тых арганізацыях, якія прымусова не змянілі наладкі DNS-сервераў. Першай стала Віцебская вобласць. Заблакаваны 53-і порт, па якім ідзе зварот да DNS-сервераў. Прычым пры выстаўленні аўтаматычных наладак інтэрнэт усё адно не працуе. Пры ўключэнні ж «рэкамендаваных» наладак блакуюцца сайты з «забароненага спісу», напрыклад, “Хартыя’97” і “Белорусский партизан”. Наведвальнікі скардзіліся, што пры гэтым выпадкова заблакаванымі застаюцца многія сацыяльныя сеткі, сайты з антывіруснымі базамі і іншыя рэсурсы. Афіцыйнага каментару «Белтэлекам» не даваў.

**29 снежня** на інфармацыйны сайт charter97.org адбылася магутная DDoS-атака. У 17.00 па мінскім часе сайт падвергся нападу, злаўмыснікі атрымалі доступ да адміністратыўнай часткі кіравання кантэнтам, выдалілі частку матэрыялаў і апублікавалі зняважлівы артыкул пра журналістку Ірыну Халіп і яе мужа - асуджанага экс-кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Саннікава. Па інфармацыі тэхнічнай службы сайта, сервер і праграмная частка сайта ўзламаныя не былі. Праведзенае расследаванне паказала, што злачынцы скарысталіся паролем да “адмінкі”, дзе друкуюцца навіны. У выніку нападу была знішчана частка архіву – некалькі тыдняў снежня 2011 г.

**30 снежня** каля 15-й гадзіны сайт быў паўторна ўзламаны. Невядомыя пачалі мяняць змест інфармацыйных матэрыялаў, таму рэдакцыя была вымушана зняць з сайта ўсе апошнія публікацыі. Некалькі дзён сайт не працаваў. Рэдакцыя charter97.org перакананая, што гэтыя напады – справа беларускіх спецслужбаў.

Нагадаем, рэдакцыя «Хартыі» знаходзіцца ў Літве, дзе яго рэдактарка Наталля Радзіна атрымала палітычны прыстанак. Яна была абвінавачана па крымінальнай справе “аб масавых беспарадках” 19 снежня 2010 г. на плошчы Незалежнасці ў Мінску.

## Эканамічны ціск, перашкоды друку і распаўсюду

**7 лютага** ў Віцебску быў затрыманы мясцовы распаўсюднік незалежнай перыёдыкі Барыс Хамайда. Супрацоўнікі Чыгуначнага РАУС склалі на яго пратакол за парушэнне артыкула 23.34 КаАП (несанкцыянаванае пікетаванне).

**28 лютага** суд Чыгуначнага раёна прысудзіў распаўсюдніку штраф – 1 млн. 50 тыс. рублёў «за арганізацыю і правядзенне несанкцыянаванага пікету».

**21 сакавіка** адбылося адразу два інцыдэнты, звязаныя з распаўсюдам недзяржаўнай афіцыйна зарэгістраванай газеты «Новы Час» ў Мінску і Слуцку. У сталіцы затрымалі аднаго з распаўсюднікаў газеты. Яго адвезлі ў Цэнтральны РАУС, але праз пэўны час адпусцілі без складання пратаколу.

У той жа дзень у Слуцку невядомы, назваўшыся супрацоўнікам міліцыі, адабраў у валанцёркі «Новага часу» Зінаіды Цімошык пакет з 200 асобнікамі выдання, якія

планавалася распаўсюдзіць сярод жыхароў горада. Падстаў для вымання газет жанчыне не паведамілі, ніякіх актаў і пратаколаў не складалі. Зінаіда Цімошык накіравала пракурору Слуцкага раёна заяву з просьбай разабрацца ў сітуацыі і прыняць меры пракурорскага ўздзеяння.

**14 красавіка** рэдакцыя недзяржаўнай газеты «Наша Ніва» паведаміла, што кошт на паперу для друку выдання рэзка падаражаў. Калі раней рэдакцыя закупляла газетную паперу вырабу Сыктыўкарскага завода (Расія) па цане 2 050 000 беларускіх рублёў за тону без уліку ПДВ (20%), то цяпер аптавікі прапанавалі яе па кошце 3 500 000 рублёў за тону. Падаражанне склала 70% пры афіцыйнай лічбе інфляцыі ў Беларусі 6% у першым квартале.

У Беларусі прадаецца таксама папера вырабу Шклоўскага завода. Газеце ўдалося закупіць 6 тон гэтай паперы па цане 2 300 000 рублёў за тону без уліку ПДВ, але гэта былі апошнія складскія запасы ў пастаўшчыка. Выданне папярэдзілі, што наступная партыя шклоўскай паперы будзе па яшчэ вышэйшым кошце. У месяц «Наша Ніва» выкарыстоўвае каля 1,4 тоны паперы. Рэдакцыя паведаміла, што будзе вымушаная падняць рознічную цану на газету ў чарговы раз.

**20 красавіка** Шклоўскі завод газетнай паперы павысіў кошты на 20%. Таксама стала вядома, што з 1 мая на 20% вырастуць паслугі друкарняў. Праблемы ў эканоміцы сталі негатыўна адбівацца на рынку масмедыя. Шэраг недзяржаўных перыядычных выданняў заявілі, што знаходзяцца на мяжы банкруцтва. Так, адна з самых папулярных недзяржаўных спартыўных газет “Прессбол” заклікала сваіх чытачоў пераходзіць на электронную версію.

**25 траўня** ад супрацоўнікаў адміністрацыі Шклоўскага завода газетнай паперы стала вядома, што прадпрыемства прадае свае прадукцыю па розных коштах для дзяржаўных і недзяржаўных газет. Так, для дзяржаўных газет тона паперы маркі «О» каштуе 2.884.080 рублёў, для недзяржаўных — больш за 4 млн.

“Няроўныя ўмовы гаспадарання пазбаўляюць недзяржаўную прэсу апошніх шанцаў на канкурэнцыю. Рост коштаў на паперу, паслугі друкарні, распаўсюду вымушаюць падымаць і кошт самой газеты. Калі ў шапіку прадаецца каляровая дзяржаўная газета за 600–700 рублёў, то мы вымушаныя прадаваць менш якасны па друку і з меншай колькасцю старонак нумар за 1500 рублёў”, - пракаментаваў гэту сітуацыю галоўны рэдактар «Рэгіянальнай газеты» (г. Маладзечна) Аляксандр Манцэвіч..

**3 чэрвеня** ў Барысаве чарговы арэндадаўца запатрабаваў вызваліць памяшканне, у якім размяшчаецца рэдакцыя рэгіянальнага сайта ex-press.by (раней быў вядомы як «Борисов Электронный»). За час існавання рэсурсу яму шэсць разоў адмаўлялі ў арэндзе ўжо знятага памяшкання, супрацоўнікаў і інфарматараў сайта неаднаразова запрашалі ў КДБ.

**3 чэрвеня** журналістам трапіла копія дакумента, які сведчыць пра працяг прымусовай падпіскі на дзяржаўныя друкаваныя СМІ. Гэта разнарадка з адміністрацыі Першамайскага раёна г. Мінска ўсім кіраўнікам прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый «узяць пад асабісты кантроль правядзенне ведамаснай падпіскі на асноўныя рэспубліканскія і гарадскія выданні» — каб захаваць колькасць выпісаных асобнікаў. У спісе фігуруюць газеты: «Советская Белоруссия», «Минский курьер», «Вечерний Минск», «Народная газета», «Рэспубліка», «Звязда», «Знамя юности», а таксама часопіс «Планета».

**8 ліпеня** ў Віцебску затрымалі грамадскага распаўсюдніка недзяржаўных друкаваных СМІ Барыса Хамайду. Затрыманне адбылося каля «сіняга дому» па вуліцы Леніна, дзе сп. Хамайда традыцыйна раскладвае выданні. Сталага чалавека адвезлі ў

Чыгуначны РАУС, спаслаўшыся на загад міліцэйскага начальства. Верагодна, грамадскі актывіст патрапіў пад “зачыстку” горада перад фестывалем «Славянскі базар». **7 ліпеня** супрацоўнікі Кастрычніцкага РАУС Віцебска спынялі Барыса Хамайду на вуліцы, каб праверыць змесціва ягоных сумак. Але пасля асабістага дагляду міліцыянты папрасілі прабачэння і адпусцілі актывіста.

**11 ліпеня** ў Наваполацку грамадскі распаўсюднік бюлетэня «Тут і цяпер» Мікалай Чарткоў быў аштрафаваны судом на 2 базавыя велічыні за дробнае хуліганства (арт. 17.1 КаАП РБ) - нібыта ён лаяўся матам у грамадскім месцы. М. Чарткоў быў затрыманы **10 ліпеня** і суткі да суду правёў у пастарунку.

**12 ліпеня** мусіў таксама адбыцца разгляд адміністратыўнай справы за незаконны распаўсюд прадукцыі СМІ (арт. 22.9 КаАП РБ). Аднак працэс быў перанесены на **18 ліпеня** з-за таго, што на разгляд не прыйшлі сведкі.

**14 ліпеня** стала вядома, што недзяржаўную рэгіянальную газету «Нясвіжскі час» зноў адмовіліся распаўсюджваць праз кіёскі «Мінаблсаюздруку». Напрыканцы чэрвеня рэдакцыя накіравала ліст з прапановай аб супрацоўніцтве. І атрымала адказ, што «УП «Мінаблсаюздрук» скончыла дамоўную кампанію на пастаўку перыядычных выданняў на 2011 год яшчэ 03.01.2011 г. і не плануе распаўсюджваць у бягучым годзе газету «Нясвіжскі час».

**29 ліпеня** было агучана, што ў Беларусі перастала выдавацца штодзённая газета «Спорт-Экспресс» в Белоруссии». Як патлумачылі журналістам у мінскім офісе выдання, газета перастала выходзіць з-за немагчымасці купіць шклоўскую газетную паперу.

Нагадаем, што на пачатку ліпеня з’явілася інфармацыя, што Шклоўскі завод газетнай паперы адмаўляецца прадаваць паперу недзяржаўным СМІ. Тады з праблемамі сутыкнуліся рэгіянальныя выданні Intex-press (г. Баранавічы) і «Брестский курьер». Намеснік дырэктара завода Алег Падабед тады заявіў, што падыход у забеспячэнні паперай дзяржаўных і недзяржаўных СМІ будзе розным: СМІ, якія ёсць у “дзяржзаказе”, будуць забяспечваць паперай, для астатніх - паперу будуць выстаўляць на біржу. У мінскім офісе «Спорт-Экспресса» зазначаюць, што цяпер гэтую паперу проста немагчыма купіць.

**3 верасня** на ўездзе ў Магілёў супрацоўнікі Дзяржаўтаінспекцыі затрымалі мясцовую актывістку кампаніі «Гавары праўду!» Аксану Самуйлаву і забралі з яе аўтамабіля 38 546 асобнікаў спецвыпускаў газет кампаніі «Гавары праўду», а таксама ўлёткі і брашуры кампаніі. Спачатку міліцыянты заявілі, што «машына падазраецца ва ўдзеле ў здарэнні са смяротным зыходам», а таму яе трэба даставіць у міліцыю. У Ленінскім РУУС Магілёва ў аўтамабілі грамадскай актывісткі зрабілі вобшук, у выніку якога забралі друкаваную прадукцыю. А. Самуйлаву папярэдзілі, што выклічуць яе ў суд.

**9 верасня** папулярная ў Беларусі недзяржаўная газета «Туризм и отдых» паведаміла, што знаходзіцца на мяжы фінансавага банкруцтва. Дагэтуль выданне ўпэўнена працавала на медыйным рынку 17 гадоў. Паводле рэдактаркі выдання Ліліі Кобзік, з-за вялізнай інфляцыі і двайнога курсу долара (камерцыйнага і Нацбанку) выдаваць газету стала не выгадна. “Магчыма, гэта тычыцца далёка не усіх выданняў. Верагодна, там, дзе спонсар і інвестар – дзяржава, і ў гэтакіх эканамічных умовах можна выпускаць раскошныя глянцавыя і шматнакладныя газеты і часопісы”, – зазначыла рэдактарка “ТиО”.

Рэдакцыя газеты бачыць выйсце ў развіцці інтэрнэт-рэсурсу.

**27 верасня** ў Лепелі супрацоўнікі міліцыі адабралі ў затрыманага актывіста грамадзянскай кампаніі «Еўрапейская Беларусь» Віктара Калесніка каля 100 асобнікаў спецвыпуску газеты "Народная воля" і інфармацыйныя ўлёткі да «Народнага сходу». Пратакол вынятку міліцыянты не афармлялі.

**30 верасня** стала вядома, што Шклоўскі завод газетнай паперы працягвае прадаваць сваю прадукцыю па розных спісах — у адным фіксаваны кошт для дзяржаўных выданняў, у другім — для недзяржаўных — кошты з біржы. Розніца паміж коштамі для дзяржаўных і для недзяржаўных выданняў складае дзесьці 80%, — паведамілі ў аддзеле маркетынгу Шклоўскага заводу газетнай паперы. Дакладных лічбаў на заводзе не назвалі. Але, калі ўлічыць, што ў маі 2011 г. тона паперы маркі «О» для дзяржаўных газет ў пераводзе на долары ЗША каштавала каля 580-ці, то для недзяржаўных СМІ яе кошт зараз мусіць быць пад 1000 долараў. Такія захады дзяржавы ў дадатак да кепскай фінансава-эканамічнай сітуацыі ў краіне ставяць недзяржаўныя СМІ літаральна на мяжу выжывання.

**7 кастрычніка** ў г. Масты (Гродзенская вобласць) міліцыянты затрымалі грамадскага актывіста Сяргея Трафімчыка. З яго аўтамабіля праваахоўнікі забралі рэкламную прадукцыю "Радыё Рацыя" і тэлеканала "Белсат". Актывіста пратрымалі некалькі гадзін у пастарунку.

**8 кастрычніка** Сяргея Трафімчыка выклікалі ў Мастоўскі РАУС. Міліцыянты апыталі яго і паведамілі, што друкаваную прадукцыю, якая была ў яго ў машыне, перададуць на экспертызу для праверкі на прадмет наяўнасці супрацьзаконнага зместу.

**12 кастрычніка** стала вядома, што адзіную беларускамоўную дзіцячую газету «Раніца», якая раней выходзіла штотыднёва, з кастрычніка далучылі да рускамоўнага выдання «Переходный возраст». Кіраўніцтва выдавецтва ў сваіх тлумачэннях спаслалася на эканамічныя праблемы.

**13 кастрычніка** было агучана, што з пачатку 2012 г. не стане і найстарэйшага беларускамоўнага часопіса для падлеткаў «Бярозка». Выданне страціць сваю вокладку і будзе дадаткам да часопіса «Маладосць». Прычынай таксама названыя эканамічныя праблемы.

Даведка: «Бярозка» выходзіла з 1926 г., ў гэтым часопісе пачыналі многія вядомыя беларускія літаратары. У верасні 2011 г. выйшаў юбілейны 1000-ы нумар часопіса, а ў 2010 г. «Бярозка» адзначыла сваё 85-годдзе.

**25 кастрычніка** стала вядома, што ў падпісным каталогу «Белпошты» на 1-ае паўгоддзе 2012 года па-ранейшаму адсутнічаюць многія недзяржаўныя рэспубліканскія і рэгіянальныя выданні грамадска-палітычнай тэматыкі.

Нагадаем, у пачатку 2006 г. больш за дзесятак незалежных выданняў апынуліся па-за дзяржаўнай сістэмай распаўсюду. «Белсаюздрук» і «Белпошта» матывавалі гэта эканамічнай немэтазгоднасцю супрацоўніцтва з недзяржаўнай грамадска-палітычнай прэсай. У 2008-м у падпісныя каталогі пошты і шапікі «Белсаюздруку» вярнуліся газеты «Наша Ніва» і «Народная воля». Для шэрагу іншых недзяржаўных перыядычных выданняў ужо 6 гадоў нічога не змяняецца.

**3 лістапада** стала вядома, што ў г. Горкі гандлёвы цэнтр «БелМаркет» адмовіўся браць на продаж чарговы нумар горацкай недзяржаўнай газеты "УзГорак". Як патлумачылі рэдактарцы выдання Галіне Буднай, скасаваць дамову вырашылі ў галаўным офісе «БелМаркета» ў Мінску.

Нагадаем, «УзГорак» — абласная агульнапалітычная газета, якая распаўсюджваецца ў Горацкім, Дрыбінскім і Мсціслаўскім раёнах Магілёўскай

вобласці. Выданне не пазбягае аб’ектыўна паказваць мясцовае жыццё, асвятляе вострыя агульнанацыянальныя праблемы.

**15 лістапада** журналістам стала вядома, што Ваўкавыскі райвыканкам рассылае кіраўнікам мясцовых прадпрыемстваў афіцыйныя лісты з патрабаваннем забяспечыць ведамасную і індывідуальную падпіску на шэраг дзяржаўных перыядычных выданняў на 1 квартал 2012 года. У пасланні за подпісам намесніка старшыні райвыканкама Уладзіміра Захарчука патрабуецца таксама падаць справаздачу пра вынікі падпіскі ў аддзел ідэалагічнай працы райвыканкама. У спісе «кантралюемых выданняў» фігуруюць: «Советская Белоруссия», «Рэспубліка», «7 дней», абласная «Гродзенская праўда» і інш.

**20 лістапада** стала вядома, што супрацоўнікі бабруйскага КДБ забараняюць кіроўцам маршрутных таксі прывозіць у Бабруйск з Мінска газету «Новы Час». Пра гэта паведаміла грамадская актывістка Вольга Піманава, якая ўжо некалькі гадоў распаўсюджвае “НЧ” у Бабруйску сярод сяброў і знаёмых. Паводле яе слоў, кіроўца маршруткі, праз якую звычайна передавалі „Новы Час“, сказаў, што больш прывозіць газету не будзе, бо з ім пагутарылі супрацоўнікі КДБ і паабяцалі вялікія праблемы. Іншыя кіроўцы таксама адмовіліся дастаўляць газету, паколькі з імі ўсімі адбылася „прафілактычная гутарка“ з удзелам супрацоўнікаў праваахоўных органаў.

Між тым, газета “Новы Час” – афіцыйна зарэгістраванае ў Мініінфармацыі выданне.

**17 лістапада** ў Віцебску на грамадскую актывістку Тамару Кандакову склалі пратакол за незаконны распаўсюд сродку масавай інфармацыі — газеты «Витебский курьер». Спн. Кандакову затрымалі, калі яна распаўсюджвала недзяржаўнае выданне на вул. Церашковай. Суд Кастрычніцкага раёна Віцебска аштрафаваў распаўсюдніцу на 700 тысяч рублёў за парушэнне парадку распаўсюду выдання.

Нагадаем, «Витебский курьер» бясплатна распаўсюджваецца ў Віцебску намаганнямі грамадскіх распаўсюднікаў, бо дамагчыся права на продаж у шапіках «Белсаюздруку» і на падпіску па каталогу “Белпошты” калектыву газеты не ўдаецца ўжо некалькі гадоў.

**27 снежня** грамадская распаўсюдніца недзяржаўнай газеты «Витебский курьер» Тамара Кандакова накіравала скаргу на рашэнне райсуда ў Віцебскі абласны суд. Т. Кандакова не згодная з рашэннем суддзі Іны Грабоўскай, якая зыходзіла з таго, што «Витебский курьер» — гэта замежнае выданне, на распаўсюд якога трэба мець асобны дазвол. Газета выдаецца ў Смаленску, а значыць — на тэрыторыі адзінай Саюзнай дзяржавы, лічыць распаўсюдніца. Апрача таго, суд так і не вызначыў, што будзе з адабранымі ў яе газетамі, гэта 151 асобнік. У судовай пастанове запісана: «канфіскаваць». Але не пазначана, ці трэба камусьці перадаць канфіскаваныя выданні, знішчыць ці недзе захоўваць «для гісторыі».

**22 лістапада** журналістам стала вядома, што Пухавіцкі райвыканкам (Магілёўская вобласць) разаслаў кіраўнікам мясцовых прадпрыемстваў і арганізацый афіцыйныя лісты з патрабаваннем “выканаць даведзены план падпіскі на кантраляваныя друкаваныя выданні” і зрабіць пісьмовую справаздачу пра вынікі падпіскі. Дакумент падпісаны старшынёй выканкама Фёдарам Караленем. У пераліку дзяржаўныя перыядычныя выданні: “Рэспубліка”, “Мінская праўда”, “Пухавіцкія навіны”, “Планета”, “Беларуская думка” і інш. Асаблівую ўвагу ў лісце патрабуецца звярнуць на “кантраляваную рэспубліканскую газету “Советская Белоруссия””.

**13 снежня** стала вядома, што кіраўнікі дзяржаўных і прыватных арганізацый г. Маладзечна і Маладзечанскага раёна атрымалі афіцыйныя лісты з патрабаваннем

арганізаваць падпіску на шэраг дзяржаўных перыядычных выданняў. Дакумент падпісаны старшынёй мясцовага райвыканкама Фёдарам Дамаценкам.

Паводле ліста, стандартны набор: «Советскую Белоруссию», «Мінскую праўду», «Маладзечанскую газету» павінны атрымаць структурныя падраздзяленні арганізацый, ветэраны вайны і працы, ідэалагічны актыў і лепшыя працаўнікі. Акрамя таго, пажадана забяспечыць працаўнікоў «асноўнымі рэспубліканскімі выданнямі», у лік якіх уваходзіць «Рэспубліка», «Звязда», «Народная газета», «Белорусская нива» і часопіс «Планета». Аб выкананні дадзенага даручэння абавязкова трэба паведаміць да 21 снежня ў ідэалагічны аддзел выканкама, пазваніўшы па аднаму з шасці (!) тэлефонаў.

**14 снежня** стала вядома, што ў Бялыніцкім раёне (Магілёўская вобласць) таксама практыкуецца прымусовая падпіска на дзяржаўныя СМІ. У прыватнасці, настаўнікам і выхавацелям дзіцячых садоў чыноўнікі з аддзела адукацыі райвыканкама настойліва «рэкамендавалі» падпісвацца на пэўныя выданні і пагражалі праблемамі, калі хто на гэтыя выданні падпісацца не захоча. Адказнымі за выкананне планаў па падпісцы ў сваіх установах прызначаюцца дырэктары школ і загадчыкі дашкольных дзіцячых установаў.

Пра тое, што ім даведзены жорсткія планы па забеспячэнні падпіскі на дзяржвыданні, паведамілі і супрацоўнікі паштовых аддзяленняў Бялыніцкага раёна. «Калі я не падпішу чытачоў на запатрабаваную колькасць асобнікаў той жа “Советской Белоруссии”, то мяне пазбавяць прэміяльных на ўвесь квартал, — распавёў паштальён аднаго з паштовых аддзяленняў раёна. — Таму, калі не атрымліваецца, даводзіцца самім выпісваць па некалькі асобнікаў газет».